# ПАДПІСВАЙЦЕСЯ!

## З 1-га студзеня 1928 году

да выдавецтва ЦК ЛКСМБ „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“
перайшло выданьне часопісі

# „МАЛАДНЯК“

„Маладняк“ выхо- **у 1928 годзе** дзіць значна рэарганізаваным і павялічаным у памеры да 7-мі друкаваных аркушаў, на лепшай паперы.

Рэгулярны штомесячны выпуск часопісі ГАРАНТУЕЦЦА.

## На 1928 год БУДУЦЬ ДАДЗЕНЫ ДАРМОВЫЯ ДАДАТКІ:

**Гадавым падпішчыкам:**

1) Камплект „Маладняка“ за 1927 год або
2) Бібліатэчка Маладнякоўскае кніжніцы на 3 руб.

**Паўгадавым:**

Бібліатэчка Маладнякоўскае кніжніцы на суму 1 руб. 50 кап.

**НА ПРАЦЯГУ ГОДУ БУДУЦЬ ДРУКАВАЦЦА Ў ЧАСОПІСІ**

ня толькі творы сяброў „Маладняка“ але шэраг перакладаў твораў пралетарскіх пісьменьнікаў інша-нацыянальных літаратур.

Для супрацоўніцтва ў аддзеле крытыкі запрошаны лепшыя беларускія крытыкі. Будзе таксама зьмешчана шэраг артыкулаў, аглядаў літаратур саюзных рэспублік і замежных краін.

У грамадзка-палітычным аддзеле будуць надрукаваны артыкулы аб культурнай рэвалюцыі, літаратуры, мастацтве і г. п.

Даецца штомесячна багаты кнігапіс і хроніка беларускага культурнага жыцьця і культурнага жыцьця саюзных рэспублік.

**Умовы падпіскі:**

| | |
|---|---|
| На год | 6 руб. |
| На паўгода | 3 руб. |
| На 3 месяцы | 1 р. 50 к. |
| На 1 месяц | 50 к. |

**ЦАНА асобнага нумару 60 кап.**

Гадавым падпішчыкам даецца рассрочка: пры падпісцы 2 р. і праз кожныя 2 месяцы па 2 рублі. Паўгадавыя падпішчыкі плацяць пры падпісцы 1 руб. 50 кап. і праз 2 месцы 1 руб. 50 кап. Дармовыя дадаткі высылаюцца падпішчыкам ў рассрочку пасьля атрыманьня апошняга ўзносу.

**Падпіска прымаецца:**

кантораю Выдавецтва ЦК ЛКСМБ „Чырвоная Зьмена“ — Менск, Камсамольская 25, усімі паштовымі аддзяленьнямі, усімі аддзяленьнямі БДВ і спэцыяльнымі ўпаўнаважанымі і агэнтамі Выдавецтва „Чырвоная Зьмена“.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**

Менск, клюб Карла Маркса, пакой № 29.

Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# БАЛЬШАВІК БЕЛАРУСІ

ЧАСОПІСЬ ПАЛІТЫКІ І ПРАКТЫКІ
ПАРТЫЙНАЙ ПРАЦЫ
ОРГАН ЦК КП(б)Б

№ 3
САКАВІК



МЕНСК—1928

Зьм. Прышчэпаў

# Задачы рэканструкцыі сельскай гаспадаркі ў сёлетнюю пасеўкампанію

Калі ў мінулыя пасеўныя кампаніі па сельскай гаспадарцы стаялі галоўным чынам, задачы аднаўленчага характару, дык у сёлетнюю пасеўную кампанію задачы дапаўняюцца цэлым шэрагам новых момантаў, якія даюць інакшую ўстаноўку ўсёй нашай аграрнай палітыцы і ўжо пасеўную кампанію неабходна разглядаць, як першы пачатак практычнага ажыцьцяўленьня вызначанага партыяй курсу па сельскай гаспадарцы. Апошнягодняя практыка нашай працы па рэканструкцыі ўсёй народнай Гаспадаркі паказала, што палітыка фарсіраванай індустрыялізацыі Савецкага Саюзу зьяўляецца мерапрыёмствам зусім рэальным і праз утварэньне вялізарных электрычных асяродкаў, праз адчыненьне новых буйных-прамысловых прадпрыемстваў і пераабсталяваньне старых, значна пашыраецца тэхнічная база індустрыі, якая пачынае браць на буксір усе іншыя, больш прымітыўныя галіны народнай гаспадаркі з тым, каб ператвораў іх разам з гэтым цягнуць уперад па шляху да сацыялізму. Але практыка паказала, што індустрыялізацыя будзе нармальна разьвівацца толькі пры тых умовах, калі ў належным напрамку будзе праходзіць і рэканструкцыя ўсёй нашай сельскай гаспадаркі, якая займае першае месца пасьля прамысловасьці ў сыстэме народнай гаспадаркі. А між тым у працягу аднаўленчага пэрыяду сельская гаспадарка пераважна разьвівалася як дробная індывідуальная гаспадарка і, такім чынам, аднаўленчы працэс у сялянскай гаспадарцы праходзіў, галоўным чынам, на базе прымітыўнай тэхнікі. Далейшае разьвіцьцё сельскае гаспадаркі на такім адсталым тэхнічным базісе ня будзе адказваць нашым задачам індустрыялізацыі і сацыялістычнаму будаўніцтву, бо спажывецкія запатрабаваньні вёскі ўжо вельмі пашырыліся і з кожным годам будуць расьці запатрабаваньні прамысловасьці і экспарту на прадукцыю сельскай гаспадаркі і вёска без рэканструкцыі сельскай гаспадаркі можа зьявіцца тормазам нашага сацыялістычнага будаўніцтва. Прыпомнім старыя часы, як тады праходзіла разьвіцьцё ўсёй наогул народнай гаспадаркі. У той час капіталізм, як у прамысловасьці, так і ў сельскай гаспадарцы ствараў буйныя капіталістычныя прадпрыемствы і цяпер, напрыклад, у такой краіне як у Усходняй Прусіі, сельская гаспадарка ў сваёй абсалютнай большасьці знаходзіцца ў руках аграрыеў капіталістых, якія арганізавалі свае буйныя сельска-гаспадарчыя прадпрыемствы па прыкладу капіталістычнае фабрыкі, заводу. Такі лёс чакае сельскую гаспадарку кожнае буржуазнае краіны, пры тых умовах, што яна будзе разьвівацца пры капіталізьме; на шлях капіталістычнага разьвіцьця сельскую гаспадарку царскае Расеі ставіла аграрная палітыка Сталыпіна. Прагрэсыўна разьвіваючыся капіталізм са ўсёй рашучасьцю ліквідуе фэадальную тэхніку ў сельскай гаспадарцы—трохпалёўку, першабытныя машыны і прылады, і замяняе новай тэхнікай, навуковай організацыяй сельска-гаспадарчай

вытворчасьці, скарыстоўваючы для гэтага агранамічную навуку, хімію, тэхнолёгію, інжынерную справу пры мэліарацыях і г. д. Разам з гэтым і вобшчынны прынцып землякарыстаньня замяняўся прыватнай уласнасьцю на зямлю і гэтым самым забясьпечылася капіталістычная канцэнтрацыя зямель у адных руках, якая праходзіла праз шырокае масавае абезьзямельваньне бядняцка-серадняцкага сялянства. Прымітыўная фэадальная тэхніка сельскай гаспадаркі і сама дробная сялянская гаспадарка без яе капіталістычнай рэканструкцыі не давала магчымасьці разьвівацца капіталістычнай прамысловасьці і пагэтаму паралельна з ростам к. індустрыі, праходзіла адпаведная к. рэарганізацыя і фэадальнай сельскай гаспадаркі. Капіталістычнай прамысловасьці патрэбны былі і буйныя капіталістычныя прадпрыёмствы ў сельскай гаспадарцы і яны ў кожнай буржуазнай краіне ўтвараюцца.

Наша сацыялістычнае будаўніцтва праходзіць у зусім іншых умовах і мэта яго зусім у іншым. Капіталізм, утвараючы буйнае землеробства, праводзіў шырокае разбурэньне, абезьзямельваньне сялянства. Зусім інакшым шляхам праводзім арганізацыю буйнага сацыялістычнага землеробства—мы ўцягваем самыя шырокія колы батракоў, беднякоў і сераднякоў вёскі ў арганізацыю гэтых новых форм гаспадаркі, арганізуем для гэтага большую дапамогу крэдытам, падаткам, спэцыялістымі і іншым, з тым, каб самі працоўныя масы будавалі гэта землеробства і праз яго паляпшалі сваё матар'яльнае становішча.

І для кожнага рабочага і селяніна павінна зьяўляцца аксіомай той просты факт, што дробная індывідуальная сялянская гаспадарка, як такая ня можа зьяўляцца сталай базай для разьвіцьця нашае сацыялістычнае індустрыі і ня будзе заўсёдышнай падставай наогул для нашага сацыялістычнага будаўніцтва. Ужо цяпер патрабуецца грунтоўная рэарганізацыя індывідуальнай сельскай гаспадаркі на новай тэхнічнай базе і ў новыя формы. Такімі формамі зьяўляецца калектывізацыя бядняцка-серадняцкіх індывідуальных гаспадарак і ўцягваньне іх у розныя віды, асабліва ў вытворчую, каапэрацыі. Сама індывідуальная сельская гаспадарка зьяўляецца ў сучасны момант прычынай, якая тармазіць палепшаньне наогул усёй сельскай гаспадаркі. Прывядзем прыклады. Пры арганізацыі кожнага сялянскага двара, як-бы мала ў яго зямлі ня было, патрабуецца паставіць усе неабходныя будынкі, купіць жывы і мёртвы інвэнтар і калі ўсё гэта справіць, дык атрымаецца вялікая перагружанасьць невялікага зямельнага падзелу капіталам, які з вытворчага боку нерацыянальна скарыстоўваецца. Капіталу ўсадзім шмат, а невялічкі зямельны падзел будзе даваць прыбытку мала і ў выніку адразу атрымаецца дэфіцыт. Не дарма цэлы шэраг індывідуальных бядняцкіх гаспадарак, атрымаўшых крэдыт на абсталяваньне сельскай гаспадаркі, ніяк часамі ня можа расквітацца пасьля.

Самаму „культурнаму гаспадару“ паспрабуйце пры 6 гэктарах зямлі ў крэдыт пабудаваць будынкі, купіць каня, карову, плуг, барану, малатарню і іншыя машыны, пракрэдытаваць яго насеньнем і кожны такі гаспадар, калі ў яго другіх прыбыткаў акрамя як ад сельскай гаспадаркі ня будзе, амаль што з выплатай крэдыту не справіцца і гаспадарка ў яго будзе зьяўляцца дэфіцытнай. Акрамя таго, калі ўзяць цэлы шэраг буйных машын і прылад, як напрыклад, малатарня, жняярка, трыер трактар, карыстаньне электрычнай энэргіяй, абсталяваньне малочнай і іншым буйным інвэнтаром, ды ніводная, як бядняцкая, гэтак і серадняцкая гаспадарка ў індывідуальным парадку не будзе мець мажлівасьці купіць гэты інвэнтар, а калі і купіць, дык ён пры малой колькасьці зямлі амаль што круглы год будзе зьяўляцца беспрацоўным.

Вазьмеце далей, гадоўлю і ўтрыманьне племяннное жывёлы таксама надзвычайна цяжка праводзіць у дробных індывідуальных сялянскіх гаспадарках, бо сама жывёла каштуе дорага і здабыць яе бядняцкай гаспадарцы цяжка, паставіць добрае харчаваньне жывёлы пры беднасьці гаспадаркі немагчыма і па неабходнасьці такім гаспадаркам прыходзіцца здавальняцца дрэннай і непрыбытковай жывёлай, якая вытрымлівае цяжкія гаспадарчыя ўмовы беднай гаспадаркі. Таксама вырашчваньне сартавога насеньня тармазіцца недахопам зямлі і бывае часам і бедняку нельга перайсьці і да шматпольля па прычыне малазямельля. Усё гэта кажа аб тым, што палепшаньне гаспадарчага становішча бядняцкага і серадняцкага сялянства, правядзеньне перабудовы ўсёй сельскай гаспадаркі магчыма пры шырокай калектывізацыі бядняцка-серадняцкага сялянства. А пры такім становішчы, калі бядняк сядзіць на індывідуальнай гаспадарцы, ён ставіць Савецкую ўладу ў такое становішча, пры яком надзвычайна цяжка правесьці гаспадарчую дапамогу кожнаму бедняку, ня гледзячы на тое, што большая частка дапамогі ўвесь час ідзе бяднейшаму сялянству. Акрамя таго, шмат сродкаў, якія мы кожны год на гэта трацім, становішча беднякоў, якія жывуць на індывідуальных гаспадарках і да гэтага часу, зьяўляецца кепскім. Цяпер, калі возьмем тую быўшую вясковую беднату, якую мы ў свой час аб'ядналі ў калхозы іх гаспадарчае становішча ўжо ў сучасны момант зьяўляецца куды лепшым. Пагэтаму практыка дапамогі індывідуальным бядняцкім гаспадаркам і тым, якія аб'ядноўваюцца ў калектыўныя гаспадаркі відавочна паказала, што толькі праз арганізацыю калектыўных аб'яднаньняў мы будзем мець магчымасьць вывесьці беднату з цяжкага гаспадарчага становішча пры індывідуальным землякарыстаньні.

На практыцы зараз мы маем такое становішча, калі вясковая беднота зьяўляецца адным з тых, сацыяльных пластоў на вёсцы, на які пралетарыят апіраецца. Між іншым пры індывідуальным вядзеньні сельскай гаспадаркі няма ніякіх асаблівых перспэктыў і на палепшаньне яе матар'яльнага становішча пры ўсіх жаданьнях Савецкае ўлады. А тым часам адбудовай новых фабрык і заводаў, вялізарным пашырэньнем індустрыялізацыі, Савецкая ўлада мае магчымасьць палепшыць становішча пралетарыяту. Каб вывесьці з сучаснага гаспадарчага тупіку вясковую беднату, у якім яна зараз знаходзіцца партыя ўжо дала катэгарычную дырэктыву правесьці дастатковы лік мерапрыемстваў па фінансаваньню калектывізацыі вясковай беднаты і серадняцкага сялянства. Бяднейшае сялянства і серадняк, якіх больш за ўсё эксплёатавала ў старыя часы капіталістычная сыстэма і, якія стаялі перад пагрозай поўнага абезьзямельля ці закабаленьня, калі-б захаваўся капіталістычны парадак, павінны цяпер са ўсёй рашучасьцю падтрымліваць лёзунг партыі па арганізацыі сацыялістычнага земляробства. Не хаваючыся за сваё старое, дробнае, індывідуальнае землякарыстаньне, пазастаўшае беднякам і серадняком ад старага капіталістычнага строю, яны павінны ўдзельнічаць у сучасным сацыялістычным будаўніцтве, сьмелай рашучай арганізацыяй новых калектыўных каапэрыраваных сацыялістычных форм земляробства.

Для далейшага супроцьстаўленьня капіталістычна-кулацкім тэндэнцыям на вёсцы, беднякам і неабходна серадняком праводзіць арганізацыю новага сацыялістычнага земляробства праз калектывізацыю і каапэраваньне. Такую ўстаноўку рашуча праводзіць партыя ў сваіх практычных мерапрыемствах па правядзеньню аграрнае палітыкі і бядняцка-серадняцкае сялянства павінна падтрымаць яе. Толькі аб'яднаўшыся ў калектыўныя гаспадаркі, каапэраваўшыся, магчыма па новаму перабудаваць і сельскую гаспадарку ў параўнаньні з любой індывідуальнай гаспадаркай. Якія-ж практычныя мерапрыемствы правесьці ў нашай аграр-

най палітыцы, каб яны дапамагалі бедняку і серадняку пераходзіць да калектыўных аб'яднаньняў? Да такіх мерапрыемстваў намі вызначаецца— усе бядняцка-серадняцкія гаспадаркі, якія аб'яднаюцца ў калектывы, павінны быць у тым-жа годзе і ў першую чаргу земляўпарадкаваны за кошт дзяржавы. Далей, з тае прычыны, што бяднейшыя сяляне маюць надзвычайна мала зямлі ў сваім фактычным землякарыстаньні нормы іх пры пераходзе да калектыўных форм павінны быць пашыраны ў параўнаньні з індывідуальнымі гаспадаркамі і пры самом земляўпарадкаваньні ім павінна давацца лепшая зямля. І каб самы пераход да калектыўных форм не тармазіўся тымі членамі зямельнага вобчаства, якія жадаюць застацца пры індывідуальным землякарыстаньні, неабходна дазволіць любой меншасьці, але ня менш як 5 дварам без дазволу вобчаства ў любы час пераходзіць да калектыўных форм землякарыстаньня. Разам з гэтым неабходна забясьпечыць поўнасьцю крэдытам, асабліва ізноў арганізуемыя калектыўныя гаспадаркі. У сёлетнім годзе мы на гэту справу асыгноўваем крэдыту 1.660 тысяч руб., між тым, як у леташнім годзе было адпушчана значна менш.

Ужо зьвесткі ёсьць, што цяга да калектыўных форм земляробства пашырылася і сяляне выносяць пастановы, падаюць заявы аб арганізацыі калектываў, але месцамі гэтыя матар'ялы толькі прымаюцца і ніякіх пасьля канкрэтных мерапрыемстваў не праводзіцца. Такія адносіны да калектывізацыі неабходна разглядаць як крымінальную справу і такое „спачуваньне" калектывізацыі пара зьмяніць сур'ёзным дзелавым падыходам. *Са ўсёй рашучасьцю трэба на мясцох дабіцца таго, каб па кожнай пастанове, па кожнай заяве сялян аб пераходзе іх да калектыўных форм земляробства адразу высылаўся туды агранам, інструктар, палітпрацаўнік, якія-б дапамаглі практычна арганізаваць той ці іншы калектыў, бо без нашага практычнага ўдзелу ў гэтай працы самому сялянству цяжка праводзіць арганізацыю новых форм земляробства.* А ў нас да гэтага часу шмат ёсьць на мясцох працаўнікоў, якія ма'быць штодзённа ставяць пытаньні аб пераходзе да калектываў адразу ўсяго сялянства, і занятыя такімі агульнымі маштабамі і праблемамі не прыдаюць ніякага значэньня асобным заявам і пастановам сялян аб калектывізацыі і такім падыходам фактычна зрываюць палітыку партыі па калектывізацыі вёскі. Пара адзначыць, што месцы яшчэ і да гэтага часу сур'ёзна і практычна не ўзяліся за калектывізацыю бядняцка-серадняцкага сялянства.

Другой установкай, якая да гэтага часу не стаяла так рашуча ў нашым сельска-гаспадарчым будаўніцтве зьяўляецца індустрыялізацыя сельскай гаспадаркі. Да гэтага часу наша ўвага была сканцэнтравана, галоўным чынам, на правядзеньні земляўпарадкаваньня, мэліярацыі, аграмерапрыемстваў. Усе яны пры нядаўным заняпадзе беларускай сельскай гаспадаркі зьяўляюцца і на далей аснаўнымі мерапрыемствамі, але-ж у сучасны момант, калі пачаўся пэрыяд рэканструкцыі сельскай гаспадаркі і калі праз павялічэньне прадукцыі будзе павялічвацца яе таварнасьць, мы становімся перад неабходнасьцю індустрыяльнай перапрацоўкі цэлага шэрагу прадуктаў, як, напрыклад, бульбу, амаль што ніколі ня будзе рэнтабельным транспартаваць у неперапрацованым выглядзе; перапрацоўкі патрабуюць—лён, фрукты, малако, мяса і іншыя прадукты. Такія індустрыяльныя прадпрыемствы даюць мажлівасьць перапрацаваць сыравіну ўнутры Рэспублікі, значна павялічваць прыбытак ўсяе народнае гаспадаркі, скарыстоўваць беспрацоўных і павялічваць лік пралетарыяў, адначасова разьвіваць таварнасьць сялянскай гаспадаркі і гэтым самым павялічваць яе прыбытак, акрамя таго, ставіць у такую залежнасьць дробную сялянскую гаспадарку ад індустрыяльных

прадпрыемстваў, пры якім росквіт іх будзе залежаць ад працы прамысловых прадпрыемстваў. Пашырэньне прамысловых прадпрыемстваў у сельскай гаспадарцы ў дарэвалюцыйны час праходзіла надзвычайна хутка і гэта былі прадпрыемствы, якія будаваліся выключна ў абшарніцкіх маёнтках у мэтах рэнтабельнага капіталістычнага разьвіцьця сваіх гаспадарак і больш шырокай і інтэнсыўнай капіталістычнай, замест палуфэадальнай эксплёатацыі сялянства.

І цяпер яшчэ ўсім вядома, як на Беларусі ў старыя часы армія падзёншчыкаў па некалькі дзесяткаў тысяч чалавек за трыццаць капеек у дзень працавалі ў капіталістычных прадпрыемствах. Гэта былі ў сельскай гаспадарцы фабрыкі эксплёатацыі ваколічнага бедняцка-серадняцкага сялянства. Будуемыя намі цяпер індустрыяльныя прадпрыёмствы па індустрыялізацыі сельскай гаспадаркі пачалі і на далей будуць адыгрываць зусім інакшую ролю. Мы ставім, як практычную мэту, і цяпер з вялікаю нагружанасьцю працуем над тым, каб дробную, індывідуальную, сялянскую гаспадарку перарабіць у сацыялістычную. Панам і капіталістам было карысна пакідаць бедняцка-серадняцкае сялянства жыць пры дробных мала прыбытковых гаспадарках, з тым, каб лепш было эксплёатаваць сялянства. Мы працуем цяпер над пабудовай новай, сацыялістычнай гаспадаркі і надзвычайна важным момантам у гэтай пераадбудове будзе зьяўляцца адчыненьне індустрыяльных прадпрыёмстваў, бо яны павінны будуць перапрацоўваць галоўным чынам прадукцыю сялянскіх гаспадарак, ад чаго таварнасьць апошніх будзе пашырацца і пад уплывам індустрыі сяляне пачнуць ужываць новыя лепшыя культуры, новыя мэтоды апрацоўкі зямлі. І, такім чынам, калі абшарніцкія індустрыяльныя прадпрыёмствы прыгняталі сялянства, дык сучасная Савецкая індустрыя будзе праводзіць рэарганізацыю і росквіт сялянскай гаспадаркі і шырока паляпшаць дабрабыт бедняцка-серадняцкага сялянства.

Цэлы шэраг такіх прадпрыемстваў будзе будаваць дзяржава, і тут неабходна адзначыць, што да гэтага часу акругі і раёны не зразумелі вялікае задачы па арганізацыі прамысловых прадпрыёмстваў па перапрацоўцы сельска-гаспадарчых прадуктаў і належных мерапрыёмстваў; да гэтага часу не арганізавалі, між тым, як уся мясцовая прамысловасьць, акрамя камунальнай, павінна ў нашых умовах зьяўляцца прамысловасьцю, якая будзе грунтавацца на сельска-гаспадарчай сыравіне. Але разам з дзяржаўным будаўніцтвам прамысловасьці нам, як мага шырэй, трэба праз каапэрыраванае сялянства разгарнуць адчыненьне такіх прадпрыемстваў і самім каапэрыраваным сялянствам; пакуль што гэта праца вядзецца толькі па малочнай гаспадарцы. Па перапрацоўцы іншых прадуктаў нічога ня зроблена і сялянскі капітал да гэтае справы ня прыцягнут. У кожным раёне і акрузе неабходна вызначыць усе лішкі розных відаў сыравіны сельскай гаспадаркі і адначасова дзяржаўным установам і каапэрыраваному сялянству пачаць будаваць розныя прадпрыемствы з тым, каб пашырыць тэмп рэарганізацыі і палепшаньня сельскай гаспадаркі. У сёлетнім годзе толькі па сельска-гаспадарчаму крэдыту мяркуецца адпусьціць 2.340.000 руб.

Кантрактацыя зьяўляецца новым момантам у аграрнай палітыцы, якому раней не прыдавалі ніякага значэньня ад чаго і гэтыя мерапрыёмствы ў леташнім годзе і правалілісі, а між тым дзеля таго, каб мець сталы ўплыў на сялянскую гаспадарку, каб таварная сыравіна гэтых гаспадарак адразу паступала на фабрыкі і заводы, каб праводзіць рэгулярнае плянаваньне індывідуальнай сялянскай гаспадаркай, неабходна правясьці шырокае кантрактаваньне з сялянствам на іх прадукцыю. У якасьці таварных лішкаў ужо цяпер ёсьць цэлы шэраг прадуктаў, як напрыклад: лён, бульба, садавіна, канюшына, лубін, гадоўля сьвіней з

бэконным адкормам, гадоўля птушак, рыбы г. д. Разам са снабжэньнем сыравінай фабрык і заводаў праз контрактацыю магчыма пашырыць і экспорт розных сельска-гаспадарчых прадуктаў. У гэтым годзе на Беларусі мяркуецца закантрактаваць:

| Культуры | Дзесяцін | Мяркуецца прадукцыя | Колькі будзе затрачана сродкаў |
|---|---|---|---|
| Канюшына . . | 2000 гэкт: | 2296 цэн. | 100.000 |
| Серадэла . . | 300 „ | 147,6 „ | 9.000 |
| Лубін . . . | 1500 „ | 2380 „ | 30.000 |
| Карм. буракі . . | — | 164 „ | 5.000 |
| Лён даўгунец . | 2000 „ | 3280 „ | 24.000 |
| Пів. ячмень . . | 800 „ | 393,6 „ | 16.000 |
| Лён валакно . . | 20000 „ | 43000 „ | 540.000 |
| Лён семя . . | 10000 „ | 18300 „ | 100.000 |
| Бульба . . . | 6500 „ | 300000 „ | 227.500 |
| Ячмень . . | 3000 „ | 15000 „ | 48.000 |
| | — | — | 1.099.500 |

На ўсё гэта асыгнована 1.099.500 руб. Усё будзе залежыць ад мейсцаў, як практычна яны правядуць працу і гэтым самым пашыраць увязку сялянскай гаспадаркі і прамысловасьці. Хоць і няўдалы, вопыт мінулага году не павінен прапасьць дарма, дырэктыву партыі аб пашырэньні контрактацыі і аб пасьпяховым яе правядзеньні неабходна выканаць. Сёлета трэба зьліквідаваць тую асноўную бяду, што некаторыя раёны нават і няведалі што ў іх праводзіцца контрактацыя і замест гэтага зрабіць гэту працу масавай і папулярнай.

Арганізацыя сацыялістычнага будаўніцтва ў сельскай гаспадарцы і асабліва пераўтварэньне ў гэтым напрамку сельскай гаспадаркі будзе залежыць ад усебаковага каапэрыраваньне сельскіх гаспадарак. Да гэтага часу мы ахапілі сыстэмай сельска-гаспадарчай каапэрацыі каля 37% сялянскіх двароў і як задача перад намі стаіць у бягучым гаспадарчым годзе давесьці сучасны процант каапэрыраваньня ня менш, як да 50% па БССР. Пры гэтым нам асабліва неабходна пашырыць арганізацыю розных вытворчых відаў сельска-гаспадарчай каапэрацыі, а ў нас пакуль што, з гэтых відаў невялікае разгортваньне мае толькі малочная каапэрацыя. Што датычыцца такіх таварыстваў, як па садоўніцтву і агародніцтву, насеннаводных, бульбяных, ільняных і іншых, дык яны амаль што адсутнічаюць і на мясцох нічога ня зроблена ў гэтых адносінах. Дырэктыву партыі аб арганізацыі спэцыяльных відаў каапэрацыі ў нашых умовах трэба разумець, што мы павінны ў бліжэйшы час утварыць такую моцную сетку нізавых малочных, насеннаводных, садова-агародных таварыстваў з тым, каб арганізаваць саюзы гэтых спэцыяльных відаў каапэрацыі. З асаблівай увагай сёлета мы павінны аднесьціся к вопыту па арганізацыі пасёлкавых каапэратываў. Неабходнасьць іх выклікаецца тым, што ў нас шмат розных відаў сельска-гаспадарчай каапэрацыі і калі селяніну ўва ўсе з іх запісацца, дык патрэбуецца шмат сродкаў. Акрамя таго ёсьць цэлы шраг гаспадарча-каапэрацыйных функцый, якія пакуль што магчыма і карысна скарыстоўваць толькі ў межах пасёлку. Да такіх функцыяў належыць арганізацыя машыннага, бычачага, садова-гароднага

таварыстваў і іншых, якія магчыма перадаць пасёлкаваму таварыству. Разам з гэтым таварыству будзе перададзены і цэлы шэраг гаспадарчых функцый арганізацыі шматпольных грамадзкіх садоў і іншага. Разам з гэтым ёсьць цэлы шэраг відаў каапэрацыі: як малочная, крэдытная, сельска-гаспадарчыя таварыствы па закупцы і збыту, якія выходзяць за межы пасёлку і павінны аб'яднаць цэлы шэраг пасёлкаў і вёсак, куды будуць уваходзіць і пасёлкавыя каапэратывы. Такая ўстаноўка пашырыць наша каапэрацыйнае будаўніцтва, калі яго ўмела на мясцох правядуць.

У пярыяд пасеўнай кампаніі фактычна вызначаюцца посьпехі сельскай гаспадаркі на цэлы год і пагэтаму вясновую сяўбу неабходна скарыстаць для арганізацыі сялянскіх мас на агульнае пашырэньне пасяўной плошчы, рэканструкцыю сельскай гаспадаркі з тым, каб павялічыць у нашых умовах пасеў тэхнічных культур ільну, канаплі, бульбы, палепшыць харчовае становішча нашай жывёлы праз пашырэньне палявога травасеву, распаўсюджваючы канюшыну, віку, серадэлу і карнявыя карняплоды. У сёлетнім годзе мы вызначаем пашырыць агульную пасяўную плошчу ў сярэднім па Беларусі толькі на 2% і адначасова з гэтым пашырыць пасеў тэхнічных культур на 11%, бульбы—7% і палявы травасеў ня менш як на 25%. Такія, вызначаемыя намі задачы, зьяўляюцца надзвычайна сьціплымі, напрыклад, пасеўная плошча павінна пашырыцца больш пры сучасных нашых мерапрыемствах па рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, калі мы шырока пераходзім на шматпольле з аднадасовым зьнішчэньнем трохпольля, калі шляхам мэліарацыі ўцягваем няўдобныя землі ў інтэнсыўнае сельска-гаспадарчае карыстаньне і разам з гэтым і да гэтага часу праводзім дадатковае землянадзяленьне беднаты зямлёй, якая перадаецца з лясных і іншых фондаў. Я хачу гэтым самым сказаць, што калі на мясцох будуць прыняты належныя мерапрыёмствы, дык пасяўную плошчу магчыма значна больш пашырыць. Дабіцца пашырэньня пасяўной плошчы магчыма ні адміністрацыйнымі мерамі, а ўмелай арганізацыяй цэлага шэрагу гаспадарчых мерапрыёмстваў, да якіх належыць сваечасовае здавальненьне беднаты насенным матар'ялам і іншымі сродкамі вытворчасьці, дапамогай беднаце праз камітэты ўзаемадапамогі цягавой сілай, плугамі, угнаеньнем. Разам з гэтым арганізацыя шырокага пераходу ўсёй масы сялянства на шматпалёвыя севазвароты можа значна павялічыць пасяўную плошчу. Пад грамадзкі кантроль неабходна ўзяць усю зямлю, якая знаходзіцца ў працоўным карыстаньні, і сачыць за тым, каб яна ў максімальна-вялікім процанце скарыстоўвалася пад пасеў і калі гэта не праводзіцца—зямля пустуе, дык вырашаць пытаньні аб адбіраньні зямлі і перадачы яе тым, хто будзе скарыстоўваць рацыянальна па гаспадарчаму.

Мы ніколі яшчэ перад сялянствам востра не ставілі пытаньня аб павялічэньні ўраджайнасьці нашых палёў і некаторыя працаўнікі думаюць, што сам курс нашай сельска-гаспадарчай палітыкі, згодна якому мы разьвіваем жывёлаводны напрамак сельскай гаспадаркі нібыта аслабаніць нас ад задачы павялічэньня ўраджайнасьці. Апошні пленум ЦК КП(б)Б даў выразную дырэктыву па гэтаму пытаньню якая кажа, што пры нашым курсе на разьвіцьцё жывёлаводзтва і інтэнсыўных культур, мы павінны дабівацца пры скарачэньні самой плошчы збожжавых культур павялічэньня іх, галоўным чынам, праз павялічэньне ўраджайнасьці да такога ліку, каб сам баланс збожжавых культур ні ў якім разе не скарачаўся, а наадварот з году ў год павялічваўся. Сама ўраджайнасьць асноўных культур па БССР у параўнаньні з дарэвалюцыйным часам такая:

| Назва культур. | 1911-15 г. | 1924 | 1925 | 1926 | 1927 | В %% к 1911-15 году. | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | 1924 | 1925 | 1926 | 1927 |
| Жыта . . . . . | 48,2 | 46,1 | 46.8 | 38,8 | 41,4 | 95,6 | 97,1 | 80,5 | 85.9 |
| А в ё с . . . . | 47,1 | 55,0 | 51.6 | 39,2 | 34,9 | 116,8 | 109.6 | 83,2 | 74,1 |
| Ячмень . . . . | 45,9 | 48.9 | 50,8 | 44,7 | 40,4 | 106,5 | 110,7 | 97,4 | 88,0 |
| Бульба . . . . | 459 | 547 | 561 | 636 | 535 | 119,2 | 122.2 | 138,6 | 116.6 |
| Лён (валакн.) . . . | 30,9 | 23,6 | 20.8 | 15,7 | — | 76,4 | 67.3 | 50.8 | -- |

За ўвесь час пасьля рэвалюцыі намі як быццам нічога ня зроблена па павялічэньню ўраджайнасьці. Пры такім становішчы, калі з правядзеньнем цэлага шэрагу мерапрыёмстваў, накірованых на палепшаньне сельскай гаспадаркі, ураджайнасьці не павялічваюцца, па мойму магчыма аб гэтым гаварыць як аб зусім ненармальным зьявішчы ў сельскай гаспадарцы. Гэта мяжуецца з крізісам і заняпадам сельскай гаспадаркі, пры якім нашы капітальныя ўкладаньні ў сельскую гаспадарку не даюць ніякай эфэктыўнасьці. Складаецца ўражаньне аб нерэнтабельным скарыстоўваньні намі грашовых сродкаў па сельскай гаспадарцы. Непашырэньне ўраджайнасьці ў нашай сельскай гаспадарцы адбіваецца на яе таварнасьці і ня дзіва, што сучасная наша таварнасьць ніжэй, чым яна была ў дарэвалюцыйны час, бязумоўна, што на гэтым адбіваецца значна павялічанае пасьля рэвалюцыі харчаваньне самога сялянства, якое ў дарэвалюцыйны час недаедала, дзякуючы шырокай экспләатацыі. Зразумела, што ніхто і ня думае аб тым, каб спажывецкі ўзровень вёскі застаўся такім, якім ён быў у старыя дарэвалюцыйныя часы і самы факт ліквідацыі экспләататарскай сыстэмы павінен быў палепшыць матар'яльнае становішча бедняцка-серадняцкага сялянства ў параўнаньні з дарэвалюцыйнымі часамі, што фактычна і адбылося. Але разам з гэтым павінны разгарнуцца сілы вытворчасьці сельскай гаспадаркі так шырока, што пры поўным здавальненьні спажывецкіх запатрэбаваньняў вёскі таварныя лішкі павінны значна пашырыцца і поўнасьцю забясьпечыць запатрэбаваньне гараду і нашых задач экспорту.

Між тым, як пакуль што мы маем усё павялічваючуюся норму харчаваньня вёскі і распачаўшыя тормазы ў снабжэньні гораду прадуктамі сельска-гаспадарчай вытворчасьці, некаторы зрыў плянаў нашага экспарту, што адбіваецца на завозе неабходных абсталяваньняў, патрэбных на індустрыялізацыю савецкага саюзу. Такі ўзрост сельскай гаспадаркі, які пакуль што ідзе ў жывот, нас здаволіць ня можа таму, што недахоп прадуктаў сельска-гаспадарчай вытворчасьці магчыма адаб'ецца на рэканструкцыі ўсёй народнай гаспадаркі. Пагэтаму, пытаньне аб павялічэньні ўраджайнасьці і разам з гэтым павялічэньне таварнасьці зьяўляецца асноўнай праблемай сёняшняга дню ў нашай працы па рэарганізацыі сельскай гаспадаркі і перад сялянствам мы павінны практычна ставіць задачу так, што яно павялічэньнем ураджайнасьці, пашырэньнем таварнасьці павінна практычна дапамагаць індустрыялізацыі савецкага саюзу, што раўнаважна пашырэньню нашага сацыялістычнага будаўніцтва. Асабліва бедняцка-серадняцкае сялянства павінна несьці належную гаспадарчую адказнасьць за нашае сацыялістычнае будаўніцтва і само належным чынам, акрамя іншых задач, павінна клапаціцца аб павялічэньні ўраджайнасьці і таварнасьці сельскай гаспадаркі да такога ліку, каб поўнасьцю забясьпечыць інтарэсы прамысловасьці і экспарту.

Прывядзём параўнаньне даных ураджайнасьці БССР з Заходня-Эўропэйскімі дзяржавамі.

Ураджай у пуд. з 1 дзесяціны за пэрыяд 1915-22 г.

| | Жыта | Ячмень | Авёс | Бульба |
|---|---|---|---|---|
| БССР [1] . . . | 48,2 | 45,9 | 47,1 | 459 |
| Бэльгія . . . | 126 | 160,1 | 126 | 1121,9 |
| Нямеччына. . . | 91,4 | 104,2 | — | 760,4 |
| Данія . . . | 98,7 | 146,7 | 117,4 | 1008,5 |
| Галяндыя . . . | 122,1 | 191,3 | 130,1 | 1097,2 |

Усе прыведзеныя намі Заходнія краіны далёка перагналі нас па ўраджайнасьці. Мы перад сабой павінны паставіць, як практычную мэту дагнаць у бліжэйшыя гады Заходня-Эўропэйскую ўраджайнасьць і наступныя даныя нашых дасьледчых станцый кажуць, што нам лёгка гэта зрабіць.

Сярэдняя ўраджайнасьць галоўных с. г. культур вопытных станцый БССР (пуд. з 1 дз.).

| Назва станцый. | Жыта | Авёс | Ячмень | Бульба |
|---|---|---|---|---|
| Прылуцкая (Менск) . . . . . . | 77 | 66 | — | 765 |
| Турская (Рагачоў) . . . . . . | 77 | 77 | 90 | 800 |
| Забалоцкая (Рагач.) . . . . . . | 85 | 90 | — | 805 |
| Горацкая . . . . . . . . | 104 | 109 | 98 | 983 |
| Магілёўская . . . . . . . . | 71 | 60 | — | 802 |
| У сярэднім: . . . . | 83 | 80 | 94 | 830 |
| Сярэдн. урадж. культ. гасп. . . . | 105 | 90 | 100 | 1320 |

Няхай кожная сялянская гаспадарка дасягне такіх ураджаяў і мы каласальна палепшым матар'яльнае становішча нашага сялянства і выведзем сельскую гаспадарку з таго крызісу, у якім яна зараз знаходзіцца.

Праўда і ў самых нашых мерапрыёмствах па сельскай гаспадарцы ёсьць прычыны, якія могуць адбівацца на павялічэньні ўраджайнасьці, напрыклад, земляўпарадкаваньне бязумоўна на той плошчы, дзе яно прайшло, зьяўляецца фактарам, які затрымлівае на некаторы час ўзрост ураджайнасьці, бо перад гэтым сялянства доўгі час ня поўнасьцю ўжывае ўгнаеньне, гаспадаркі аслабляюцца капіталамі і ня маюць магчымасьці поўнасьцю запасьціся сродкамі вытворчасьці, разам з гэтым пад сельска-гаспадарчае карыстаньне пападаюць слаба апрацаваныя і слаба абжытыя землі. Уся такім чынам земляўпарадкаваная плошча некалькі год будзе даваць паніжаную ўраджайнасьць і сельскія гаспадаркі на гэтай тэрыторыі будуць гадамі папраўляцца нібыта як пасьля хваробы. Адначасова з гэтым, мы ў нашых беларускіх умовах пры большай колькасьці забалочаных і іншых няўдобных зямель прымушаны ўкладаць значную

[1]) Даныя па БССР узяты за пэрыяд 1911-15 г.

колькасьць сродкаў на такія мерапрыёмствы, як мэліярацыя, землеўпарадкаваньне, дзе капітал ня хутка зьвяртаецца і патрабуецца некалькі год на тое, каб уложаныя намі зараз сродкі на гэтыя патрэбы далі належную гаспадарчую эфэктыўнасьць і ўсё-ж такі ня гледзячы на гэта мы ад такіх мерапрыёмстваў адмаўляцца ня будзем, бо бяз іх немагчыма правесьці рэканструкцыю ўсёй сельскай гаспадаркі. Наогул такія ўкладаньні зьяўляюцца бязумоўна рэнтабельным скарыстоўваньнем капіталу, хаця гэту рэнтабельнасьць мы атрымаем праз некалькі год. Аднак усе гэтыя моманты не павінны зьяўляцца фактарамі, якія-б на доўгі час адбіваліся на пашырэньні ўраджайнасьці, асабліва калі прыняць пад увагу, што разам з гэтым намі праводзіцца шмат мерапрыёмстваў, якія адразу павінны рабіць уплыў на павялічэньне ўраджайнасьці і да якіх датычыцца павялічаны завоз штучнага ўгнаеньня, ачыстка і пратраўліваньне насеннага матар'ялу, павялічэньне скабжэньня вёскі глебаапрацоўваючымі машынамі і прыладамі, узрост жывёлаводзтва, пашыраны пераход сялянства да шматпалёвых севазваротаў, пашырэньне зялёнага ўгнаеньня, лубіну. Памойму толькі гэтыя мерапрыёмствы павінны адразу і значна павялічыць ураджайнасьць нашых палёў, але-ж відаць, што частка гэтых мерапрыёмстваў пакуль што праводзіцца мейсцамі ў такой мінімальнай дозе, што ніякага ўплыву на павялічэньне ўраджайнасьці ня мае і відаць цэлы шэраг памянёных мерапрыёмстваў ужываюцца не як неабходнае мерапрыёмства, якім павінна карыстацца кожная сялянская гаспадарка, а ўжываецца пакуль што, як сродак аграпрапаганды.

І да гэтага часу разглядаць зернаачыстку, зялёнае і штучнае ўгнаеньне, пераход да шматпольля як аграпрапаганду зьяўляецца з боку нашых аграномаў і мясцовых працаўнікоў злачыннымі адносінамі да сваіх абавязкаў. Нам цяпер патрэбна больш мерапрыёмстваў, а не аграпрапаганды і часта за гэту аграпрапаганду хаваюцца без'адказныя пэрсоны, якія нічога ня хочуць рабіць і фактычна ніякіх мерапрыёмстваў не праводзяць, а „аграпрапагандзіруюць". Калі правядзеньнем такіх мерапрыёмстваў, як шматпольле, аграном павялічвае прыбытковасьць сялянскай гаспадаркі, калі пасевам кармовых кораньплодаў, або палявым травасевам аграном радыкальна палепшыць харчовае становішча жывёлы, а ачысткай насеньня павялічыць ураджайнасьць, вось такія мерапрыёмствы і будуць лепшым сродкам аграпрапаганды. Бязумоўна, аграпрапаганда мейсцамі патрэбна, але ні ў якім разе мы не павінны „аграпрапагандай" замяніць неабходнасьць цэлага шэрагу нашых самых неабходных мерапрыёмстваў, што мейсцамі робіцца і гэтым зрываецца праца па пашырэньню ўраджайнасьці і таварнасьці сельскай гаспадаркі.

Неабходна на мясцох як мага шырэй распрацаваць цэлы шэраг мерапрыёмстваў, зьвязаных з пашырэньнем ураджайнасьці, як ачыстка насеньня, магчыма большае ўжываньне розных відаў угнаеньня, пераход на шматпольле і інш. і практычна дабіцца максімальнага іх правядзеньня сярод сялянства. Разам з гэтым у кожнай акрузе ёсьць надзвычайна багатыя і карысныя прыклады высокіх ураджаяў нашых дасьледчых станцый, саўгасаў, калхозаў, асобных культурных гаспадарак, сялян-дасьледчыкаў, якія ў практычнай працы акруговымі і раённымі ўстановамі не скарыстоўваюцца пры распрацоўцы практычных мерапрыёмстваў па сельскай гаспадарцы і іншыя дасягненьні застаюцца невядомымі нашаму сялянству; а між тым на прыкладах гэтых гаспадарак трэба ўсяму сялянству практычна паказаць і дабіцца высокіх ураджаяў. Тыя мерапрыёмствы, праз якія ўжо дабіліся высокіх ураджаяў, павінны стаць масавымі практычнымі мерапрыёмствамі ўсяго сялянства. Кожная сялянская гаспадарка, кожная вёска, кожны раён павінен цьвёрда вызначыць наколькі ён павінен пашырыць ураджайнасьць і практычна дабіцца гэтага

пашырэньня. Разам з нізкай ураджайнасьцю мы да гэтага часу маем пастаянны харчовы крызіс і для нашае жывёлы. Пры жывёлаводным напрамку нашае сельскае гаспадаркі амаль што ў кожнай сялянскай гаспадарцы не хапае самых звычайных і грубых кармоў такіх—як салома і сена, а апошняе пры нашай забалочанасьці бывае самага кепскага гатунку. Праз пашырэньне мэліярацыі трэба дабіцца таго, каб мы сенам былі забясьпечаны поўнасьцю, але-ж гэтага мала для разьвіцьця ў нас малочнага жывёлаводзтва. Раёны малочнае гаспадаркі, а сюды належыць уся Беларусь за выключэньнем Палесься, павінны зараз пачаць шырока ўжываць кармовыя караньплоды, канюшыну, віку, серадэлу. Пачаць арганізацыю штучнае пашы, спрабаваць ужываньне сіласаваных кармоў і г. д. Ужываньне ўсіх гэтых культур зьвязваць з пераходам на шматпольле. Аб гэтых мерапрыёмствах мы больш гаворым чым робім і да гэтага часу ніводзін раён не паставіў перад сабой мэту, скажам, у пяць год перавесьці ўвесь раён на шматпольле, пасадзіць толькі ці гэтулькі тысяч дзесяцін караньплодаў, засеяць канюшыны, вікі, серадэлы і г. д. Усё праходзіць стыхійна, выпадкова, дзякуючы чаму і няма рэальных вынікаў. У сёлетнім годзе неабходна ў кожным раёне, сельсавеце вызначыць колькі будзе пераведзена на шматпольле калхозаў, пасёлкаў, вёсак, колькі будзе пасеена караньплодаў, канюшыны, вікі, серадэлі і цяпер жа правесьці падрыхтоўчую працу з тым, каб практычна ўсё гэта ажыцьцёвіць. Непасьпяховае распаўсюджваньне новых культур сярод бедняты часта стараюцца тлумачыць тым, што ў беднякоў няма належных сродкаў. Памойму гэта нясур'ёзная адгаворка, бо на ўсе гэтыя культуры даецца досыць значны крэдыт і кожны бядняк мае поўную мажлівасьць запасьціся імі, бяда толькі ў тым, што сярод бедняты не праводзілася належная агранамічная праца і бядняк па сваёй цемнаце адмаўляўся ад ужываньня такіх культур, якія значна павялічаць прыбытковасьць яго гаспадаркі. Усе новыя культуры, усе новыя аграмерапрыёмствы ў большай меры павінны праводзіцца сярод бядняцкіх і серадняцкіх гаспадарак і трэба ў такіх выпадках не наогул гаварыць аб дапамозе бядняцкім гаспадаркам, а дасканала вызначыць іх, правесьці ў іх неабходныя мерапрыемствы.

Усё гэта мажліва зрабіць таму, што крэдытных сродкаў па Белсельбанку мы ў сёлетнім годзе накіроўваем на сельскую гаспадарку 16.410 тыс. руб. і сродкі, прычым з гэтых сродкаў каля 50% пойдзе на разьвіцьцё і ўмацненьне сацыялістычнага сэктару сельскае гаспадаркі і 50% на непасрэднае абслугоўваньне індывідуальных гаспадарак. Такім чынам палітыка фінансаваньня сельскае гаспадаркі ўзята такая, каб пашырыць калектывізацыю, індустрыляізацыю і каапэраваньне сельскае гаспадаркі. Пры гэтым, калі дадаць да крэдыту сродкі, якія асыгнаваны па каштарысу, дык агульнае асыгнаваньне ўкладаньняў у сельскую гаспадарку ў сёлетнім годзе вызначыцца ў суме 24.080.000 руб. Цяпер крэдыты поўнасьцю пераводзяцца на месцы.

Разам з гэтым мы нарыхтоўваем наступныя сродкі вытворчасьці: аўсу ня менш, як—623.000 пудоў, ячменю—90.000 пуд., канюшыны звыш 5.410 тонн, сэрадэлы 246 тонн, вікі—1.230 тонн, караньплодаў—84 тонны, лубіну—1.328 тонн, ільну даўгунцу—879 тонн і па ўгнаеньню суперфасфату—5.500 тонн, калійнай солі—704 тонны, тамасоўкі—600 тонн, фасфарытнай мукі—1.500 тонн, чылійскае салітры—32 тонны, сернакіслага амонія—100 тонн, касьцяной мукі—80 тонн. З усіх гэтых сродкаў вытворчасьці ў нас будзе недахоп у зялёным і штучным ўгнаеньні, што пры правядзеньні падрыхтоўкі да вясеньняй сельска-гаспадарчай кампаніі трэба мець на ўвазе і замяняць іншымі відамі ўгнаеньня і больш шырока разгарнуць кампанію па нарыхтоўцы лубіну.

Розных машын і прылад завозім у Беларусь на суму 8.502.201 р. і мы лічым, што ў гэтых адносінах насельніцтва будзе поўнасьцю забясьпечана, неабходныя сродкі для крэдытаваньня насельніцтва асыгнаваны і пераведзены на месца. Мясцовым установам толькі трэба будзе дабіцца таго, каб калгасы і бядняцка-серадняцкае насельніцтва было ў першую чаргу і поўнасьцю забясьпечана сродкамі вытворчасьці. У гэтых адносінах кепска справа зьяўляецца ў тым, што на мясцох не падрыхтованы да рамонту машын і прылад і неабходна пасьпяшацца саўгасам, калгасам, камітэтам узаемадапамогі, саматужнай каапэрацыі з арганізацыей спэцыяльных майстэрняў з тым, каб інвентар бядняцка-серадняцкіх гаспадарак быў атрамантаван поўнасьцю.

Такім чынам, усімі неабходнымі сродкамі вытворчасьці мы будзем забясьпечаны ў больш-менш здавальняючым ліку.

З асаблівай яскравасьцю цяпер высьвятляецца роля вясковых камуністых і камсамольцаў і сялянскага актыву, які ў мінулай нашай працы па рэканструкцыі сельскай гаспадаркі сябе амаль што зусім ня выявілі арганізатарамі сацыялістычнага земляробства.

Пара агітацыі за новае земляробства прайшла, цяпер вясковыя партыйцы і камсамольцы павінны арганізаваць і паказаць сялянству новае сацыялістычнае земляробства.

---

**Я. Раманчук**

# XV зьезд УсеКП(б) і задачы шэфтаварыстваў

XV зьезд УсеКП(б) паставіў перад краінай і рабочай клясай шэраг складанейшых задач па караной перабудове вёскі і уцягненьню мільлёнаў дробных сялянскіх гаспадарак у агульнае рэчышча соцыялістычнага будаўніцтва. Партыя накіроўвае разьвіцьцё вёскі ў бок узмацненьня соцыялістычнага сэктару вёскі, у бок гаспадарчага і палітычнага выцясьненьня прыватнага капіталу, выцясьненьня кулака.

Калі мы адзначаем цяжкасьці соцыялістычнага будаўніцтва ў горадзе з прычыны малое пісьменнасьці і культурнасьці, то яшчэ горш у гэтых адносінах у нашай глухой адсталай вёсцы.

Між тым, ні адна з задач пастаўленых XV зьездам ня можа быць вырашана, калі мы цяпер-жа з усёй энэргіяй ня возьмемся за зьнішчэньне няпісьменнасьці ў вёсцы, за энергічнае прасоўваньне больш культурных форм вядзеньня гаспадаркі.

Рашэньні XV зьезду партыі прымушаюць шэфскія організацыі рашуча пераглядзець тэмп і зьмест сваёй работы. Яны папершае, падкрэсьліваюць усю важнасьць і неабходнасьць шэфскай работы як раз у напрамку садзейнічаньня калектывізацыі сялянскай гаспадаркі і культурнаму будаўніцтву вёскі. Гэтыя-ж рашэньні падругое, зьвяртаюць увагу на важнасьць работы шэфскіх арганізацый і прафсаюзаў як у вёсцы, так і сярод рабочых, якія зьвязаны з вёскай. Рашэньні зьезду павінны ствараць глебу дзеля пашырэньня базы шэфскай работы, дзеля яе энергічнага разгортваньня і ўсебаковага палепшаньня якасьці шэфскай работы.

Ці падрыхтаваны шэфскія арганізацыі да выкананьня задач у галіне калектывізацыі вёскі і разьвіцьця ў ёй культарнай рэвалюцыі. Трэба прызнаць, што далёка ня ўсе. Аб гэтым гавораць ітогі шэфскай работы за апошні год у шэрагу шэфскіх арганізацый.

Уся партыя ад ЦК УсеКП(б) да самых нізавых яе зьвеньняў з часу XIV зьезду партыі накіроўвала энергію ўсяго пралетарыяту, бяднейшага і сярэдняга сялянства на ўзмацненьне базы соцыялістычнага будаўніцтва індустрыялізацыю савецкага саюзу—і ў гэтых мэтах праводзіла ў жыцьцё лёзунг рэжыму эканоміі, працягваючы работу па ажыўленьню саветаў; аб'явіла барацьбу з бюрократызмам, паставіла аднэй з цэнтральных задач, як неабходнейшай умовы правядзеньня ўсіх баявых лёзунгаў у жыцьцё. Далейшае ўзмацненьне сувязі пралетарыяту і беднаты з асноўнай масай сялянства высоўваючы арганізацыю беднаты першачарговай задачай перад вясковымі партыйнымі ячэйкамі.

Шэфскія-ж таварыствы ў шмат мясцох БССР у лепшым выпадку працавалі проста без усялякай увязкі з бягучымі задачамі партыі, амаль нічога ня зроблена дзеля ўзмацненьня арганізацыйна-гаспадарчай дапамогі наогул, да павялічэньня проценту адпускаемых сродкаў на яе і г. д. Матэрыялы некаторых шэфскіх арганізацый гавораць аб зусім нездавальняючай у гэтых адносінах пастаноўцы работы.

Нават самыя моцныя шэфскія арганізацыі (Віцебск, Менск,) спазьняліся з сваячасовым правядзеньнем высоўваемых партыяй лёзунгаў і праламленьня іх у практыцы сваёй работы. У той-жа час прыходзіцца канстатаваць на вопыце шэрагу арганізацый (Менск, Бабруйск, Магілеў, Полацк), занадта слабае арганізацыйнае ўзьдзейнічаньне шэфскіх таварыстваў на вёску, як масавых пралетарскіх арганізацый, якім партыя адводзіць у іх рабоце на вёсцы ганаровую ролю правадыроў—застрэльшчыкаў у справе перабудовы сялянскай гаспадаркі ў сацыялістычным напрамку.

Шмат шэфскіх таварыстваў да апошніх часоў займаюцца яшчэ простым „сабезаўскім" забясьпячэньнем вёскі, альбо ў лепшым выпадку, элементарным задавальненьнем просьбы сялянства і вясковых арганізацый на дагаворных падставах.

У справе ажыўленьня саветаў, сыстэматычнай работы, большасьці шэфтаварыств, таксама не вялося. Шэфскія таварыствы абмяжоўваліся толькі пасылкай сваіх прадстаўнікоў для ўдзелу ў перавыбарах саветаў. Адгэтуль неабходна зрабіць той вывад, што шэфскія таварыствы ў БССР дасягнуўшы некаторых посьпехаў за 1927 год у справе ўзмацненьня арганізацыйна-гаспадарчай дапамогі ў вёсцы наогул, амаль што зусім ня выявілі сябе, як арганізатара ў справе перабудовы сельскай гаспадаркі ў сацыялістычным напрамку і слаба дапамагалі партыі ўзмацняць больш важныя вучасткі грамадзкай работы (работа з беднатой, ажыўленьне саветаў, каапэраваньне, работа з вясковым актывам).

Шэфскія арганізацыі, каб выканаць задачы, якія ўскладаюцца на іх партыяй у галіне калектывізацыі вёскі і разьвіцьця ў ёй культурнай рэвалюцыі, павінны рашуча пераглядзець сваю работу і ліквідаваць шэраг недахопаў, якія яшчэ маюцца ў іх рабоце і перашкаджаюць выкананьню важнейшых задач партыі на вёсцы.

Абавязак усіх шэфскіх арганізацый—неадкладна ўзьняць свой голас і напомніць аб сваім існаваньні. Усе без выключэньня шэфскія арганізацыі павінны безадкладна прыступіць да дэтальнай прапрацоўкі дырэктыў партыі па рабоце на вёсцы і ўнесьці на шырокае абгаварэньне мясцовых партыйных і рабочых арганізацый, прыстасоўваючы плян практычнага выкананьня гэтых дырэктыў да мясцовых абставін.

Шэфскія таварыствы павінны дабіцца такога становішча, каб пры правядзеньні работы ў вёсцы, яны сталі сапраўды найбольш моцнымі і вопытнымі грамадзкімі арганізацыямі, на якія магла-бы палажыцца партыя і органы савецкае ўлады. Як-раз ніхто іншы, як шэфскія арганізацыі павінны ўзяць на свае плечы галоўную цяжкасьць вясковай работы, паколькі яна выходзіць за рамкі афіцыйных, дзяржаўных і партыйных органаў, паколькі яна датычыцца масавых арганізацый пралетарскай грамадзкасьці.

Задачы гэтыя пастаўлены партыяй не ў парадку ўдарнай кампаніі, а як сыстэматычная штодзённая работа, разьлічаная на доўгі шэраг гадоў. За гэтым і ўдзел шэфскіх арганізацый у практычным ажыцьцяўленьні гэтых задач павінен праводзіцца не кампанійскім шляхам, а разгорнутай сыстэматычна-правільнай работай як у горадзе гэтак і ў вёсцы.

Высунутая XV зьездам партыі трэбаваньне палепшаньня якасьці работы ў поўнай меры адносіцца і да шэфскіх таварыстваў, палепшаньне масавай работы, узмацненьне справаздачнасьці перад рабочай масай, уцягненьне новых радавых рабочых у лік сяброў таварыства і больш шпаркае высоўваньне беспартыйнага актыву, больш шырокая работа на буйных прадпрыемствах, правядзеньне работы з адпускнікамі, і наогул рабочымі, якія зьвязаны з вёскай, ня толькі ў адпускную кампанію, але

арганізацыі, стаіць і будзе стаяць за савецкую народную ўладу адкрыта ў сапраўднасьці, а ня двудушна і толькі на словах. Мы ўпэўнены, што гэты беларускі народ падтрымае тут у краі тыя органы савецкай улады, якія створаны пры яго-ж удзеле. Тыя арганізацыі, якія яшчэ ня маюць сваіх прадстаўнікоў у цэнтральным органе краёвай улады выбяруць і дэлегуюць туды. Мы ўпэўнены, што ўсе хітрыя выкладзі контррэвалюцыянэраў і лжэ-сацыялістаў пад маскай агульна-нацыянальных лёзунгаў спаткаюць поўную няўдачу.

Народ сам разьбярэцца, дзе яго ворагі, дзе сябры і ня дасьць сябе ашукаць і гэтая ўпэўненасьць у падтрыманьні шырокіх народных мас краю, дае нам сілу энэргічна працягваць пачатую справу барацьбы з усімі яўнымі і таемнымі здраднікамі народнай справы, народных інтарэсаў.

Няхай жыве наша рабочая і сялянская рэвалюцыя!

Няхай жыве савецкая народная ўлада!

Няхай жыве свабодны беларускі працоўны сялянскі і рабочы народ [1])!

З кім у саўпраўднасьці былі, каго падтрымлівалі працоўныя беларускія масы, хутка нанова было сьцьверджана шэрагам пастаноў мясцовых зьездаў і сходаў.

Чацьвёрты агульна-губэрскі зьезд сялянскіх дэпутатаў Магілеўскай губэрні, заслухаўшы даклад аб 1-м Усебеларускім зьезьдзе і яго рэзалюцыях пастанавіў прызнаць неабходным, каб у бліжэйшы час быў створан Усебеларускі зьезд саветаў сялянскіх, рабочых і салдацкіх дэпутатаў для вырашэньня гаспадарчых пытаньняў, маючых дачыненьне да ўсяе Беларусі і *зацьверджэньня ва ўсім краі савецкай улады*. На гэтым зьезьдзе павінны быць прадстаўлены толькі *саветы сялянскіх, салдацкіх і рабочых дэпутатаў, але не „самазваныя беларускія рады і грамады“* [2]).

Агульны сход сялян вёскі Крывічы аднагодна выразіў пажаданьне, каб „самачынная беларуская рада“ была аддана народна-рэвалюцыйнаму суду. Вышэйшай краёваю ўладаю павінна быць толькі ўлада саветаў [3]).

## На шляхох адкрытай контр-рэвалюцыі

Пасьля свайго роспуску беларускі зьезд на нелегальным пасяджэньні 18 сьнежня абраў выканаўчы орган „Раду зьезду“, у складзе 57 членаў, якой было перадана ажыцьцяўленьне ўсіх пастаноў зьезду. Прэзыдыумам „Рады зьезду“, як гэта відаць з яго пастановы [4]) быў зацьверджаны Прэзыдыум зьезду, папоўнены адным таварышом старшыні і двума сакратарамі.

Хутка ўсе члены „Рады зьезду“ разьехаліся па мясцох, а ў Менску ў якасьці паўнаўладнага выканаўчага органу, застаўся Прэзыдыум, які складаўся па сьцьвярджэньні Е. Канчара, з групы нацыянал-шавіністаў, якая ў сваёй дзейнасьці не спынялася ні перад чым, або толькі дамагчыся свайго [5]).

Далейшае разьвіцьцё падзей цалком сьцьвердзіла гэтую характарыстыку выканаўчага органу 1-га Усебеларуская зьезду.

Скатваючыся крок за крокам па нахільнай паверхні барацьбы з савецкай уладай, ён хутка апынуўся ў лягеры актыўнай контр-рэвалюцыі, спрабуючы пацягнуць за сабой і ашуканыя ім вайсковыя часьці.

У момант найбольш абвостранай узброенай барацьбы савецкай улады з контр-рэвалюцыйнымі польскімі легіонамі генэрала Доўбар-Мусьніцкага, кіраўнікі распушчанага зьезду вайшлі з польскім штабам у

---

1) „Советская Правда“ 1927. № 17.
2) „Изв. Могилевского Сов. Раб. и Солд. Деп.“ 1918. № 5.
3) „Звезда“ 1918. № 23, (128).
4) Ф. Турук „Белорусское движение“ дадатак № 17, стар. 109.
5) Е. Канчар. „Белорусский вопрос“, стар. 53.

таемныя зносіны і ўсямерна стараліся палегчыць яму барацьбу з рабоча-сялянскай уладай.

Прызнаючы на словах цэнтральную савецкую ўладу, яны ў сапраўднасьці згаварваліся з пятлюраўскай Украінскай радай, з якой савецкая ўлада знаходзілася ў стане вайны, пасылаючы ў Кіеў сваіх паўнамоцных прадстаўнікоў (Алексюка), дамагаючыся праз Раду прадстаўніцтва ў Бярэсьці і г. д.

Каб дапамагчы штабу Доўбар-Мусьніцкага захапіць Бабруйск, які павінен быў стаць галоўнай базай польскіх легіёнаў для наступленьня на Менск, загадчыкам вайсковым Аддзелам Беларускай вайсковай рады Езавітавым, былі ўжыты рознастайныя меры для палягчэньня легіёнам гэтай апэрацыі.

Ім былі разасланы наступныя тэлеграмы:

„Смаленск. Бегараду Пашычу праз чыноўніка Паклазон, копія Вронскаму.

Неабходна аддаць загад двум-тром вайсковым начальнікам, каб яны ў тэрміновым парадку накіроўвалі людзей у Бабруйск, абсэрвацыйны пункт. Там патрэбны 1000 беларусоў. Сьпяшэце. Вынік чакаем.

„Гомель. Воінскаму начальніку".

Усіх прыбываючых да Вас беларусоў накіроўвайце ў крэпасьць Бабруйск абсэрвацыйны пункт".

„Кіеў. Белвайскрада. Алексюку.

У Бабруйск безакладна накіруйце 2000 людзей. Сьпяшэце. У Відаборы Палескіх чыгунак у 641 данскую дружыну накіруйце 1500 чалавек. Безадкладна" [1]).

Але гэтыя дакумэнты, бясспрэчна сьцьвярджаючы актыўны ўдзел кіруючых беларускіх арганізацый у контр-рэвалюцыйным паўстаньні польскіх легіёнаў, ні ў якім разе не адзіны выкрываючы матар'ял.

Пры вобыску ў памяшканьні Цэнтральнай Беларускай вайсковай рады была „выкрыта перапіска, якая сьведчыла аб сталых зносінах рады са штабам корпусу Доўбар-Мусьніцкага, што Рада арганізавала адкрытае падтрыманьне контр-рэвалюцыйных выступленьняў гэтага корпусу ў барацьбе з савецкімі войскамі, дапамагала польскім памешчыкам і контр-рэвалюцыянэрам у іх барацьбе супроць краёвай улады, супроць беларускага народу [2]).

Зразумела, што пасьля ўстанаўленьня гэтых фактаў краёвая савецкая ўлада, якая знаходзілася ў коле контр-рэвалюцыйных змоў і паўстаньняў, ужыла шэраг рашучых мер для ліквідацыі гэтых гнёздаў нацыяналістычнай контр-рэвалюцыі.

Азнаёміўшыся з матар'яламі і дакумэнтамі, выкрытымі пры вобыску ў памяшканьні Цэнтральнай вайсковай Рады і заслухаўшы даклад краёвага камісара па Унутраным справам, СНК Заходняга краю і фронту ўхваліў:

„1. Цэнтральную вайсковую Беларускую Раду распусьціць. Усе яе аддзелы закрыць, кіраўнікоў і членаў арыштаваць і аддаць суду ваеннарэвалюцыйнага трыбуналу.

2. Зьвярнуцца да беларускага народу з асобай адозвай у якой паведаміць прычыны разгону рады, выкрыць сапраўдную сутнасьць і характар дзейнасьці гэтай контр-рэвалюцыйнай арганізацыі" [3]).

Так бясслаўна скончыўся першы пасьлякастрычнікавы этап беларускага нацыяналістычнага руху, дзякуючы яго ўзурпацыі дробна-буржуазнай згодніцкай інтэлігэнцыяй, рэакцыйным чыноўніцтвам і палёнофільскай шляхтай.

[1]) „Звезда" 1918. № 23 (128).
[2]) „Утренняя Минская газета" 1918. № 7 (1948).
[3]) „Утренняя Минская газета" 1918. № 7. (1948).

**А. Вінаградаў, Я. Ракаў**

# Аб рацыяналізацыі партыйнага апарату

„У нашым кіраваньні занадта многа ўвагі аддаецца паперы".

(Ст. Касыёр, Арг. справаздача XV Зьезду).

Пытаньні рацыяналізацыі партапарату ў сучасны момант у шэразе іншых пытаньняў унутрыпартыйнага будаўніцтва займаюць важнейшае мейсца. Мы ўпяршыню з такой максымальнай увагай правяраем саміх сябе, работу свайго партапарату. Паступовая рацыяналізацыя партапарату мае каласальнае значэньне для справы кіраваньня сацыялістычным будаўніцтвам, прыдаючы кіраваньню неабходную чоткасьць і плянамернасьць.

Задача рацыяналізацыі нашага партапарату таксама шчыльна зьвязана з праблемай барацьбы з бюракратызмам, бо яна вызваляе многія і многія сілы партыі, якія недастаткова выкарыстоўваюцца дзякуючы нерацыянальнай дзейнасьці партапарату, на справу барацьбы з бюракратызмам у дзяржаўным апараце і за культурную рэвалюцыю.

На XV Партзьезьдзе т. Косыёр гэтак ахарактарызаваў недахопы нашага партапарату:

— „У нашым кіраваньні *занадта многа ўвагі аддаецца паперы*. Мы вось у ЦК пішам рэзалюцыю, у губэрнях яе перапісваюць і ў валасьцях, кожнай пасвойму, выдаецца цэлая лесьніца і на справе мы маем такую карціну, што нізавая арганізацыя атрымала дырэктыву ЦК і чакае, пакуль ня будзе зьверху загаду, ня будзе каманды, а—пакуль—паглядзелі і палажылі... У нас шмат непатрэбнага, столькі награмоджана, столькі непатрэбнай страты сіл і сродкаў, што неабходна прыняць сур'ёзныя меры да скарачэньня і спрашчэньня партыйнага апарату, таму што ён —*павінен быць прыкладам для ўсіх іншых апаратаў нашай дзяржавы*".

Вось чаму зараз пытаньнямі рацыяналізацыі партапарату і партработы заняты амаль-што ўсе партарганізацыі. Арганізуюцца камісіі, праводзяцца партсходы на гэтую тэму. Партыйны друк запоўнен паведамленьнямі аб вопыту і першых кроках рацыяналізацыі, партыйная маса вывучае недахопы і вышуквае шляхі іх зьнішчэньня.

У КП(б) Беларусі пачатак гэтай работы пакладзены выбарачным абсьледваньнем ЦК і ЦКК пад кіраваньнем асобнай камісіі двух партарганізацыяў—Віцебскай, Бабруйскай і часткова—Менскай, і ў іх усяе сыстэмы партыйнага і камсамольскага апарату. Адначасова абсьледуюцца таксама цэнтральныя апараты партыі і камсамолу. У гэтых дзьвюх і ў астатніх арганізацыях шырока прыцягнута да абмеркаваньня пытаньняў рацыяналізацыі партмаса, парт. і камсамольскі актыў, шырока высьветлены гэтыя пытаньні ў друку (асабліва шырока ў Віцебскай газэце „Заря Запада").

Але гэта нас нездавальняе. Неабходна, каб уся партыйная маса была ўцягнута ў абмеркаваньне гэтых пытаньняў. Толькі пры гэтай умове можна чакаць значных вынікаў гэтай работы. Ня толькі арганізацыі, закранутыя абсьледваньнем ЦК і ЦКК, але і ўсе партарганізацыі павінны прапрацаваць пытаньні рацыяналізацыі, бо гэта справа ўсяе партыі, а не паасобных яе частак, ці работнікаў апарату толькі. Рацыяналізаваць—азначае выхаваць кіруючыя кадры і разам з імі ўсю партыйную масу ў сэнсе культурна-рацыянальнага вядзеньня партработы, зьнішчыўшы адтуль усю бессыстэмнасьць, талчаю і непарадак, якіх у нас так многа.

Зараз пераходзім да выкладаньня асноўных пытаньняў па рацыяналізацыі партапарату і партработы, якія выцякаюць з вывучэньня работы мейсц.

## I. Ячэйкі

Возьмем пратаколы.

Так, напрыклад, ячэйка КП(б)Б БДУ вельмі падрабязна запісвае даклад аб выніках жнівеньскага Пленуму ЦК і ЦКК УсеКП(б). Аналізуючы гэту і іншыя пратакольныя запісі, мы знаходзім: а) канспэкт дакладу складзены дрэнна, выпучаны другарадныя пытаньні, што робіць яго (канспэкт) бязформеным; б) маюцца няправільныя фармуліроўкі, якіх бязумоўна дакладчык ня мог ужываць, в) канспэкт дакладу перагружан лічбовым матар'ялам, не заўсёды найбольш выпуклым.

Вось узор запісу: „Ён (Пілсудзкі) у час перавароту вёў палітыку за рабочую клясу, але ён хутка здрадзіў“, ці на пытаньне „што такое лідэры“, запіс адказвае—„гэта нашыя самыя апазыцыйныя асобы“. Цяжка сабе ўявіць, каб сапраўды які-небудзь дакладчык мог гаварыць што небудзь падобнае.

Хто чытае гэтыя пратаколы.—Хто робіць тыя ці іншыя вывады на падставе запісаў прамоў дакладчыкаў?

У шэразе ячэек паказваюць, што з боку РК указаньняў (дырэктыў) на падставе пратаколаў не даецца. А многія ячэйкі ўпэўнены, што пасылкай пратаколаў яны ўсё вычарпалі, што просьбы і звароткі ячэйкі да РК па пратаколах заўсёды ўлічваюцца.

У іншых выпадках маецца зваротнае, калі патрабуецца пэўнае рашэньне, а даюцца агульныя фармуліроўкі. Часам пратаколы вядуцца неахайна, невядома, аб чым гаварылі, што вырашылі.

Вось некалькі прыкладаў з камсамольскай ячэйкі:

а) Слухалі: „Аб нетактычных паводзінах камсамольца“, пастанавілі: „даць строгі выгавар“ (каму—невядома); б) Слухалі: „аб зрыве вечару камсамольцам“, пастанавілі: „ляпей высьвятліць справу“ (хто зрываў, хто высьвятліць—невядома); ці яшчэ: а) „Адносіны прыхільнікаў газэты аб падтрыманьні сувязі“, пастанавілі: „трымаць сувязь“. Такія прапановы, як „зьнішчыць недахопы, у далейшым ажывіць работу“—сустракаюцца вельмі часта.

Пасылаюцца ў РК як пратаколы агульных сходаў, так і бюро ячэйкі, некаторыя ячэйкі пасылаюць свае пратаколы яшчэ і ў Акругкомы. Ці маецца кантроль над выкананьнем сваіх рашэньняў. Неабходна адзначыць, што сыстэматычнага кантролю няма. Прынятыя рашэньні часта нявыконваюцца па „аб'ектыўных“ умовах. Аднэй з гэтых аб'ектыўных прычын зьяўляецца агульная сыстэма работы, поўная адсутнасьць кантролю над выкананьнем рашэньняў.

Ці загружаны ячэйкі патрабаваньнямі розных зьвестак. У гэтай справе ёсьць пэўныя палепшаньні за апошні час, але ўсё-ж такі бязумоўна, ячэйкі бываюць загружаны і іншай работай. Напрыклад, Жодзін-

ская ячэйка КП(б)Б давала за 1927 г., акрамя рэгулярнай справаздачнасьці, зьвесткі па 34 розным запытаньням, а ячэйка НКФ—па 13. Зьбіраньне гэтых зьвестак зацягваецца часта на вялікі час.

У „цыркулярнай" справе маюцца значныя палепшаньні. Паменшана колькасьць (3—4 у месяц), паменшылася дубліраваньне цыркуляраў. Усё-ж такі наглядаюцца і такія выпадкі: па пытаньню аб падпісцы на „Зьвязду" разасланы цыркуляр АПА ЦК КП(б)Б, да яго дадана пастанова Акругкому і растлумачэньне Райкому.

Неабходна адзначыць, што існуючая сыстэма прыёму і вучоту членскіх узносаў зусім не гарантуе ад растрат. Да гэтага-жа заключэньня прыводзіць разбор спраў растратчыкаў у органах КК.

Вельмі слаба пастаўлены кантроль з боку сакратароў ячэек за зборшчыкамі.

Маючыяся ў ячэйках Агітпропкамісіі, займаюцца ня толькі ўзгадненьнем пытаньняў масавай работы, партасьветы, але і рознымі дробнымі і тэхнічнымі пытаньнямі.

У некаторых ячэйках (напрыклад, БДУ) маюцца і так званыя ацэначныя камісіі, задачай якіх зьяўляецца ацэнка масавай работы ячэйкі (яўны паралелізм з Бюро і Апоргам ячэйкі).

У ячэйках, якія падзелены на цэх. ячэйкі, інстанцыяў праходжаньня пытаньняў аб прыёме ў партыю вырастае да 5-ці (Бюро цэх. ячэйкі, агульны сход цэх. ячэйкі, бюро калектыву, агульны сход, бюро райкому, пленум райкому), для членаў ЛКСМБ—12 (тыя-ж інстанцыі плюс камсамольскія ў тым-жа парадку).

Маюцца платныя сакратары ў ячэйках з сотнямі членаў і кандыдатаў партыі і з такім-жа лікам камсамольцаў; маюцца ў той-жа час платныя сакратары ў такіх ячэйках, дзе налічваецца 25 членаў партыі і да 35 камсамольцаў.

Якія, па нашай думцы, магчымы тут палепшаньні:

1) Не пратакаляваць зусім дакладаў.

2) Спрэчкі пратакаляваць толькі па важнейшых палітпытаньнях, дзе спрэчкі выяўляюць настрой ячэйкі, а таксама па дакладах адміністрацыі аб сваёй рабоце (у астатніх выпадках пісаць прозьвішчы выступаўшых у спрэчках).

3) Пасылаць у РК толькі пратаколы важнейшых агульных сходаў, а ў гарадзкіх РК—зусім адмяніць пасылку ўсякіх пратаколаў.

4) Спыніць заграмаджэньне ячэек зьвесткамі, якія можна атрымоўваць у іншых органах; пераглядзець справаздачнасьць ячэек у бок памяншэньня тэрмінаў пасылкі яе і колькасьці форм.

5) Сталай Агітпропкамісіі пры ячэйках не ствараць, а склікаць па канкрэтным пытаньням для кіраваньня партасьветай—прапагандыстых, а для ўзгадненьня масавай работы—суадпаведныя эпізадычныя нарады.

6) Пры прыйме ў партыю рабочых можна адмовіцца ад наступных інстанцыяў: 1) агульнага сходу ячэйкі калектыву там, дзе прыймаемы прайшоў праз агульны сход цэх. ячэйкі; 2) для камсамольцаў—устанавіць дзьве дадатковыя інстанцыі—бюро ячэйкі ЛКСМ і Бюро РК ЛКСМ.

7) Устанавіць спрошчаны тып справаздачнасьці і цьвёрдыя тэрміны задачы ўзносаў у РК, сталы кантроль з боку сакратара ячэйкі за зборшчыкамі.

8) Платных сакратароў пакінуць толькі для найбольш буйных ячэек з лікам членаў і кандыдатаў ня менш 75—100.

## 2. Гарадзкія Райкомы

Некалькі паасобна стаіць пытаньне аб рабоце гарадзкіх раённых камітэтаў. У буйных гарадох БССР (Менск, Віцебск, Гомель) маецца па 3 райкомы, якія аб'ядноўваюць пэўную колькасьць ячэек.

Неабходна адзначыць, што кіраваньне з боку гэтых ячэек зьяўляецца вельмі жывым. Рэагаваньне з боку РК на ўсялякія зьявішчы з жыцьця і работы ячэек у большасьці выпадкаў зьяўляецца сваечасовым.

Мала, аднак, ужываецца т. зв. бясплатны інструктаж. У нас маецца зараз кадр прапагандыстых, які сваёй асноўнай партнагрузкай мае работу па партасьвеце, розныя даручэньні агітацыйнага і прапагандысцкага характараў.

Нам здаецца, што павінен быць створаны такі-ж кадр парт. інструктароў-арганізатараў, асноўнай работай якіх зьяўляецца: абсьледваньне, вывучэньне і інструктаваньне пэўнай колькасьці ячэек. Гэта бязумоўна патаніла-б апарат без усялякага ўшчэрбку для зьместу работы і садзейнічала-б большаму ўцягненьню партыйцаў у парт.-арганізацыйную работу.

Для больш жывой сувязі з партактывам было-б мэтазгодна практыкаваць перанясеньне часткі работы РК на вячэрнія часы.

Шкодзіць рабоце РК (гэта адносіцца і да вясковых) усякія запытаньні, паведамленьні і даручэньні з боку АК і АКК па шэрагу пытаньняў, якія ня маюць да яго ніякіх адносін.

Напрыклад, РК даецца даручэньне паведаміць членаў партыі аб тым-та. Ці Акругком (пісьмова) запытвае РК, дзе працуе і які адрас таварыша Х. (тэлефонны званок з'эканоміў бы шмат часу). Тэлефонная сувязь наогул ня ў модзе: гэта агульнае зьявішча, канцэлярыя ў партапараце захоўвае яшчэ вялікае паважаньне да паперы; асабовыя гутаркі, тэлефонныя перамовы не практыкуюцца часам па самых дробных (як вышэйпамянёнае) пытаньнях.

Перад намі, галоўным чынам, паўстае пытаньне аб пабудове сеткі гарадзкіх райкомаў. Ці можна іх узбуйніць. Па Менску, напрыклад, маецца амаль што аднадушнае зданьне, што можна стварыць замест 3-х—2 райкомы, што зусім ня будзе адбівацца на якасьці работы. Але шэраг таварышоў уздымае пытаньне аб магчымасьці аб'яднаньня ўсіх райкомаў у адзін. Тут ужо пытаньне ня толькі аб узбуйненьні сеткі, але аб зьмене характару і якасьці работы.

Чым зьяўляецца зараз які-небудзь Менскі РК.—Ён займаецца толькі пытаньнямі масавай і партыйна-арганізацыйнай работы. Ці можа ён кіраваць тыпічна-гарадзкімі ўстановамі: Гарсаветам, ЦРК, школамі, больніцамі, электрастанцыяй і г. д. Гэта ўсё знаходзіцца пад кіраваньнем АК.

Пры ліквідацыі гарадзкіх Райкомаў і перадачы ўсяго кіраваньня АК (гэта думка падтрымліваецца ня ўсімі) і з аб'яднаньнем іх у адзін гарадзкі Камітэт, шырокае выкарыстоўваньне бясплатнага інструктажа і, у першым выпадку, стварэньне спэцыяльнага гарадзкога інструктарскага кадру, не паслабіць кіраваньне ячэйкамі, а наадварот—забясьпечыць правільна арганізованае парткіраваньне гарадзкімі справамі. Пры аб'яднаньні ў адзін Райком гэта значна разгрузіла-б АК і дала-б яму магчымасьць больш поўнага ахопу акруговай работы.

У далейшым выкладаньні мы будзем спыняцца на асноўных галінах работы, ускрываючы заўважаныя недахопы ў адносінах да ўсіх звеньняў партыйнага апарату.

### 3. Камісіі і пасяджэньні

Неабходна зьвярнуць асаблівую ўвагу на нашыя пасяджэньні. Колькасьць розных камісіяў пры Парткомах зьяўляецца, бязумоўна, вялікай.

Напрыклад, у Менскім Акругкоме маецца 12 камісіяў: 1) Аргнарада—24 члена, 2) Каапэр. нарада—20 чл., 3) Вясковая нарада—17 чл., 4) Жэн. калегія—13 чл., 5) Калегія АПА—17; 6) Еўбюро, 7) Польбюро, 8) Мэтад. бюро, 9) Клюбная камісія, 10) Бюро па самаадукацыі, 11) камісія па садружаству з Чырвонай Арміяй і 12) камісія па прыйму ў пар-

тыю. Гэта толькі сталыя камісіі, не гаворачы аб вялікай колькасьці часовых і паўсталых камісіяў і нарад.

У гэтых камісіях часта пасядаюць адны і тыя ж асобы, што стварае вялізную перагрузку шэрагу кіруючых работнікаў, якія з-за гэтага выпадаюць на 3/4, як сталыя работнікі партапарату.

Так, адзін работнік ЦК мае такую нагрузку па пасяджэньнях: а) зьяўляецца старшынёй 3-х камісіяў, б) зьяўляецца членам 10-ці сталых камісіяў і нарад (у тым ліку і па партыйна-грамадзкай рабоце), в член шэрагу часовых (але доўгатэрміновых) камісіяў па правядзеньню розных кампаніяў.

З 144 гадзін нармальнай месячнай нагрузкі гэты таварыш заняты ... 171 гадзіну, а гэта ўсё акрамя асноўнай работы.

За 1927 год усяго розных пасяджэньняў і нарад у Менскім АК было 188, з колькасьцю пытаньняў—1.386, у прысутнасьці 2526 чал. Калі ў сярэднім лічыць адрыў кожнага з прысутнічаўшых на 3—6 гадзін, дык гадавая страта часу будзе—1.263—2.500 чалавека-дзён.

Усе нашыя пасяджэньні даволі часта праходзяць у дзённыя гадзіны, што адрывае шэраг работнікаў партыйных, савецкіх і каапэрацыйных установў; іх ва ўстановах доўга і напрасна чакаюць.

Адсутнічае дысцыпліна ў нашых пасяджэньнях. Ніколі яны не пачынаюцца ў вызначаны тэрмін, зрыў заняткаў і страта часу найбольш адказных кіруючых работнікаў ня лічыцца нават благім (а гэта зьяўляецца самым сапраўдным „прагулам“).

Вось як пасядае Бабруйскі АК, па прызнаньню саміх т. т., Бюро пачынаецца а 12 гадз. і канчаецца а 10 гадзіне ўвечары (з перапынкам у 2 гадзіны на абед). На пасяджэньнях ня толькі ўвечары, але і ўдзень прысутнічае ўвесь акруговы актыў, а ўва ўстановах іх, зразумела, няма (гэта сваеабразная пашыраная дэмакратыя завецца „абрастаньнем актывам“).

Небходна адзначыць, што ў шэразе камісіяў занадта многа членаў, якіх можа цікавіць 1—2 пытаньня, але яны зьяўляюцца сталымі ўдзельнікамі і таму ня могуць „не пасядаць і не рашаць“.

Мы лічым магчымым высунуць наступныя прынцыпы, якія, па нашаму, значна спросьцяць работу:

1) Пераглядзець характар пытаньняў, якія вырашаюцца калектыўна і выняць адтуль дробныя непрынцыповыя і наогул такія, якія ня маюць патрэбы ў калегіяльным вырашэньні.

2) За рэдкімі выключэньнямі, ліквідаваць усе сталыя камісіі пры партыйных камітэтах, арганізоўваючы па сапраўдна неабходным пытаньням спэцыяльныя нарады, на якія запрашаць толькі зацікаўленых (і кампэтэнтных) асоб.

3) Лічыць спазьненьне партыйным праступкам.

4) Ня прымаць да разгляду непадрыхтованых пытаньняў.

5) Пасяджэньне рабіць пераважна ў вячэрнія гадзіны.

6) Устанавіць рэглямант работы Бюро і Сакратарыяту такім чынам, каб запрашаемых работнікаў выклікаць да сурова вызначанага часу.

Перад намі ляжыць матар'ял па рацыяналізацыі партыйнага апарату Цьверскай арганізацыі. Цьверцы ідуць яшчэ далей. Прапануючы ліквідаваць усе бяз выключэньня камісіі і нарады пры Губкому (са стварэньнем часовых нарад па паасобным пытаньням), яны лічаць неабходным ліквідаваць Сакратарыят Губкому, перадаўшы ўсе прынцыповыя і адміністрацыйнага характару пытаньні на аднаасобнае выражэньне сакратара губкому (і яго намесьніка), а астатнія перадаць у Бюро Губкому. Гэта прапанова заслугоўвае ўвагі. Неабходна высьвятліць, ці нельга яго ўжыць ува ўмовах работы нашых Акругкомаў.

## 4. Мэтады і способы кіраваньня

Шэраг партыйных органаў нагружаны пытаньнямі кіраваньня, разглядаючы і вырашаючы такія пытаньні, якія могуць быць вырашаны адпаведнымі фракцыямі савецкіх, прафэсыйных і іншых органаў.

Вось, напрыклад, у ліку пытаньняў, якія вырашаліся некаторымі бюро АК, знаходзілі сабе мейсца і гэтакія: 1) аб рабоце зямельных сэкцыяў Гарсавету, 2) аб рэарганізацыі сеткі сельскіх лістаносцаў, 3) аб аплаце дворнікаў, 4) аб лётарэі МОПР'у, 5) аб памяшканьні для паштова-тэлеграфнай канторы, і г. д. і г. д.

Побач з гэтым мы наглядаем вельмі слабую ўвязку плянаў паміж: а) паасобнымі часткамі партапарату, б) партыйнымі, савецкімі, прафэсыянальнымі і іншымі апаратамі, в) вышэйшымі і ніжэйшымі зьвеньнямі партапарату.

Адсюль, па нашаму, выцякаюць асноўныя прапановы:

1) Разгрузіць партворганы ад абмяркоўваньня пытаньняў, якія могуць быць вырашаны на фракцыях.

2) Увязаць пляны работ як у вертыкальным, так і гарызантальным разрэзах, зьнішчыўшы паралелізм і разыходжаньні ў тэрмінах.

3) Адмовіцца ад прапрацоўкі, сіламі партапарату, пытаньняў савецкага, прафэсыянальнага і іншага характару.

4) Асноўны кадр работнікаў апарату павінен зьявіцца арганізуючым цэнтрам работы. Шэраг партыйных работ (прапрацоўка партпраблем і інш.) ускласьці на прыцягваемых таварышоў, не зьяўляючыхся сталымі работнікамі апарату.

## 5. Інструктаж

Зараз маецца некаторая паралельнасьць і адарванасьць інструктажу паасобных частак партапарату. Акрамя інструктароў Аргаддзелу, маюцца інструктары ў АПА, Жэн. Аддзеле, Нацбюро і г. д.

Работа інструктароў распадаецца ў асноўным на: 1) прапрацоўку праблем, распрацоўку дырэктыў, 2) інструктаваньне—непасрэдная пастаноўка работы, 3) інструктаваньне—абсьледваньне работы. Шэраг работнікаў зусім правільна высоўвае неабходнасьць перадачы апошняй галіны ў Арг. Аддзел, дзе яна можа быць аб'яднана пры адпаведнай увязцы іншымі аддзеламі.

Наколькі гэта практычна ажыцьцявіма, усё-ж існуючая зараз значная няўвязка ў гэтай рабоце патрабуе зьнішчэньня такіх зьявішч, калі ў адзін і той-жа час едуць інструктары па розных галінах, адрываючы нізавых работнікаў ад работы. Акрамя таго, гэта проста дорага.

Мы ўбачым яшчэ горшую карціну, калі мы праверым увязку інструктажу партыйнага і іншых (савецкага, прафэсыянальнага, каапэрацыйнага) апаратаў. Калі мы нават возьмем, напрыклад, узгадненьне інструктажу і абсьледваньняў па лініі ЦК і ЦКК, дык і тут няма ўзгодненасьці, а між тым адначасовыя абсьледваньні па лініі гэтых двух органаў былі-б бязумоўна мэтазгоднымі.

Другія прыклады. У Магілёве ў студзені гэтага году зьехалася адразу 8 інструктароў—абсьледвацеляў (з іх 2—ЦК і 3—ЦКК—РСІ).

Ці, вось напрыклад, возьмем Бешанковіцкі раён (Віцебскай акругі), які перажыў ў 1927 годзе 13 абсьледваньняў (ня ўлічваючы пракурорскага, камсамольскага і спажыв. саюзу), пры чым складзена 108 аркушаў вывадаў і прапаноў з 1.620 пунктамі адных толькі прапаноў. Невядома, якія з гэтых пунктаў выкананы мясцовымі арганізацыямі, але, напэўна, мала выканана, таму што 90% гэтых прапаноў мае агульны, а не канкрэтны характар. Аналёгічнае становішча мы маем у Віцебскім іЛіёзьнянскім раёнах.

Нашыя прапановы ў асноўным зводзяцца да наступнага:

1) У партворганах неабходна аб'яднаць інструктаж пры інструктарскай групе Арг. Аддзелу (гэта прапанова ўносіцца і шэрагам іншых арганізацыяў).

2) Устанавіць сыстэму ўвязкі інструктажу, галоўным чынам, плянаў абсьледваньня і інструктаваньня, памяншаючы іх колькасьць, прывурочваючы іх да адных тэрмінаў і ствараючы аб'яднаныя групы па інструктаваньню тых ці іншых арганізацыяў.

3) Шырэй практыкаваць бясплатны інструктаж і дачу абсьледвацельскіх даручэньняў выяжджаючым на месца інструктарам розных ворганаў.

## 6. Патрабаваньні вышэйшых парторганаў да ніжэйшых, цыркуляры, адносіны і г. д.

Неабходна адзначыць, што тут ня ўсё абстаіць добра. Вышэй мы адзначалі 34 патрабаваньні (пазаплянавых) да ячэйкі, але і Акругкомы часта атрымоўваюць ад ЦК непасільныя патрабаваньні.

Так, Фінчастка ЦК КП(б)Б, жадаючы ляпей абгрунтаваць свой прыбытковы каштарыс па часьці спагнаньня членскіх узносаў, патрабуе ад АК ня больш ня менш, як праслаць імянныя сьпісы на ўсіх членаў і кандыдатаў КП(б)Б і ЛКСМБ па наступнай форме: №№ па чарзе, прозьвішча, імя і імя па бацьку, займаемая пасада, атрымліваемая пэнсія, сума членскіх узносаў. Тэрмін на выкананьне гэтай вялізарнай работы даецца ў 3—4 дні. Гэта бясплодная работа ў Віцебскім АК была спынена інструктарам ЦК т. Хацімскім пасьля запаўненьня 167 старонак. Таварышы вылічвалі, што выкананьне гэтых патрабаваньняў Фінчасткі заняла-б 4.500 старонак (па БССР) і фактычна праз 2—3 тыдні гэта ня суадпавядала-б сапраўднасьці па прычыне зьмены ў становішчы партыйцаў.

Маецца такі выпадак, калі Еўбюро АК запрасіла імянныя сьпісы на ўсіх членаў ОЗЭТ (як быццам уся справа ў прозьвішчах членаў...)

Ці патрабаваньне Жан. Аддзелу ЦК ад АК пасылкі каштарысу на ахову мацярынства і младзенства ў той час, як гэтыя каштарысы былі па лініі савецкіх ворганаў перасланы ў НКФ (па матар'ялах Бабр. акругі).

Не заўсёды бываюць удумлівыя адносіны пры накіроўваньні ў пэрыфэрыю цыркуляраў і загадаў Цэнтру. Так, Кіценская сельячэйка атрымоўвае цыркуляр аб завочным Камвузу. А ў гэтай ячэйцы пісьменных усяго некалькі чалавек, якія маюць патрэбу не ў камвузу, а ў элемэнтарнай палітычнай пісьменнасьці.

Наглядаюцца таксама выпадкі, калі па аднаму пытаньню пасылаецца шмат цыркуляраў. Напрыклад, па сьвяткаваньню 10-ці годзьдзя Кастрычнікавай Рэвалюцыі Райкомы Бабруйскай акругі атрымалі, акрамя цыркуляру агульнага характару, цыркуляры па лініі АПА, Жан. Аддзелу, Нацменшасьцяў, каапэрацыі і г. д.

Асабліва шмат уходзіць часу (і паперы) на друкаваньне. Ня любяць пісаць службовыя запіскі, а пішуць чарнавік, потым гэта-ж перадрукоўваецца ў 2-х паасобніках.

Балючым зьяўляецца пытаньне рассылкі пратаколаў Бюро Парткомаў усім членам і кандыдатам Камітэтаў. Гэта адымае масу часу і паперы. Ці нельга было-б абмежавацца рассылкай пратаколаў па АК (для ЦК) ці РК (для АК), якія-б азнаёмілі ўсіх членаў Парткомаў з пратаколам (гэта высоўваюць работнікі АК).

Якія могуць адсюль выцякаць прапановы:

1) Неабходна дыфэрэнцыяцыя ў пасылцы кіруючых інструкцыйных матар'ялаў на мейсцы.

2) Неабходна координацыя работы паасобных частак апарату пры яго сувязі з мейсцамі.

3) Наогул неабходна паменшыць, як правіла, пісьмовае кіраваньне за лік жывога; выкарыстоўваць у мэтах кіраваньня мэтад дачы дырэктыў праз суадпаведныя артыкулы ў газэтах.

4) Неабходна лічыць лішнім дубліраваньне цыркуляраў ці пісаньне гэткіх пры наяўнасьці пастаноў парткому.

5) Неабходна аб'яднаць справаводніцтва і ўстанавіць палепшаную тэхніку работы аднолькавую для ўсяго партапарату (гэта работа праводзіцца сіламі ЦКК-НКРСІ).

6) Устанавіць чоткую сыстэму праверкі выкананьня дырэктыў партворганаў (карткавая сыстэма, рацыяналізацыя пратакольнага справаводніцтва і г. д.).

## 7. Інфармацыя

Аднэй з важнейшых задач па рацыяналізацыі партапарату зьяўляецца правільна пастаўленая інфармацыя. Інфармацыя, якая заключалася-б ня ў грудах пратаколаў, несыстэматызаванага і грамоздкага матар'ялу, як гэта мае мейсца зараз. У сучасны момант парторганы завалены інфармацыйнымі матар'яламі, якія яны, за абмяжованасьцю штату ня могуць пераварыць.

Так, у сярэднім АК атрымоўвае 130-150 пратаколаў у месяц, якія ў пераважнай большасьці выпадкаў не выкарыстоўваюцца.

Інфармацыйныя матар'ялы, якія прадстаўляюцца Райкомамі ў АК, часам прадстаўляюць сабою перадрукоўваньне матар'ялаў РВК, пры чым ня зусім ясна пытаньне ў чым усё-ж такі выказвалася кіраваньне гэтай работай з боку РК.

Вельмі грамоздкі гадавыя справаздачы партарганізацыяў, дзе шмат увагі ўдзяляецца дэталям, падрабязговым лічбам і г. д., не гаворачы аб адсутнасьці ў іх крытычнай ацэнкі дасягненьняў і недахопаў. Гэта мае значны ўплыў на чытаемасьць гэтых матар'ялаў.

Зусім не практыкуецца прыцягненьне ў парадку партнагрузкі практычных работнікаў да прапрацоўкі інфармацыйных матар'ялаў, маючых у парткомах. Дагэтуль наглядаецца разрыў паміж агульнай інфармацыйнай работай парткомаў і спэцыяльных частак апарату (Нац. Бюро, Жанаддзел і г. д.), што выклікае паралелізм як у запатрабаваньнях зьвестак, так і ў апрацоўцы іх.

Мы лічым неабходным высунуць наступныя прапановы:

1) Скараціць колькасьць атрымліваемых партворганамі пратаколаў;

2) Аб'яднаць інфармацыйную работу партворганаў у адным мейсцы;

3) Увязаць інфармацыйную работу партворганаў з суадпаведнай работай у сав., праф. і інш. арганізацыях і, у прыватнасьці пры распрацоўцы ворганамі РСІ форм і тэрмінаў справаздачнасьці і інфармацыі ўва ўстановах, неабходна ўлічваць асобна запытаньні партворганаў;

4) Прыцягнуць, у парадку партнагрузкі, практычных работнікаў розных галін для прапрацоўкі інфармацыйных матар'ялаў партворганаў;

5) Устанавіць аднолькавыя сыстэмы інфармацыі (адзіная клясіфікацыя пытаньняў, формы і мэтады апрацоўкі).

## 8. Структура і штаты

Структура нашых парторганаў зьяўляецца ў большасьці выпадкаў складанай. Маюцца аддзелы, пададдзелы, няма чоткай разьмяжованасьці работы паміж паасобнымі работнікамі апарату. Партапарат у асноўным пабудованы па лінейнай сыстэме структуры.

Нам здаецца, что ў адносінах да акруговага і раённага апарату можна цалкам перайсьці да функцыянальнай структуры. У шэразе арганізацыяў па-за Беларусі гэта ўжо праводзіцца ў жыцьцё.

Асноўнымі прынцыпамі такой пабудовы зьяўляюцца:

а) Аналіз і клясіфікацыя ўсіх функцыяў апарату;

б) Разьбіўка маючыхся ў апараце функцыяў паміж работнікамі апарату;

в) Непасрэднае кіраваньне з боку главы ўстановы ўсімі выканаўцамі;

г) Пашырэньне правоў і адказнасьці кожнага выканаўцы;

Раённы апарат, дзякуючы малай колькасьці штату, амаль што так і пабудаваны.

Што датычыцца да АК, дык іх апарат можа быць, прыкладна, пабудованы так: 1) Сакратар, 2) яго намесьнік (які стаіць на чале інструктарскай групы), 3) інструктары, 4) функцыянэры—па агітпропрабоце (1-2 чал.), жанрабоце, рабоце сярод нацменшасьцяў, вясковай рабоце, вучразьмяркрабоце, 5) Тэх. сакратар і канцылярска-абслугоўваючы пэрсанал.

Мы думаем таксама, што ў сувязі з упарадкаваньнем работы галоўным чынам, у зьвязку з разгрузкай апарату і выкарыстоўваньнем бясплатнага інструктажу, можна некалькі сьціснуць і пакараціць штаты партыйных органаў.

* * *

Усё пералічэньне закранутых момантаў і прапаноў аб рацыяналізацыі партапарату, зразумела цалкам ня вычэрпвае задачы, а зьяўляецца асноваю першапачатковых, больш-менш бясспрэчных, прапаноў, навакол якіх неабходна паставіць шырокае абмеркаваньне і далейшую іх прапрацоўку.

Пры чым магчыма, што ў працэсе прапрацоўкі тыя ці іншыя прапановы будуць зьменены і перабудованы.

У гэтай дзейнасьці неабходна стварыць такую атмосфэру ў арганізацыях, каб члены партыі і парторганы лічылі-б сваім першарадным абавязкам сыстэматычна клапаціцца аб далейшай рацыяналізацыі працы. Нам тут больш, чым дзе-небудзь, неабходна самакрытыка і рашучая барацьба супроць самадавольства і „застываньня“ на дасягнутых выніках. Таксама неабходна адвесьці ўсякія размовы аб „рацыяналізатарах“, якія, як быццам, змогуць рацыяналізаваць партапарат. Гэта задача ўсяе партыі і ворганы ЦКК толькі па даручэньню партыі арганізуюць гэту справу, мэтадычна накіроўваючы яе і выкарыстоўваючы намножаны за гэты час вопыт рацыяналізацыі.

---

**М. 3-кі**

# Аб выхадах з партыі

На апошніх партконфэрэнцыях, сярод масы пісьмовых і вусных запытаньняў дакладчыкам ЦКК, не малае мейсца займалі пытаньні аб выхадах з партыі. Побач з пытаньнямі за чый лік і якім тэмпам адбываецца рост партыі, таварышы цікавіліся:

„Якія ў нас суадносіны росту і зьмяншэньня“? „Колькі было дабраахвотных выхадаў і за які час?“ „Дзе прычыны выхадаў і чыя тут віна—ячэек або Райкомаў?“ і г. д.

Мы лічым пагэтаму мэтазгодным асьвятліць маючыяся ў ЦКК матар'ялы аб выхадах з партыі і некаторыя паасобныя справы, якія праходзілі ў Акруговых Кантрольных Камісіях за апошні год.

* * *

Перш за ўсё азнаёмімся з агульнымі лічбамі выхадаў.

Усяго за пэрыяд з кастрычніку 26 году па кастрычнік 27 г. мелі мейсца 155 выхадаў ці 0,60% к агульнаму складу КП(б)Бел. У параўнаньні з мінулым 25-26 г. г. (за той-жа пэрыяд) выхады павялічыліся наступным чынам: у 25-26 г. выхадаў было 87, ці процант да ліку сябраў КП(б)Б—0,45%; у 26-27 г.—155 выхадаў ці 0,60% к ліку сябраў КП(б)Бел. Адсюль відаць, што колькасьць выхадаў павялічылася на 68 выпадкаў ці 78%, а процант павялічэньня да агульнага ліку сябраў КП(б)Б—0,15%.

Пры большым абсалютным павялічэньні выхадаў, аднак, яны, у параўнаньні з ростам КП(б)Б, даюць толькі невялікае павялічэньне (на 0,15% або 33% адноснага росту). У сярэднем у 25-26 г. выходзіла з партыі 8 на кожныя 2000 сябраў і кандыдатаў, у гэтым годзе 12.

Найбольшы процант выхадаў у арганізацыях: Мазырскай (1,49), Полацкай (1,26). У рэшце арганізацый—ад 4 да 28 выпадкаў у абсалютных лічбах, што ў працэнтнай адносіне складзе: у Магілёўскай—1,05%, Бабруйскай—0,69%, Віцебскай—0,62%, Гомельскай—0,44%, Менскай—0,22% і Аршанскай—0,18%.

Выхады з партыі ў большай сваёй частцы адносяцца да *мэханічных* выхадаў, з прычыны адрыва ад партыі, яны маюць мейсца пераважна ў асяродку маладых членаў і кандыдатаў партыі.

Аб гэтым сьведчаць наступныя лічбы: з агульнага ліку мэханічна выбыўшых (155)—75% (117) прыпадае на кандыдатаў і на сябраў партыі пасьля 24 г.—23 або 17,5% і толькі 15 выхадаў адносіцца да сябраў партыі з вялікім стажам (з 18-20 г.—10 і з 21-23 г.—5).

Па роду заняткаў часьцей за ўсё выходзяць сяляне ад сахі (1,77% да іх ліку ў арганізацыі), потым рабочыя ад варштаку (0,65%) і служачыя (0,35%). Па абсалютнай колькасьці выхадаў: рабочых ад варштату—54, сялян ад сахі—51, іншых—50.

З агульнага ліку жанчын вышла 21 ці 13,5%. Аднак, у адносінах да ліку жанчын у КП(б)Бел. процант жанчын, якія вышлі (0,70%), вышэй чым мужчын (0,58%).

Такавы агульныя лічбы і характарыстыкі выбыўшых з КП(б)Бел.

* * *

Пяройдзем цяпер да некаторых асобных спраў для вытлумачэньня *матываў*, па якім таварышы падаюць заявы аб выхадзе з партыі.

Вось адзін з найбольш распаўсюджаных выпадкаў выхада з партыі *сялян*.

*С-кі* (Віцебскай арг.). Селянін ад сахі, кандыдат з 1925 г., служыў у Чырвонай Арміі дабраахвотна, у момант разгляду яго партсправы ў АКК, працаваў на сваёй гаспадарцы. Не наведваў партсходаў, не выконваў партабавязкаў, не плаціў сяброўскіх узносаў; адмовіўся прыняць кандыдацкую картку, на вызавы парторганаў не зьявіўся. АКК пастанавіла лічыць яго мэханічна выбыўшым.

Другі прыклад. Трое сялян ад сахі (Бабруйскай арг.), у партыю ўступілі знаходзячыся ў Чырвонай Арміі, па прыбыцьці з Арміі ніякай сувязі з парт'ячэйкай не трымалі. Падалі заявы аб выхадзе з партыі.

Вось характэрны, па сваіх матывах, выпадак выхада з партыі. Тав. *А-яў* (Віцебскай арг.), член КП(б)Бел. з 1919 г., 42 г. Служыў у Чырвонай Арміі з 18-20 г. на сярэдніх кам. паліт. пасадах, селянін ад сахі, працуе на сваёй гаспадарцы. Адарваўся ад партыі і падаў заяву аб выхадзе. Пры расьсьледваньні прычын падачы гэтай заявы (выяжджала камісія з прадстаўнікоў АК і АКК для вывучэньня гэтага пытаньня), высьвятлілася: тав. А-яў з 1924 г. пачаў адрывацца ад партжыцьця, перастаў плаціць сяброўскія ўзносы, даведвацца на партсходы, выконваць партабавязкі. У апытальнай анкеце ў верасьні 26 году паказаў, што хоча выйсьці з партыі *часова*, з прычыны таго, што ў яго малыя дзеці, жонка адна ня можа справіцца з гаспадаркай, якая толькі пачынае будавацца, а мець партбілет і ня выконваць партабавязкаў—ня хоча. *Лічыць магчымым быць у партыі тады, калі падрастуць яго дзеці.*

Даволі часта дабраахвотныя і мэханічныя выхады *рабочых* адбываюцца з прычыны ад'езду беспрацоўных у іншыя гарады за шуканьнем працы і не зьняцьці іх з вучоту ў парткомах і наогул з прычыны беспрацоўя.

*Два рабочых-скуранікі* (Магілёў) падалі заявы аб выхадзе з партыі ў выніку таго, што пад уплывам доўгага беспрацоўя ў іх паявілася імкненьне стаць саматужнікамі. Абодвы маладыя па ўзросту (25 г.); кандыдаты з 1925 г. былі ў Чырвонай Арміі. Апрача асноўнай прычыны (доўгага беспрацоўя) у аднаго з заявіцеляў імкненьне стаць саматужнікам зьявілася, у ведамай ступені, яшчэ і дзякуючы таму, што ён працаваў у *прыватнай* скураной *майстэрні*. Другі—працаваў на скураным *заводзе*, але занадта падаўся ўплыву сваёй жонкі-мяшчанкі. У выніку ўсіх прыведзеных абставін яны адарваліся ад партыі, а ў пасьледку падалі заявы аб выхадзе з партыі. Другія выхады маюць мейсца па сямейных прычынах, хваравіты стан часткі таварышоў, старасьць і г. д. Вось адзін гэткі прыклад: *Д-к* (яч. МББ ж. д. ст. Віцебск) рабочы-сьлёсар, кандыдат з 1924 г., падаў заяву аб выхадзе з партыі выключна з прычыны сваёй цяжкай шматгадовай хваравіт і сваю заяву катэгарычна падтрымліваў як у ячэйцы, так і ў Райкоме, АКК пастанавіла: лічыць мэханічна выбыўшым.

Маюць мейсца выхады і з прычыны нездавальненьня шкурных інтарэсаў і інш. гэтакім матывам. (*С-к* Мозыр) рабочы ф-кі „Чырвоны

Кастрычнік“ дзе працуе яшчэ адзін сябар яго сям'і, падаў заяву аб выхадзе з партыі матывіруючы гэта тым, што „парт'ячэйка не устроила дочку на работу“. Пасьля пастановы АКК С-к заняўся прыватным гандлем.

* * *

Дагэтуль прыводзіліся прыклады выхадаў, мэханічнага выбыцьця, адбываючыхся пераважна па віне саміх партыйцаў (зразумела тут ёсьць і віна партарганізацый).

Далей застановімся на *выпадках выхадаў, якія неабходна аднесьці за конт недастатковай, або слабай працы партячэек і парткомаў.*

Тав. *І-оў* (Орша) быў Сакратаром Межаўскай ячэйкі, чл. партыі з 1925 г., батрак. Падаў заяву ў Аршанскі РК аб выхадзе з партыі, матывіруючы тым, што ён адзін ня можа справіцца з работай ячэйкі, а яму ніхто не дапамагае ў працы яе. АКК гэтым пытаньнем зацікавілася і абсьледвала працу Межаўскай ячэйкі, дзе высьвятлілася, што з боку РК амаль-што ня было кіраўніцтва працай ячэйкі і нават Райком ня ведаў, што ў ячэйцы арганізацыйна не аформіўся сакратар на працягу 6 месяцаў. Дзякуючы адсутнасьці кіраўніцтва і жывога інструктыраваньня, з боку Райкому, маладога складу ячэйкі (сябры з стажам 25-26 г.) слабага палітычнага ўзроўня сяброў ячэйкі, дрэннага падбору складу Бюро ячэйкі, параджалі хваробныя зьявішчы ў ячэйцы, якія ня ўхіляліся своечасова, а працягвалі паглыбляцца ўключна да варожых адносін паміж асобнымі сябрамі ячэйкі, у выніках чаго ячэйка згубіла ўсялякі аўтарытэт сярод рабочых саўхозаў і акалічнага сялянства.—Вось, што прыняло сакратара ячэйкі, як ужо ведаем (маладого партыйца, батрака) да падачы заявы аб выхадзе з партыі. Пасьля гутарак у АКК ён заяву сваю забраў назад.

Вось другі прыклад неправільных, нячуткіх адносін ячэйкі і Райкому да выхадаў з партыі.

Справа *Д-ва* (Мазырскай арг.). Селянін, кандыдат з VIII-25 г. служыў у Чырвонай Арміі з 19 па 21 г. У момант разгляду справы беспрацоўны. Атрымаўшы адмову ад Райкому ў пасылцы яго на работу ён падаў заяву аб выхадзе з партыі, і быў Райкомам выключан з партыі. Пры разглядзе справы ў АКК т. Д-аў паказаў, што падаць заяву вымусіла яго абы якая адносіна да яго з боку Райкому, бо будучы матар'яльна незабясьпечан як беспрацоўны некалькі разоў зьвяртаўся ў РК аб аказаньні матар'яльнай дапамогі, але яму ў гэтым адмовілі. Падачу заявы лічыць памылкай і жадае заставацца ў партыі. АКК пастанавіла т-ша Д-ва ў партыі пакінуць, абмяжаваўшыся партунушэньнем за пасыўнасьць да партжыцьця.

Віцебская АКК у сваёй гадавой справаздачы піша „характэрна адзначыць, што ўсі *выпадкі дабраахвотных выхадаў маюць непасрэдную адносіну да партвучобы.* Гэта прымушае думаць аб магчыма нячуткіх адносінах да таварышоў. Пры разглядзе ў АКК заяў аб выхадах адзін таварыш (застаўлены у партыі) даў повад аб гэтым гаварыць“.

Выпадкаў выхадаў па *ідэялёгічных* матывах (нязгода з партыяй па асобным пытаньням),—зусім нямнога. Тут высоўваюцца такія меркаваньні, як нязгода з § 13 праграмы (рэлігія), або цэхавыя або „ўраўніцельныя“ настроі.

Як выхад па ідэялёгіных матывах зварочвае на сябе ўвагу адзіны выпадак, справа *Л-на* (Магілёўская арг.), рабочага-друкара, кандыдата з 24 г. Было заўважана, што з некаторага часу ён пачаў адрывацца ад партыі. Справа яго разглядалася ў Бюро яч. потым у РК і АКК.

Пры разглядзе справы ў АКК ён заявіў, што выходзіць з партыі па палітычных матывах (у ячэйцы гаварыў, што па сямейных абставінах). Навокал сябе ён назірае поўнае расчараваньне рабочых ва ўсіх заваёвах рэвалюцыі. Рабочыя, па яго думцы, недавольны: чакалі многа, а атрымалі нічога. Сам-жа ён слаб духам і ня можа паставіць наўпроці сябе такім настроям рабочых. Пры вывучэньні гэтага выхаду высьветлілася, што гэты рабочы падаўся ўплыву меншавіствуючых асоб, адсюль катэгарычная яго пастаноўка пытаньня аб сваім выхадзе з партыі.

* * *

Падвядзём некаторыя вынікі.

Большасьць мэханічных выхадаў падае на маладых членаў і кандыдатаў партыі, пераважна з ліку ленінскіх набораў, найменш устойчывых, ня зросшыхся з партыяй. Характэрна, што многія з такіх кандыдатаў не пажадалі атрымаць нават кандыдацкіх картак, або рыхтавацца да пераводу ў члены партыі.

Матывамі выбыцьця зьяўляецца сямейна-бытавыя ўмовы (хвароба, прыстарэлы ўзрост і інш.), зьвязанасьць з сельскай і хатняй гаспадаркай, жаданьне вызваліцца ад партдысцыпліны і вынікам апошняга—поўны адрыў ад партарганізацыяў у форме доўгай неўплаты сяброўскіх узносаў, ненаведваньне партсходаў самавольны ад‘езд і наогул парушэньне ўстава партыі.

Гэтыя выхады можна лічыць нармальным адсевам ад ленінскага прызыву. Выпадкова папаўшы, яны ўпасьледку выходзяць з партыі. Бабруйская АКК зазначае, што пасьля выхадаў большасьць застаюцца лайяльнымі да партыі і савецкае ўлады.

Усё-ж на гэтым нельга супакоіцца.

Мы бачылі, што ёсьць шмат выпадкаў, калі выхады, асобна дабраахвотныя (не мэханічныя) адбываюцца ў выніку нездавальняючай працы парт‘ячэек і парткомаў. Агульныя прычыны выхадаў гэтага парадку зьяўляецца:

Слабая праца па прыцягненьню і падбору лепшых рабочых і сялян—навальнасьць (стихийность) уступленьня і недастаткова ўдумчывы падход да прыёму ў партыю.

Слабая апрацоўка іх пасьля ўступленьня, у сэнсе абхвата новых партыйцаў партыйна-выхаваўчай працай.

Недастаткова ўжываюцца мерапрыемствы па папярэджаньню ненармальных зьявішч (маем на ўвазе неабходнасьць сваечасовага папярэджаньня ячэйкамі доўгай няўплаты узносаў, ненаведваньне партсходаў, наогул пачынаючага наглядацца адрыву ад партыі).

Таксама трэба яшчэ заўважыць выпадкі нячуткіх адносін з боку некаторых партячэек і парторганаў да асобных таварышоў (беспрацоўных і іншых), што значна адбіваецца на настроі гэтых таварышоў.

Усе гэтыя заўвагі ячэйкам і парткомам належыць бясспрэчна ўлічыць у сваёй далейшай працы, асобна цяпер, у зьвязку з папаўненьнем КП(б)Бел. рабочымі кастрычнікавага закліку.

# У ДАПАМОГУ ДАКЛАДЧЫКУ АГІТАТАРУ

**Я. Р.**

## Вясеньняя пасяўная кампанія і задачы масавай работы на вёсцы

XV зьезд партыі ў сваіх пастановах адзначыў агульнае падняцьцё сельскай гаспадаркі па ўсіх галінах. Таксама адзначан бязумоўны рост тэхнікі і культуры сельскай гаспадаркі (машыны, трактары, электрофікацыя, шматпольле, палепшанае насеньне, угнаеньне і г. д.). Гэтыя посьпехі сельскай гаспадаркі—*вынік правільнай палітыкі нашай партыі на вёсцы.*

Аднак, побач з посьпехамі, XV зьезд партыі адзначыў, што сучасны ўзровень сельскай гаспадаркі і тэмп яе разьвіцьця зьяўляюцца яшчэ далёка не здавальняючымі. Недастатковасьць агульнага тэмпу разьвіцьця сельскай гаспадаркі даволі яскрава выявілася ў тых затрудненьнях, якія мы мелі і яшчэ маем на рынку то з тым, то з іншым сельска-гаспадарчым прадуктам.

Такое становішча сельскай гаспадаркі тлумачыцца цэлым шэрагам аб'ектыўных прычын, з якіх важнейшымі зьяўляюцца наступныя: а) празьмерная распыленасьць і дробнасьць сялянскіх гаспадарак, якія характарызуюцца нізкім узроўнем вытворчай працы; б) слабая тэхніка сельскагаспадарчай вытворчасьці і ў сувязі з гэтым вельмі нізкая ўраджайнасьць палёў; в) аграрнае перанасяленьне і наліччa значных кадраў нескарыставаных рабочых рук; г) усё яшчэ значная неземляўпарадкаванасьць; д) недахоп сродкаў вытворчасьці і інш.

У сувязі з гэтым XV партзьезд даў дырэктыву аб тым, каб узмацніць тэмп разьвіцьця сельскай гаспадаркі і прыняць усе меры да павялічэньня сельска-гаспадарчай вытворчасьці, як шляхам пашырэньня пасеўнай плошчы і павялічэньня жывёлы, так і шляхам інтэнсіфікацыі і мэханізацыі сельска-гаспадарчай вытворчасьці. Пры гэтым *у якасьці асноўнай задачы партыі на вёсцы XV партзьезд паставіў практычную задачу паступовага пераводу дробных, індывідуальных сялянскіх гаспадарак на рэйкі буйнай, грамадзкай сельска-гаспадарчай вытворчасьці.*

У адпаведнасьці з гэтымі пастановамі партыі ў сучасны момант аграмаднейшае гаспадарчае і палітычнае значэньне для ўсяго Савецкага Саюзу набывае пытаньне *аб арганізаваным правядзеньні вясеньняй пасеўнай кампаніі, якую мы павінны максымальна выкарыстаць дзеля практычнага ажыцьцяўленьня задач, якія пастаўлены партзьездам.*

Лютаўскі пленум ЦК КП(б)Б і Саўнарком БССР у сваёй пастанове ад 3 сакавіка яскрава вызначылі практычныя задачы вясеньняй пасеўнай кампаніі ў БССР, выходзячы з агульных дырэктыў XV і XI партзьездаў УсеКП(б) і КП(б)Б.

Гэтыя задачы ў асноўным наступныя:

1) Далейшае *пашырэньне пасеўнай плошчы* ня менш як на 2% і *павялічэньне* прадукцыі сельскае гаспадаркі *збожжавых культур* праз павялічэньне ўраджайнасьці і пашырэньне палявога травасеву;

2) Далейшае пашырэньне *нязбожжавых культур*, у паасобку пасеўных траў ня менш, як на 20%, *тэхнічных культур*—на 11% і *бульбы*—на 7%;

3) Правядзеньні сыстэмы арганізацыйна-гаспадарчых і агрыкультурных мерапрыемств, якія-б садзейнічалі *росту ўраджайнасьці* (перавод на шматпольле ня менш 125.000 гэктараў, збожжаачышчэньне ня менш 34.089 тон і пратручваньне сялянскага матар'ялу ня менш 4.626 тон, залажэньне паказальных вучасткаў са штучным угнаеньні—4.156 вучасткаў і інш.);

4) Аказаньне дапамогі незаможным гаспадаркам шляхам прадастаўленьня ім у першую чаргу крэдытаў, сродкаў вытворчасьці і шляхам іх агрыкультурнага абслугоўваньня;

5) Выкарыстаньне ўсіх сіл і сродкаў *дзеля ўнядрэньня ў шырокія масы сялянства пачатку калектывізацыі сельскай гаспадаркі* і ўзмацненьня каапэраванасьці насельніцтва наогул (кантрактацыя, сумеснае выкарыстаньне сродкаў вытворчасьці і г. д.).

Прыдаючы выключна важнае значэньне арганізаванаму і плянаваму правядзеньню вышэй пералічаных задач, неабходна прыкаваць увагу ўсіх мясцовых партыйных, савецкіх, каапэрацыйных і грамадзкіх арганізацый да важнейшых пытаньняў вясеньняй пасеўнай кампаніі, якая зьяўляе ца вырашальнай для посьпехаў усяго сельска-гаспадарчага году, і ў сувязі з гэтым *арганізаваць і правесьці масавую агітацыйную работу сярод сялянства* ў мэтах далейшага разьвіцьця і палепшаньня сельскай гаспадаркі.

Па свайму характару і мэтадах уся гэтая масавая і агітацыйная работа, у сучасных умовах роста грамадзкай актыўнасьці ўсіх сацыяльных груп вёскі, росту культурна-матар'яльных запатрабаваньняў мас, *павінна ў найбольшай ступені садзейнічаць выяўленьню самадзейнасьці і ўласнага вопыту мас, з тым, каб ўсё кіраўніцтва партыі і савецкае ўлады, усялякае паказаньне зьверху, сапраўджалася творчай ініцыятывай шырокіх сялянскіх мас зьнізу.* Дзеля гэтага масавая і агітацыйная работа павінна даваць яскравае прадстаўленьне аб тых шляхох і спосабах, якімі кожны батрак, бедняк, серадняк маглі бы садзейнічаць ажыцьцяўленьню хвалюючых яго задач праз масавыя воргany савецкае дэмакратыі.

Такім павінен быць характар усёй масавай і агітацыйнай работы ў сувязі з правядзеньнем вясеньняй пасеўнай кампаніі.

Работа па выхаваньню грамадзка-палітычнай самадзейнасьці сялянства павінна ўвязывацца з пераадаленьнем такіх яшчэ маючых месца перажыткаў, як „іждывенчэскія настроі", асабліва сярод беднаты, „надзея на дапамогу звыш, альбо ад благадзецеля-гаспадара", „няўменьне абараняць свае эканамічна-прававыя інтарэсы"—асабліва сярод батрацтва і пастухоў, погляды на савет, на каапэрацыю, як на штось-ці „чужое", на дзяржаву, як на „казну" і г. д. Побач з гэтым у сялянстве павінна выхоўвацца сьвядомасьць неабходнасьці „акуратнасьці" ў выкананьні абавязкаў перад дзяржавай (саечасовая здача сельхозпадатку, выяўленьне аб'ектаў аблажэньня, узварот ссуды і г. д.). Неабходна паказываць сувязь такой „акуратнасьці" з культурна-бытавым ростам самой вёскі (рост районных і вясковых бюджэтаў за кошт с.-г. падатку, магчымасьць росту с.-г. крэдытных арганізацый пры крэдытнай акуратнасьці сялянства).

Уся гэта масавая палітычная і гаспадарчая работа адбываецца ў своеасаблівых умовах вёскі, дзе *„пры наліччы гаспадарчага ўздыму асноўнай масы сялянства адбываецца рост кулацкіх груп вёскі* (пленум ЦК і ЦКК УсеКП(б). Жнівень 1927 г.). *Масавая работа павінна* ня

проста зьбіраць масы вакол чарговых лёзунгаў партыі і мясцовых канкрэтных плянаў пасеўнай кампаніі, але аб'яднаць гэта з непасрэднай палітычнай барацьбой пролетарыяту і беднаты за серадняка супроць кулацтва.

Адгэтуль першачарговыя задачы агітацыі ў пасеўнай кампаніі, гэта чутка рэагаваць і даваць умелы адпор кулацкай агітацыі, разаблачаць кулацкія лёзунгі і згуртоўваць усю масу беднаты і сераднякоў вакол задач пашырэньня пасеваў. Вясковы масавы работнік і агітатар павінен быць гатовым разаблачаць работу кулацтва і антысавецкіх элемэнтаў у справе распаўсюджаньня панікі і недарэчных чутак аб адмене нэпа і г. д. Ён павінен умець разаблачаць імкненьні кулацтва выступаць у абарону і ад імя „агульна-сялянскіх інтарэсаў"—з патрабаваньнем „арганізацыі сялянскіх саюзаў", з патрабаваньнямі „прапусьціць таньнейшыя тавары з-за межы", „сялянства адзіна́ ня трэба яго расшластоўваць", „не патрэбна работа з беднатой, бо яна накіравана супроць серадняка", „чаму рабочаму жывецца лепш, чымсь селяніну" і г. д.

Побач з гэтым наша агітацыя павінна разаблачаць і эксплёататарскія тэндэнцыі кулака, у прыватнасьці імкненьні скарыстаць у сваіх мэтах „лже-каапэратывы", кабальныя ўмовы „арэнды зямлі", ссуды, найма рабочай сілы і г. д. У той-жа час неабходна адрозьніваць ад кулацкай агітацыі блытаніну значнай часткі сялянства ў адносінах да гарадзкіх рабочых, у прыватнасьці так званую „рэўнасьць да рабочага". Гэтакую блытаніну неабходна асьцярожна, цярпліва і ўпарта растлумачваць і паказваць сапраўдныя шляхі да здавальненьня ўсё ўзрастаючых запатрабаваньняў сялянства.

Усе партыйныя, савецкія, камсамольскія, прафэсыйныя і іншыя грамадзкія арганізацыі павінны неадкладна разгарнуць работу па *папулярызацыі мясцовых плянаў пасяўной кампаніі.* Ніякае прамедленьне ў гэтай справе ня можа быць дапушчана. Райкомы і ячэйкі КП(б)Б на вёсцы павінны арганізаваць сыстэматычнае назіраньне за работай усіх арганізацый, якія ўдзельнічаюць у пасеўнай кампаніі. Яны павінны таксама як і ў галіне хлебазагатовак, *хутка і строга караць* усіх тых, хто па бюракратычнаму адносіцца да гэтай справы.

Для арганізаванага правядзеньня мерапрыемств у вясеньнюю пасеўную кампанію павінны быць прыцягнуты *ўсе* арганізацыі, якія маюць тое альбо іншае дачыненьне да вёскі. Ніякія адгаворкі, што гэта да мяне не датычыцца, што гэта не мая справа, а суседа, не павінны прымацца пад увагу. Партарганізацыі і камсамол, саветы і прафсаюзы, камітэты сялянскай узаемадапамогі і шэфтаварыства, органы палітасьветы і каапэрацыя, і г. д.—усе гэтыя арганізацыі павінны прыняць актыўны ўдзел у пасеўнай кампаніі і па загадзя распрацаванаму пляну павінны на мясцох правесьці агітпрапаганду і масавую тлумачальную работу сярод сялянства, будуючы яе на конкрэтных прыкладах і дасягненьнях калектыўных гаспадарак, саўгасаў і каапэратываў. Для гэтае прапаганды павінна быць шырока скарыстована радыё і кіно. Усе вясковыя арганізацыі і, у першую чаргу, органы палітасьветы і ячэйкі ОДР павінны прасачыць за тым, каб усе вясковыя радыё-ўстаноўкі працавалі і прымалі-б радыё-перадачы.

Асяродкам увагі ў ходзе гэтае масавае работы павінна быць пастаўлена задача *павышэньня палітычнай і гаспадарчай самадзейнасьці* беднаты: яе арганізацыя вакол скарыстаньня ільгот па с.-г. крэдыту, забясьпечэньню машынамі, кантрактацыі пасеваў, арганізаванаму найму коняй і іншае.

Асаблівае значэньне ў справе правядзеньня вясеньняй пасеўнай кампаніі *мае наш друк.* Неабходна ўсебакова скарыстаць нашы органы

друку як у цэнтры, гэтак і на мясцох—*насьценыя газэты*—дзеля правядзеньня прапаганды і растлумачэньня сярод сялянства задач пасеўнай кампаніі, і тых практычных мерапрыемств, якія павінны быць праведзены непасрэдна сялянствам у мэтах палепшаньня і разьвіцьця мясцовай сельскай гаспадаркі. Селькоры павінны выпусьціць спэцыяльныя нумары насьценных газэт, прысьвечаных пасеўнай кампаніі. Яны-ж павінны ў мясцовых і цэнтральных газэтах высьвятляць, як праходзіць пасеўная кампанія, бічуючы недахопы і паказваючы дасягненьні.

Якія-ж канкрэтныя задачы стаяць перад паасобнымі арганізацыямі ў справе правядзеньня пасеўнай кампаніі?

*Палітасьветы* павінны прыняць удзел у кампаніі шляхам: а) арганізацыі дакладаў, лекцый, гутарак у хатах-чытальнях і іншых палітыкаасьветных установах; б) арганізацыі ў вясковых бібліатэках выставак літаратуры па пасеўнай кампаніі і сельскай гаспадарцы наогул; в) арганізацыі тэатральных і кіно-ўстановак і скарыстаньня радыё; г) арганізацыі ў домах селяніна, хатах-чытальнях, чырвоных кутках, савецкіх чайных, чырвоных трактырах і іншых установах кансультацыі і справачнай работы; д) развескі плякатаў, афіш і іншых друкаваных матар‘ялаў аб пасеўнай кампаніі, а таксама шляхам галоснай чытанкі брашур і лістовак, прысьвечаных пасеўнай кампаніі.

*Профсаюзы*, у першую чаргу саюз сельска-гаспадарчых і лясных рабочых і працасьветы, павінны праводзіць у вёсцы работу па растлумачэньню ўсіх мерапрыемств партыі ў сувязі з пасеўнай кампаніяй, дапамагаючы хатам-чытальням і іншым вясковым арганізацыям. Было-б вельмі мэтазгодна, каб прафсаюзы частку свайго гарадзкога актыву накіравалі ў вёску на агітацыйную работу ў сувязі з пасеўнай кампаніяй.

*Каапэрацыя, камітэты сялянскай узаемадапамогі* і іншыя вясковыя грамадзкія арганізацыі таксама павінны прыняць актыўны ўдзел у правядзеньні пасеўнай кампаніі.

Аграмадную ролю могуць адыграць *камсамол і жаночныя дэлегацкія сходы*. Калі яны разгорнуць шырокую работу і дабьюцца таго, каб камсамольцы і жаночы актыў сталі застрэльшчыкамі ў пасеўнай кампаніі, яны вельмі і вельмі дапамогуць пасьпяховаму правядзеньню пасеўнай кампаніі.

Надта вялікую работу павінны прарабіць *шэфскія таварыствы*. Яны павінны аднесьціся да гэтае кампаніі з такой-жа сур‘ёзнасьцю, як і да кампаніі перавыбараў саветаў. Шэфарганізацыі павінны накіраваць у падшэфныя вёскі сваіх агітатараў і арганізатараў, каб дапамагчы мясцовым партарганізацыям распрацаваць плян правядзеньня пасеўнай кампаніі і мабілізаваць савецкую грамадзкасьць на вёсцы навакол правядзеньня ў жыцьцё гэтых плянаў.

Тыя задачы, якія пастаўлены партыяй і савецкай уладай у пасеўнай кампаніі бягучага году патрабуюць *рашучага пералому ў рабоце нашых вясковых парт‘ячэек*.

Само сабой зразумела, што пасеўная кампанія будзе пасьпяхова праведзена толькі ў тым выпадку, калі кожная вясковая партыйная арганізацыя, кожны партыец на вёсцы ня толькі будзе яскрава разумець тыя *агульныя* задачы пасеўнай кампаніі, якія вызначаны партыяй, але і атрымае *практычныя, дзелавыя ўказаньні аб тым, як агульныя дырэктывы партыі праводзіць у данай вёсцы, у даным раёне*

Вясковыя партыйныя арганізацыі павінны ўсю сваю работу пераглядзець, зусім зьмяніць і абнавіць пляны работ і напоўніць зьмест партыйнай работы практычнымі пытаньнямі сельскае гаспадаркі, пытаньнямі каапэраваньня, колектывізацыі вёскі. Павінна быць арганізавана

прапрацоўка пастаноў XV партзьезду па дакладу т. Молатава і пастанова ЦВК СССР аб калгасах і саўгасах, надрукаваная ў „Известиях ЦИК“ ад 23 і 24 сакавіка 1927 г. Павінны быць праведзены нарады партыйцаў і камсамольцаў, занятых на рабоце і якія лічацца членамі пярвічных сельска-гаспадарчых каапэратываў і каляктываў. Павінны быць арганізаваны, а існуючыя ўзмоцнены—групы беднаты пры каапэрацыі.

Вясковыя партарганізацыі (ячэйкі, райкомы) павінны арганізаваць сытэматычную пастаноўку пытаньняў сельскай гаспадаркі, пытаньняў калгаснага руху на ячэйках і пленумах Райкомаў, а праз фракцыі, праз паасобных прадстаўнікоў камуністычнай партыі—і на пленумах сельсаветаў і Райвыканкомаў, і партыйцы павінны дабівацца там іх вырашэньня.

Акрамя таго, партыйцы і камсамольцы, якія непасрэдна займаюцца сельскай гаспадаркай, павінны падаваць асабісты прыклад пераходам ад разрозьненай дробнай гаспадаркі да буйнай калектыўнай вытворчасьці. *Яны павінны быць піянэрамі сацыялістычнага земляробства. Яны павінны быць першымі і актыўнейшымі агітатарамі і арганізатарамі колектывізацыі сельскае гаспадаркі.*

*Не павінна быць ніводнага партыйца і камсамольца, працуючага непасрэдна ў сваёй гаспадарцы, які-б ня быў членам сельска-гаспадарчай каапэрацыі, не ўваходзіў-бы ў адзін з вытворчых колектываў, хоць-бы ў самы прасьцейшы (таварыства), і ня дабіваўся-бы аб'яднаньня сялянскіх гаспадарак, а ў першую чаргу сваёй, у арцелі і калгасы. У гэтым яго абавязак, як члена Камуністычнай партыі. Усе мясцовыя арганізацыі партыі і камсамола павінны паставіць гэтую практычную задачу на чале сваёй работы з партыйцамі і камсамольцамі, працуючымі ў сваёй гаспадарцы.*

Гэтакі рашучы пералом у працы вясковых парт'ячэек магчымы толькі тады, калі з боку вышэйстаячых органаў партыі будзе больш *канкрэтнага кіраўніцтва, інструктаваньня і праверкі выкананьня* дырэктыў партыі па рабоце на вёсцы. Трэба, каб Акругкомы і Райкомы, якія правяраюць работу партыйных ячэек, у першую чаргу зьвярнулі ўвагу на тое, колькі пытаньняў сельска-гаспадарчых, колькі пытаньняў аб калектывізацыі, аб каапэраваньні стаяла на павестцы дню бюро ячэйкі і агульных сходаў ячэйкі, што канкрэтна зрабілі камуністы ў гэтай галіне.

Вясеньняя пасеўная кампанія пройдзе арганізавана, удала і значна прыблізіць нас да выкананьня і агульных задач паскарэньня тэмпу разьвіцьця сельскае гаспадаркі, і тых арганізацыйна-палітычных задач, якія ўстаноўлены XV партзьездам,—стаяць перад намі ў вёсцы і толькі пры шырокім падтрыманьні ўсіх партыйных, савецкіх і грамадзкіх арганізацый і пры ўмове, што гэтая задача будзе разглядацца, як ударная палітычная задача.

---

**Н. Разумоў**

# Трэба пакласьці пачын

Тав. Ленін казаў, што толькі сацыялістычная школа здолее быць зброяй выхаваньня чалавечай істоты. У сучасны момант гэтае пытаньне набывае актуальнейшае значэньне таму, што жыцьцё з кожным днём павышае культурныя запатрабаваньні працоўных мас і тым самым высоўвае, перад настаўніцтвам неабходнасьць яшчэ большага павышэньня якасьці выхаваўчай працы ў школах і побач з гэтым вымагае павышэньня палітычнага ўзроўню самога настаўніцтва.

Калі з асаблівай увагай прыгледзецца да ўсяе пастаноўкі народнай асьветы, дык бясспрэчны той факт, што маюцца вялізныя дасягненьні за мінулае дзесяцігодзьдзе ў галіне камуністычнага выхаваньня падрастаючага пакаленьня. Аднак не павінны абходзіцца моўчкі і хворыя бакі нашых працоўных школ. Асноўным недахопам у пастаноўцы народнай асьветы—гэта нездавальняючая сувязь вучобы з грамадзкай працай і жыцьцём нашай дзяржавы, у школах прасякае ўспрыйманьне старых мэтадаў „вызубрываньня“ такіх пытаньняў, якія ня могуць быць успрыняты дзяцьмі, асабліва І-ай ступені. Гэтае становішча сьцьвярджаецца маючыміся фактамі з працы школ у пэрыяд падагуленьня навучальнага году і ў часы правядзеньня колёквіуму.

На наш погляд гэтае становішча тлумачыцца тым, што асьветніцкая грамада разнаіта па свайму агульнаму і палітычнаму разьвіцьцю, што яшчэ настаўніцтвам далёка ня ўсім пазбыты звычаі выкладаньня дарэвалюцыйнай школы. Рэшткі дробна-буржуазнай ідэалёгіі, на жаль, у сучаснасьці маюць свае выяўленьні ў некаторай частцы настаўніцтва. Новыя прынцыпы школы няўспрыняты досыць-хутка, як гэта неабходна. Побач з гэтым, палітычная няпісьменнасьць асьветнікаў зьяўляецца асноўнай перашкодай у справе зьдзейсьненьня чарговых задач у галіне народнай асьветы. Маецца колькаснае павялічэньне траты энэргіі за кошт зьніжэньня якасьці працы. Дзеля цэлага шэрагу аб'ектыўных прычын (адсутнасьць належнай матар'яльнай базы і здавальняючай колькасьці пропагандысцкіх сіл і інш.), не зьвярталася пэўнай увагі пытаньню палітычнага росту і палітычнага выхаваньня асноўнай масы асьветнікаў. Палітпадрыхтоўка часткі настаўніцтва звычайна вялася ў працэсе курсаў перападрыхтоўкі і пры правядзеньні палітычных кампаніяў. Сыстэматычная, плянавая праца па падняцьцю палітычнага ўзроўню сярод настаўніцтва адсутнічала.

Бясспрэчна, што за апошнія гады маецца значны прыцёк новага слою настаўніцтва,выхаванага ва ўмовах новай школы, маючага значна больш палітычных ведаў, але гэта не азначае, што гэтая частка не павінна працаваць над павышэньнем свайго палітычнага ўзроўню.

У практычным вырашэньні пытаньня па лініі падрыхтоўкі настаўніцтва ў першую чаргу павінны дапамагчы грамадазнаўцы школ соцвыху. Адначасна з гэтым, у сыстэме нашай партпрацы неабходна ад-

весьці больш месца гэтаму пытаньню, асабліва па лініі асьветніцкіх ячэяк павінна быць выяўлена больш ініцыятывы. Канчатковае вырашэньне гэтага пытаньня павінна быць пастаўлена перад настаўніцтвам пасьля таго, калі прафарганізацыі поўнасьцю выявяць думку саміх асьветнікаў у галіне арганізацыі палітасьветы. Зразумела, што партыйныя і прафарганізацыі становячы на абгаварэньне гэтае пытаньне павінны намеціць арыентыровачны плян гэтай працы, пры чым яго пабудова павінна грунтавацца на падліку разнастайнасьцяў палітычнага ўзроўню асьветніцкай масы. Неабходна захаваньне шырокага прынцыпу дабрахвотнасьці ў адносінах выбару прадмету або праграмы гуртка для кожнай паасобнай групы асьветнікаў.

Мы лічым, што пастаноўка палітычнай асьветы сярод настаўніцтва значна палягчаецца тым, што маецца поўная мажлівасьць шырока разгарнуць палітсамаадукацыю, як шляхам арганізацыі прадметных гуртоў, так і па лініі індывідуальных заданьняў. У бягучым навучальным годзе ёсьць поўная мажлівасьць (хоць з некаторым спазьненьнем) пакласьці пачын разгортваньня палітычнага адукаваньня сярод асноўнай масы настаўніцтва. Ставячы на абгаварэньне гэтае пытаньне паасобныя т. т. лічуць неабходным стварэньне спэцыяльных курсаў па ленінізму. Мне думаецца, што гэта задача ў сучасных умовах цяжка-выконваемая, як у сэнсэ падбору кадру слухачоў, так і падрыхтаваньня матар'яльнай базы для правядзеньня курсаў. На першы час трэба пайсьці па лініі арганізацыі гурткоў палітпісьменнасьці, прыстасоўна да праграм палітшколы 2 ст.; арганізацыі гурткоў бягучай палітыкі, а таксама разгортваньня самаадукацыйнай працы.

Неабходна частку т. т. выявіўшых жаданьне, прыняць у партыйную сетку школ і гурткоў. Побач з разгортваньнем гуртковай і самаадукацыйнай працы, прафарганізацыі трэба падаць максымум увагі пэрыядычнай прапрацоўцы пытаньняў міжнароднага становішча, нацпалітыкі (самае патрэбнае ў нас на Гомельшчыне і асабліва на чыгунцы), пытаньняў культурнага будаўніцтва, эканомпалітыкі і г. д.

Вялікае значэньне ў справе палітычнага выхаваньня асьветнікаў набывае непасрэдны іх удзел у працы грамадзкіх арганізацый, а між тым, дагэтуль мы ня можам пахваліцца дасягненьнямі ў гэтым напрамку.

Творчай калектыўнай працай мы здолеем пазбыць зазначаны недахоп і стаць на больш высокую ступень у справе палітычнага росту настаўніцтва. Вырашэньне гэтае задачы паслужыць магутным штурхачом да палепшаньня якасьці працы на ўсіх вучастках асьветы працоўных мас.

„Марксызм складае адзіна-навуковую тэорыю культуры. Марксызм адкрыў законы капіталізму і прадугледзіў няўхільны прыход сацыялізму, вышэйшага, мажлівага пры дадзеных гістарычных умовах культурнага перавароту. Хто супраўды здольны запаліцца энтузіязмам барацьбы за новае жыцьцё, той павінен прыкласьці ўсе свае сілы да таго, каб стаць удзельнікам вялікага будаўніцтва соцыялізму.“ Для таго, каб быць актыўным удзельнікам у гэтым будаўніцтве новага жыцьця, новай пралятарскай культуры, трэба быць палітычна пісьменным.

**Мазур**

# За актывізацыю партыйных мас

„Когда гибнет старое общество, труп его нельзя заколотить в гроб и положить в могилу. Он разлагается в нашем обществе, он гниет и заражает нас самих".

(Ленин, т. 16, стр. 417—418).

Гэтай сьмярдзючасьцю гніючага старога дробна-буржуазна-меншавіцкага трупу заразілася частка нашае партыі, імя якое апозіцыя, якая па трацкісцкай дарозе дакацілася да меншавізму і сваім разлагаючым смуродам пачала заражаць ня зусім сьвядомых, у большасьці не пролетарскіх, ленінскі нявытрыманых камуністых і нязначную частку рабочых.

XV зьезд УсеКП(б) паклаў у дамавіну згніўшыя трупы апозіцыі і высунуў задачу перад усёй партыяй, каб павясьці работу па актывізацыі партыйных мас і асабліва па актывізацыі элемэнтаў, так званага балота ў нашай партыі, як сваім раўнадушшам да пытаньняў партыйнае работы могуць плыць, заплюшчыўшы вочы, па плыні кожнае канаўкі.

Ва ўсёй рабоце нашых ячэек, асабліва ў сучасны момант, неабходна паставіць перад сабой задачу ўцягненьня ўсяе партыйнае масы ў актыўную партыйную работу, павясьці барацьбу з элемэнтамі раўнадушша, бяспрынцыпнасьці і пасыўнасьці ў адносінах да тых задач, якія зараз стаяць перад партыяй у галіне далейшага соцыялістычнага будаўніцтва краіны дыктатуры пролетарыяту.

Наша партыя, партыя бальшавікоў-ленінцаў заўсёды зьяўлялася і асабліва ў сучасны момант зьяўляецца самай рэвалюцыйнай партыяй пролетарыяту.

Кожны член партыі, кожны ўступаючы ў партыю рабочы павінен запытаць сябе: захаваньне якіх організацыйных правіл забясьпечвае адзінства і сілу нашае партыі, як арганізавана наша партыя і які яе ўнутраны ўклад, унутраны распарадак. Сябра партыі не павінен і ня можа абмежавацца тым, што ён толькі лічыцца сябрам організацыі, сваечасова плаціць сяброўскія ўзносы і наведвае партсходы. Гэтага мала. Партыя патрабуе ад кожнага партыйца прымаць актыўны ўдзел у партыйнай рабоце. Яшчэ мала таксама набраць на сябе шмат нагрузак, хадзіць, рабіць вялікі шум і ня выконваць аніводнае нагрузкі. Камуністы ўсюды павінен быць прыкладным, энэргічным, актыўным элемэнтам, камуністы ня можа і ня мае права быць пасыўным, без адказнасьці за справу партыі. А ў нас маюцца асобныя факты, калі асобныя партыйцы ня толькі ня прымаюць актыўнага ўдзелу ў рабоце ячэйкі, а па некалькі разоў не наведваюць партсходы, ня плацяць па некалькі месяцаў сяброўскія ўзносы. І на запытаньні ячэйкі, чаму яны ня прымаюць удзелу ў працы ячэйкі,—другі раз з абурэньнем на сэкрэтара ячэйкі навальваюцца, заяўляючы: „Мая асноўная работа ня менш важная, чым партыйная" Такую катэгорыю партыйцаў можна сустра-

каць больш за-усё ў сельскіх і савецкіх ячэйках; і больш за-усё сярод такіх элемэнтаў адчуваецца нараканьне, г. зн. „зловоние“, як казаў Ленін, на ўнутрыпартыйны рэжым.

Есьць другая катэгорыя партыйцаў, якая сустракаецца ў сваёй большасьці сярод інтэлігэнтаў і служачых, якія акуратна наведваюць партсходы, сваечасова плацяць сяброўскія ўзносы, лічацца сябрамі амаль-што ўсіх грамадзкіх організацый, але-ж нідзе ня прымаюць актыўнага ўдзелу ў працы. На партсходах ня выказваюцца, не задаюць пытаньняў, з кожнай прапановай згаджаюцца і за ўсе прапановы галасуюць,—але ні ў чым сабе не даюць справаздачы. Маюцца асобныя факты, калі камсамолец прыняты ў партыю, пачынае дапускаць сабе вольнасьці, пачынае выпіваць, адрываецца ад актыўнае работы, і калі яму гавораць, што гэта дрэнна, ён зьяўляе: „Я зараз член партыі і не падпарадковываюсь камсамолу. Гэта ёсьць зло, з якім неабходна змагацца. Маюцца асобныя факты пасыўнасьці і сярод часткі несьвядомых рабочых-партыйцаў, якія захоўваюць такую думку: што мне ісьці і займацца гаварыльняй на сходзе, без мяне зробяць, там ёсьць больш мяне сьвядомыя, а я паслухаю, што заўтра скажуць, а сёньня лепш пайду і пару піўца вып'ю і цягне за сабой таварыша.

Вось гэта, праўда, невялікая група і складае тое балота ў нашай партыі, аб якім казаў т. Сталін на XV зьезьдзе ЎсеКП(б) і якое здольна, калі яго сваечасова не папярэдзіць, разлагацца і даваць тое „зловоние разлагающихся трупов старого мелко буржуазного общества“, аб якім гаварыў Ленін.

Наша партыя магутная таму, што яна складаецца з сьвядомых людзей, якія добра ведаюць інтарэсы сваёй клясы і ўмеюць па-ленінску адстоіваць гэтыя інтарэсы. Сябра партыі, які ня ведае, або не жадае ведаць, за што змагаецца яго партыя і ня прымае актыўнага ўдзелу ў гэтым змаганьні, ня можа быць сябрам нашае партыі. Такі партыец толькі перашкаджае партыі ў яе вялікіх практычных задачах па пабудове сацыялізму ў нашай краіне і дапамагае анты-пролетарскім элемэнтам, што імкнуцца сарваць вялікую ленінскую справу па пабудове сацыялістычнага бяскласавага грамадзтва. Кожны партыец павінен помніць словы Леніна, сказаныя яшчэ ў 1900 г., што партыі неабходна падрыхтоўваць людзей аддаючых рэвалюцыі не адны толькі вольныя вечары, а ўсё сваё жыцьцё. Гэтае яшчэ раз гаворыць аб тым, што задача актывізацыі партыйнай масы—павінна быць аднэй з першачарговых задач у рабоце нашых ячэек, асабліва ў сучасны момант, бо без актыўнага ўдзелу ўсёй партыйнай масы ў практычным правядзеньні ў жыцьцё ленінскіх пастаноў XV зьезду, ня можа быць выканана задача канчатковае пабеды пролетарыяту над буржуазяй.

Г. Самусевич

# Больные стороны машинных товариществ

Машинное товарищество в селе и особенно на поселке является первым шагом по переустройству деревни на социалистических началах.

Поселок в целом или группа односельчан, об'единенных в товарищества и имеющих достаточный комплект с.-х. машин: молотилку, веялку, сеялку, сортировку, жатку, косилку и т. п., приобретенных не в единоличное пользование каждого в отдельности хозяйства, а за счет и для коллектива в целом, вполне может и должен ставить перед собою задачу, обобществления на первых порах хотя-бы отдельных видов хозяйства своих членов, как-то: совместный посев сортовым зерном поля, снятие урожая, молотьба и т. п.

Новые социалистические ростки в деревне прививаются в борьбе со старыми формами ведения хозяйства, опирающимися на некультурность и отсталость нашей деревни. Отсюда все трудности организации и руководства переустройством деревни на социалистический лад.

Преодоление трудностей вначале дает возможность повести дело легче в дальнейшем. И тут, как нигде, кстати указание В. И. Ленина „Меньше да лучше". Эта директива Владимира Ильича, к сожалению, не всегда нами исполняется. Мы часто гонимся не за качеством, а за количеством, делаем огромные организационные ошибки, идя по линии наименьшего сопротивления. Эти ошибки, конечно, дают себя потом чувствовать и мы начинаем их исправлять, что приводит к ненужным и большим издержкам.

Наиболее ярко это можно видеть на опыте организации машинных т-в. Нам неоднократно приходилось наблюдать, как группа лиц в порыве благих начинаний без предварительного хорошо предусмотренного хозяйственного плана, учета и расчета, не имея точной перспективы своего развития, организовывала машинное т-во, получала в кредит машины, а затем эти машины попадали в руки отдельным лицам, или эти машины быстро приводились в негодность. Обыкновенно получается это так: машины отпускаются в кредит, обычно при внесении определенного % наличными; этих то наличных часто нехватает; на выручку приходит один из денежных членов т-ва, закладывает свои средства за т-во, а в обеспечение машины завозит к себе; приходит срок платежа, он опять выручает своих членов и, в конце концов, под ширмой машинного т-ва, отдельные наиболее зажиточные хитрецы приобретают себе с.-х. машины на льготных условиях.

С другой стороны при слабой материальной заинтересованности членов т-ва и в погоне за доходами для оплаты кредита путем эксплоатации машин на стороне, машины быстро изнашиваются и т-во не в состоянии ими пользоваться.

В Гомельском округе в прошлом году количество машинных т-в слишком возросло до 70. Не безынтересно посмотреть, на каких основах

эти товарищества организовались. Приводим сведения, составленные Полессоюзом по материалам обследования 15 машинных товариществ Гомельского и Тереховского районов:

| Число т-в | Число членов и % кооперированного населения | Уставной пай в рублях | Сумма паев по уставу | Собрано паевого капитала | Приобретено машин на сумму | Уплачено наличными за машины | Получено кредита | | На сколько % % машины будут использован. | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | Сумма | Срок | В хоз. членов | Не членов |
| 15 | 251 ч.<br>58 % | 3—10<br>ср. 5,8 | 1461 | 723 | 8353 | 1384 | 7217 | до 5 л. | 30 | 4 |

О чем эти цифры говорят?

1. Что за пай в 5 р. 80 к. в среднем на члена единиц—машин не купишь.

2. Что даже этот мизерный пай собран в размере менее 50%, т. е. в среднем 2 р. 67 к. на члена.

3. Что за машины уплачено наличными 1384 рубля, а собрано паевых всего 723 рубля, т. е. больше уплачено товариществами на (1384-723) 661 рубль.

Откуда же эти средства получило товарищество? Ответ ясен: отдельные члены т-ва или кулаки кредитовали машинные т-ва, за очень может быть небольшим исключением, когда недостающую сумму закладывал ККОВ.

4. Что машины будут использованы только на 30% членами т-ва, а на 40% не членами. Это значит, что в основном машины будут эксплоатироваться ради доходов и что элементы обобществления хозяйства членов Т-ва на основе машины полностью отсутствуют.

У нас вызывает большое сомнение жизнеспособность таких машинных Т-в, которые в основном покупают машины в кредит, у которых паевой капитал вместе с уставной ответственностью не покрывает даже стоимости машин.

До сих пор в организации машинных т-в мы идем как видно по линии наименьшего сопротивления. В погоне за количеством товариществ—организаторы часто обещают не выполнимые льготы машинным товариществам, не выясняя перед ними их задач, не обращают внимание на материальную ответственность членов т-ва и т. п.

Теперь, когда наша партия подошла вплотную к переустройству деревни, к вопросам организации машинных т-в так подходить нельзя.

Деревенская беднота и середняки должны знать, что машины государством отпускаются в кредит не для того, чтобы группа лиц, хотя бы и бедняков, зарабатывала бы на этих машинах, а для того, чтобы эти бедняки совместно пользовались машинами для поднятия своего хозяйства.

Только при этом условии государство может и должно отпускать беднейшему крестьянству кредит на машины. Этот кредит должен быть покрыт паями членов т-ва или специальными взносами, иначе ими кредит не будет покрыт или машины будут не годны.

Только такая установка в организации машинных т-в, по нашему мнению, гарантирует от извращений нашу политику в области переустройства деревни.

Мы выдвигаем следующие положения для организации машинных товариществ:

1. Машинами т-ва могут пользоваться только члены этого товарищества.

Этим мы изживаем эксплоататорские настроения машинных Т-в и направим их мысли по линии обобществления хозяйства на основе совместного использования машин.

2. Уставный пай машинного т-ва должен быть по размеру таким, чтобы за сумму паев т-ва можно было бы купить необходимое количество с.-х. машин.

Взносы паев в зависимости от социального состава членов товарищества следует рассрочить соответственно срокам кредита, отпускаемого кредитными товариществами на покупку с.-х. машин. Приобретение в дальнейшем новых машин должно производиться за счет специальных взносов членов машинного т-ва.

Возникает вопрос, является ли правильным при неравенстве хозяйств членов т-ва установление одинакового пая для всех членов, при условии покупки машин за счет паевых, тоже и при специальных взносах.

На этот вопрос мы считали бы справедливым до полного обобществления хозяйств членов т-ва установление диферентированного пая, примерно, пропорционально посевной площади членов т-ва.

3. В тех случаях, когда машинами будут пользоваться члены товарищества, каждый, в отдельности, следует установить а зпользование машиной определенную плату, покрывающую амортизацию машин. При совместном же пользовании машинами всеми членами товарищества никакой платы взимать не надо.

4. В отношении организационного обслуживания машинных товариществ дело обстоит не хорошо. Быстрый рост машинных т-в налицо. Сельсоюз не в состоянии справиться с обслуживанием их своими инструкторами, тем более, что доходов от машинных т-в в союзе почти не имеется.

Поэтому целесообразно машинные т-ва в организационном отношении подчинить кредитному т-ву, кредитующему эти машинные т-ва. Деятельность машинных т-в необходимо также увязать с работой участковой агрономии. За союзом должно остаться общее руководство и контроль в области организации и работы машинных товариществ.

---

# НА МЯСЦОХ

В. Стасевіч

## Аб выніках Аршанскага сакавіковага пленуму АК

Пашыраны Пленум АК разам з сакратарамі Райкомаў і старшынь РВК адчыніўся дакладам Сэкратара ЦК т. Кнорына,—аб чарговых задачах КПБ. У сваім рашэньні па дакладу т. Кнорына Пленум падкрэсьліў што „выкананьне гэтых галоўнейшых задач сучаснага моманту патрабуе ўзьняцьця тэорэтычнага ўзроўню шырачэйшых колаў партыйцаў, у першую чаргу актыву, далейшага разгортываньня ўнутры-партыйнай дэмократыі на грунце здаровай самакрытыкі, максымальнага ўцягненьня ўсіх партыйцаў у практычную працу партыі па сацыялістычнаму будаўніцтву і вырашчываньне новых кадраў актыву, паляпшаючы ўнутры-выхаваўчую працу сярод уноў уліўшыхся рабочых у шэрагі партыі ў час Кастрычнікавага прызыву, адначасова, і ў далейшым разгортваючы працу па ўцягненьню ў шэрагі КПБ гарадзкога і вясковага пролетарыяту і лепшай часткі вясковай беднаты“.

„Пленум са здавальненьнем адзначае, што XV Зьезд, канчаткова ліквідаваўшы трацкісцка-меншавіцкую апазыцыю, даў поўную мажлівасьць кінуць усе сілы партыі на практычнае вырашэньне задач сацыялістычнага будаўніцтва ў нашай краіне і ўпэўнен, што будучы адзінай ленінскі згуртаванай, Аршанская акруговая партыйная арганізацыя пераможа ўсе недахопы-цяжкасьці і пад кіраўніцтвам Ленінскага ЦК, пры падтрыманьні шырокіх колаў працоўных Акругі выканае стаячыя перад-ёй задачы“.

Многа ўвагі і часу пленум ахвяраваў пытаньню аб працы на вёсцы На грунце дырэктыў XV Партзьезду, XI Зьезду КПБ і IV-й Акруговай Партконфэрэнцыі пленум распрацаваў шэраг практычных мерапрыёмстваў па працы на вёсцы. Мяйсцовы вопыт працы паказаў, што палітычная, эканамічная і культурная работа арганізацыі КПБ прывяла да асяроджваньня вёскі, роста і замацаваньня сацыялістычных элемэнтаў (саўхозы, калхозы, каапэрацыя) пры адначасовым узросьце вытворчых сіл сельскай гаспадаркі і паляпшэньня культурна-матар‘яльнага стану сялянства і ў першую чаргу яго бядняцкіх пластоў.

Як дадатнае зьявішча ў працы сярод беднаты Пленум адзначыў, што праца сярод беднаты ўступіла на рэйкі сыстэматычнай і плянавай працы. Але адначасова Пленум падкрэсьліў, што праца груп беднаты выховываньня і вылучэньня бядняцкага актыву зьяўляюцца яшчэ недастатковымі. Пленум заўважыў, што маюцца ў шэрагу раёнаў такія адмоўныя бакі ў працы з беднатой, як нескарыстаньня поўнасьцю бядняцкіх фондаў у каапэрацыі, накіраваньня бедняцкага крэдыту часткова на нявытворчыя патрэбы і часткова ў заможныя гаспадаркі.

Адзначыў вялікую цягу сялянства да пераходу на калектыўныя формы вядзеньня с.-гаспадаркі, якая ў шэрагу раёнаў прыймае стыхійны характар, дзякуючы недастатковай увазе да калектывізацыі з боку асобных райкомаў і парт‘ячэек і мейсцамі недапусьціма фармальна-бюро-

кратычных адносін з боку некаторых савецкіх і каапэрацыйных устаноў, пленум прапанаваў Бюро АК і Райкомам распрацаваць да пачатку яравай кампаніі сталы канкрэтны плян калектывізацыі с.-гаспадаркі па вакрузе.

У адносінах культурнай працы на вёсцы разам з шэрагам мераприёмств па палепшаньню школьнай і палітасьветнай працы Пленум АК асаблівую ўвагу завастрыў на пытаньнях прасоўваньня газэты, кніжкі, кіно і радыё на вёску і ажыўленьня працы грамадзкіх арганізацый.

У галіне ўнутры-партыйнай працы Пленум АК распрацаваў мераприёмствы па палепшаньню зьместу працы вясковых ячэек. Адзначыў шэраг выпадкаў скажэньняў клясавай лініі, як у палітычна-арганізацыйнай, так і ў практычнай працы некаторых ячэек (замазываньня, расслаеньня, незразуменьня палітычнага зьместу праводзімых гаспадарча-эканамічных кампаній, неправільнага скарыстаньня ільгот па маніфэсту і г. д.), пленум АК у сваёй рэзолюцыі сказаў, што „кіраўніцтва ячэек гаспадарчым будаўніцтвам усё яшчэ застаецца далёка недахватным. Пераважнае мейсца ў рабоце шэрагу ячэек займаюць паліткампаніі і прапрацоўка рашэньняў вышэйстаячых партворганаў. Вясковыя ячэйкі ўсё яшчэ не навучыліся свяечасова падхватываць гаспадарчую ініцыятыву сялянства, станавіцца на чале яе (у Талачынскім р-не арганізавана 28 т-ств бяз удзелу ячэйкі, у Аршанскім р-не арганізавалася камуна бяз удзелу ячэйкі і г. д.). Слабая ўвага ячэек пытаньням калектывізацыі с.-г. і слабае, а мейсцамі і адсутнасьць, кіраўніцтва ячэек калхозамі (на тэрыторыі Азерэцкай ячэйкі 7 т-ств, якімі ячэйка не цікавіцца, а ставіць адцягненыя пытаньні „аб соцыялістычным накапленьні па Азерацкому с.-с."; апошнія перавыбары калхозаў праходзілі бяз усякага ўдзелу шэрагу вясковых ячэек і г. д.). Адсутнічае пералом сярод асноўнай масы вясковых комуністаў—сельскіх гаспадароў і слабае імкненьне іх да пераходу на калектыўныя формы вядзеньня свае гаспадаркі (па матар'ялам аб гаспадарках камуністаў—з 130 гаспадарак камуністаў 6 чалавек члены калхозаў і 5 калектыўна-карыстаючыхся інвентаром").

Пленум АК заслухаў інфармацыю фракцыі АВК аб ходзе работы па ўзмацненьню загатовак, спагнаньню збораў і падаткаў, рэалізацыі займа сялянскай пазыкі і правядзенью самаабкладаньня. Па стану на 20 лютага выпаўненьне пляна загатовак малюецца ў наступным выглядзе: па жыту выпаўнена—20 проц. гадавога заданьня; яравым—128 проц.; альняному семю—61 проц.; лёну-валакну—41 проц.; пяньке—13 проц.; буйным скурам—54 проц.; дробным скурам—22 проц.

Па загатоўках экспартных відаў плян асобнымі арганізацыямі выканан так: па Спажыўсаюзу выпаўнена на 39 проц.; па Дзяржгандбелу—54 проц., Сельсаюзу—103 проц.

Зусім слаба выпаўняецца заданьне па загатоўках ільна-валакна, ільнянога семяні і пянькі.

Асабліва слаба ідзе паступленьне закантрактаванага ільна-валакна. Усяго паступіла на 25 лютага 29 проц. і грашмі 14 проц.

Сельска-гаспадарчая каапэрацыя ня прыняла неабходных мер к поўнаму ўзысканьню закантрактаванага ільна-валакна.

Пленум прапанаваў аснаўным загатаўцелям асабліва ўзмацніць загатоўкі ільна-валакна, ільнянога семяні, пянькі і скуранае сыравіны, не паслабляючы тэмпу загатовак і інш. відаў. Адначасова канстатуя слабае правядзеньне кампаніі сялянскай пазыкі і самаабкладаньня, Пленум АК у сваім рашэньні падкрэсьліў: „недапусьцімую пасыўнасьць Райкомаў і Райвыканкомаў у частцы распаўсюджваньня сялянскае пазыкі (усяго выпаўнена 12 проц. заданьня—Багушэўскі раён—16,7 проц. Лядянскі—2,5 проц.) невыпаўненьне дырэктыў АК і фракцыі АВК аб

мерах па ўмацаваньню распаўсюджваньня сялянскае пазыкі, Пленум прапануе ўсім партыйным, савецкім і гаспадарчым арганізацыям, прытрымліваючыся дадзеных раней дырэктыў, прыняць рашучыя меры к утварэньню пералому ў распаўсюджываньні сялянскае пазыкі, дабіўшыся разьмеркаваньня ўсяе вызначанае сумы на кожны раён“.

Пленум АК таксама многа ўвагі зьвярнуў пытаньню аб вясеньняй сельска-гаспадарчай кампаніі па вакрузе. Мейсцовыя партыйныя і савецкія арганізацыі, ня гледзячы на своечасова данныя Бюро АК дырэктывы па падрыхтоўцы да вясеньняй пасяўной кампаніі, яшчэ недастаткова разгарнулі працу, а мейсцамі гэта праца праходзіць яшчэ слаба. Некаторыя Райкомы і парт'ячэйкі недаацэнілі палітычнага зьместа гэтай кампаніі, не зразумелі, што гэтая кампанія павінна дапамагчы замацаваньню саюзу рабочых і сялян і ў першую чаргу бедняцкай часткі сялянства падрыхтавацца к яраваму севу. Адсюль недастаткова яшчэ разгорнута праца па ачыстцы зярна, слаба ўзысківаецца селекцыйная пазыка, не праведзена падрыхтоўка да забясьпячэньня насеньнем канюшыны земляўпарадкаваных пасёлкаў, ня ўсюды закончана праца па праверцы замацаваньня шматпольля ў землябудаўнічых пасёлках, не вызначаны пункты калектывізацыі с.-гаспадаркі, ня досыць уцягнута бедната ў падрыхтоўчую працу і г. д.

Пры правядзеньні мерапрыёмств, зьвязаных з пасеўной кампаніяй, Пленум даручыў: „паставіць сваёй задачай пашырэньня пасяўной плошчы на 2,3 проц., тэхнічных расьлін—ільну на 10 проц., бульбы на 7 проц., кармавыя травы на 25 проц. і ў р-нах з разьвітай малочнай гаспадаркай пашырыць высеў карняплодаў, давёўшы плошчу па акрузе да 1722 гэктараў“.

У зьвязку з тым, што ў гэтым годзе Акрземаддзелам, Акрсельсаюзам і Акрсельбанкам будзе ўложана ў с.-гаспадарку вакругі—1.630 тыс. руб. (на 27,5 проц. больш чым у мінулым годзе) з такім разьлікам, каб з гэтай сумы 73 тыс. руб. (павялічэньня супроць мінулага года на 131 проц.) пайшло на насеньня, 60 тыс. руб. (павялічэньня на 93 проц.) на штучнае ўгнаеньня і 175 т. руб. (павялічэньня на 56 проц.) на набыцьцё с.-г. машын, Пленум АК даручыў бюро АК і Райкомам праверыць, каб гэтыя сродкі былі выкарыстаны па прамому прызначэньню, каб гэтыя сродкі ў першую чаргу пайшлі на дапамогу бедняцкім гаспадаркам і каб гэтыя сродкі дапамагалі каапэрыраваньню і калектывізацыі с.-гаспадаркі.

Намеціўшы шэраг мерапрыёмств па землябудаўніцтву, меліарацыі, дабычы торпу, дапамога беднаце, калектывізацыі с.-гаспадаркі, Пленум АК прыняў пастанову, каб у сёлетнім годзе ўцягнуць у сыстэму с.-г. каапэрацыі да 60 проц. сялянскіх двароў.

Сваю працу Пленум закончыў заслуханьнем дакладу аб выніках партасьветы і выпрацоўкай практычных прапаноў па заканчэньню партвучэбнага году.

---

**Янка Мялешка**

# Як жыве і працуе Гарадоцкая партарганізацыя

Гарадоцкая партарганізацыя КП(б)Б у сучасны момант налічвае сяброў і кандыдатаў партыі—142 чал. з якіх: рабочых непасрэдна працуюць ля варстата—54 чал., непасрэдна ад сельскай гаспадаркі—11 чал., працуючых у камунах, арцелях і калхозах—6 чал., а астатнія працуюць на пасадах каапэратыўных, гаспадарчых, прафсаюзных і савецкіх установах.

За час Кастрычнікавага закліку арганізацыя за лік лепшай часткі рабочых, актыву, узрасла на 40 чал.

Арганізацыя ў час дыскусіі, яшчэ больш паказала сваю моц, шчыльнасьць і аднаадушнасьць у асуджэньні перадзьездаўскіх тэзісаў і катагарычна асудзіла няправату дзейнасьці апазіцыі.

Праўда, як гаворыцца, „семья не без урода". Выявіўся і адзін „опазыцыянерчык", дэмабілізованы камандзір, але апошні ў Гарадоцкай арганізацыі не знайшоў сабе грунту для апазыцыйнай дзейнасьці. Ня гледзячы на прыняцьце мер, каб апошні яскрава па бальшавіцкі адмовіўся ад сваіх апазіцыйных поглядаў, усё-ж гэтага не дабіліся і апошні выключан з шэрагаў партыі.

Акрамя гэтага ў Гарадок асабліва ў часе дыскусіі заглядывалі з Ленінграду паасобныя опазіцыянеры, пад відам „купіць прадуктаў, альбо на адпачынак". Замест гэтага яны стараліся распаўсюджваць апозыцыйныя погляды, напрыклад: сябра партыі Шкляр І., прыехаўшы на адпачынак, пачаў сярод моладзі вясьці гутаркі, аб несправядлівасьці лініі ЦК у адносінах моладзі і г. д., але апошні, таксама атрымаў належны адпор.

З боку Райкома за апошні час зьвернута асаблівая ўвага на выхаваньне сяброў і кандыдатаў партыі, а таксама Кастрычнікавага закліку. Існуе школа стацыянарка, акрамя гэтага маецца пяць палітгурткоў і гурткоў самаадукацыі па распрацоўцы XV-га зьезду УсеКП(б) і XI-га зьезду КП(б)Б—9 гурткоў, гурткоў самаадукацыі па розных праграмах маецца 11, па індывідуальнаму заданьню займаюцца 11 чалавек партыйцаў.

Гэтай сеткай парт, вучобы ахоплены ўсе партыйцы і ў значным ліку беспартыйны актыў. Наведваньне заняткаў здавальняючае. Маецца належны кантроль з боку ячэйкі КПБ аб наведваньні.

Трэба адзначыць, што райённы партактыў рэгулярна наведваць тыя ці іншыя гурткі альбо школу стацыянарку рэгулярна ня мае магчымасьці па прычыне сыстэматычнай пасылкі апошняга с/саветы на працу па ўдарных заданьнях, якія стаяць перад партарганізацыяй (узысканьне страхоўкі, сельгозпадатак, распаўсюджваньне сялянскае пазыкі, загатоўкі і самаабкладаньне).

Бюро Райкома за апошні час зьвярнула асаблівую ўвагу на канкрэтызацыю працы ячэек КП(б)Б. Зроблена рэарганізацыя гарадзкой ячэйкі, якая аб'яднала камуністаў, працуючых у розных установах і

кооператыўных арганізацыях гораду, і якая немагла належным чынам ахапіць сваёй працай гэтых устаноў. У сучасны момант у мэтах лепшага прыбліжэньня ячэек к савецкім, кооператыўным і гаспадарчым установам у справе паляпшэньня дзейнасьці гэтых арганізацый, арганізованы ячэйкі ў горадзе па вытварчаму прынцыпу: кооператыўная ячэйка, у якую ўходзяць комуністы працуючыя ў кооператыўных і гандлёвых арганізацыях, пры Гарацкім Камунальным Трэсьце, таксама арганізована і савецкая ячэйка, у якую ўходзяць комуністы, працуючыя ў сав. установах (пошта, Гарсавет, РВК і г. д.).

Такім чынам кожная ячэйка ў сучасны момант падышла непасрэдна да канкрэтнай працы па абслугоўваньню належных арганізацый і ўстаноў, а Райкому таксама лягчэй кіраваць памянёнымі арганізацыямі і ўстановамі праз ячэйкі.

У райёне існуе 10 яч. КПБ з якіх: вытворчых—4, кооператыўных—1, савецкіх—1, сельскіх—4.

Гаворачы аб партарганізацыі, нельга абыйсьці маўчкі становішча камсамолу. Камсамольская арганізацыя налічвае ў сваіх шэрагах 497 сяброў, з якіх: рабочых—178, сялян—214, якія аб'яднаны ў 20 ячэек, і ў прафшколе металістаў арганізован каляктыў. Піанэрарганізацыя налічвае—624 піанэры, якія аб'яднаны ў 18 атрадаў, з якіх: у горадзе—5, у вёсках—11 і вытворчых—2.

Трэба адзначыць, што камсамольская арганізацыя зьяўляецца досыць моцнай. Зьвернута ўвага на тое, каб ахапіць усіх камсамольцаў партвучобай. Піанэрарганізацыя за апошні час таксама пачала лепей працаваць і перайшла на працу па канкрэтных заданьнях.

Цяпер перад Гарадоцкай партарганізацыяй стаіць задача, да выканаьня якое прыцягнуты ўсе партыйцы, а таксама і камсамол, поўнае распаўсюджваньне дадзенай на райён сумы сялянскага займу і правядзеньня закону па самаабкладаньню; дабіцца поўнага і сваечасовага спагнаньня сельхозпадатку і страхоўкі, выпаўненьне поўнасьцю заданьня па загатоўках і ліквідацыі запазычнасьці па ўзысканьню паявых і іншых грашовых абязацельств насельніцтва.

Ня гледзячы на правядзеньне адзначаных ударных кампаній, з боку Райкома адначасова вядзецца падрыхтоўка к вясновай пасяўной кампаніі. Праведзена нарада кіраўнікоў камун арцеляй і калхозаў, якіх у райёне маецца 10, дзе пастаўлена задача аб папаўненьні калектыўных гаспадарак з новымі пайшчыкамі, сваечасовага набыцьця насеньня і ўгнаеньня. У сакавіку намечана правесьці нараду камуністых, непасрэдна працуючых на сельскай гаспадарцы, разам з камуністымі, якія працуюць у камунах і арцелях, на нарадзе будзе пастаўлена пытаньне аб задачах камуністых сялян на падставе рашэньняў XV-га зьезду аб працы ў вёсцы і паляпшэньня сельскай гаспадаркі, выходзячы з неабходнасьці аграмаджэньня сельскай гаспадаркі. У сакавіку намечана правядзеньне нарады-канфэрэнцыі груп беднаты ў райёне, паставіўшы пытаньне, аб рашэньнях XV-га зьезду ЎсеКП(б) і XI-га зьезду КП(б)Б па рабоце ў вёсцы і лютаўскага пленуму ЦК КП(б)Б аб вясновай сельска-гаспадарчай кампаніі і задачах груп беднаты. На гэтай-жа нарадзе будзе пастаўлена пытаньне аб практычных задачах працы сярод беднаты на райёне ў сувязі з вясновай сельска-гаспадарчай кампаніяй і аб практычным удзеле груп беднаты і наогул беднаты ў правядзеньні гэтых мерапрыемстваў.

На чарговым пленуме Райкома пастаўлена пытаньне аб рабоце і далейшых практычных задачах партарганізацыі аб працы на вёсцы на аснове рашэньня зьезду ЎсеКП(б) і КП(б)Б і даклад загадчыка земчасткі аб земляўпарадкаваньні і падрыхтоўкі да пасяўной кампаніі.

Перад Райкомам стаіць задача дабіцца плянавасьці працы з беднатой, поўнага кооператаваньня беднаты, разгортваньня культасьветпрацы, як у горадзе, так і ў вёсцы, цяпер робіцца абсьледаваньне культурных установ і на пленуме ставіцца пытаньне аб культурнай масавай працы.

Зьвернута ўвага партыйных ячэек аб уцягненьні ў партыю сельхозрабочых, парабкоў, а таксама і беднаты ў сувязі з тым, што да гэтага часу рост партарганізацыі за лік гэтай катагорыі быў не дастатні.

Па лініі партыйных ячэек, а таксама сельхозкооперацыі пастаўлена задача прыняць належныя меры да арганізацыі машынных таварыстваў.

Зьвернута ўвага на паляпшэньне працы дому селяніна і сялянкі і большага ўцягненьня беспартыйнага актыву і сельскай інтэлегэнцыі. Правядзеньне ўскладаецца непасрэдна на ячэйкі КП(б)Б.

Да гэтага часу сялянскія ячэйкі КПБ не ажыцьцяўлялі належнага парткіраўніцтва працай с/саветаў. У сучасны момант пастаўлена задача дабіцца як найлепшай увязкі плянаў ячэек з плянамі с/саветаў, аб удзеле ячэек у падрыхтоўцы і правядзеньня пленумаў с/с., ажыўленьня працы камісій с/с., уцягваючы ў гэтую працу беспартыйны бедняцка-серадняцкі актыў.

Бязумоўна, што пастаўленыя задачы, раённая партарганізацыя зможа поўнасьцю выканаць пры поўным і актыўным удзеле кожнага партыйца, камсамольца з прыцягненьнем у практычных мерапрыемствах сялянскага бедняцка-серадняцкага актыву і культурных сіл вёскі.

---

**X-н**

# Гаспадарчая дапамога беднаце і пытаньне дыфэрэнцыяцыі вёскі

*(Сіроцінскі раён)*

Середняк стал центральной фигурой в земледелии, этот пласт теперь не только не вымывается, а укрепляется.

(З заключнага слова на 15 Партс'езде т. Молатава).

Клясавае перагрупіраваньне ў сельскай гаспадарцы павінна нам даць у гэтым напрамку гаспадарчая дапамога беднаце.

За 1927 год каапэрыравана бядняцкіх гаспадарак за лік фондаў, створаных пры каапэратыўных арганізацыях і сродкаў СКУ на суму 1543 рублі. Па лініі СКУ, на бядняцкія гаспадаркі пайшло насеньнем і грашмі ў часе пасяўной кампаніі 1206 рублёў. Раздадзена насеньня 3402 пуды і грашмі 875 р. атсарціравана дарэмна насеньня 3950 пудоў, СКУ выдаў дарэмна 5 коняй і на льготных умовах прададзена 4 кані бядняцкім гаспадаркам.

Аслабонена 2404 бядняцкіх гаспадаркі ад сельска-гаспадарчага падатку на 24537 рублёў і ад страхоўкі 1003 гаспадаркі на суму 5662 рублі.

Земляўпарадкавана 23 бедняцкіх гаспадаркі на 916 дзесяцін і дападзелены 502 гаспадаркі на 1255 дзесяцін, аслабанено пры землеўпарадкаваньні ад платы за работу на суму 2502 рублі.

Калектыўныя гаспадаркі раздалі бедняцкім гаспадаркам у крэдыт насеньня 105 пудоў, адпушчана дарэмна 7000 флянсаў-буракоў. На часовае карыстаньне калектыўныя гаспадаркі давалі дробны сельска-гаспадарчы інвэнтар на час запашкі. Праведзена вялікая работа па забясьпечаньню пазыкай бядняцкіх гаспадарак, напрыклад: Шумілінскае сельска-гаспадарчае крэдытнае таварыства забясьпечыла па сацыяльных групах доўгатэрміновым крэдытам: беднаты 47,8%, сераднякоў 49,7%. Кароткатэрміновым крэдытам забясьпечана з агульнай пазыкі беднаты 22,3%, сераднякоў 74,1%. Крэдыты больш былі забясьпечаны на рабочую жывёлу, рагатую жывёлу, машыны, земляўпарадкаваньне і на будынкі. Дзякуючы розным і льготам і дапамозе бядняцкім гаспадаркам, мы маем наступныя перагрупіроўкі за апошнія два гады ў сельскай гаспадарцы:

1) Перагрупіроўка гаспадарак па пасеву.

| Год | Беднякоў агульны % | Сераднякоў агульны % | Заможных-кулацкіх груп. агульны % |
|---|---|---|---|
| 1926 | 4072.46,6% | 4429.50,9% | 221.2,5% |
| 1927 | 3584.41,3% | 4851.55,9% | 246.2,8% |

2) Перагрупіроўка па забясьпечаньню рагатым быдлам.

| Год | Безбыдловых агульны % | Аднабыдловых агульны % | Ад 2 да 3 быдловых агульны % | Чатырох і больш агульны % |
|---|---|---|---|---|
| 1926 | 648.7,4% | 3720.42,6% | 4103.47,1% | 251.2,9% |
| 1927 | 548.6,3% | 3898.44,9% | 4003.46,1% | 232.2,7% |

3) Па забясьпечаньню коньмі.

| Год | Бесканёвых агульны % | З 1 канём агульны % | З 2 коньмі агульны % | З 3 коньмі і больш. агульны % |
|---|---|---|---|---|
| 1926 | 1697.19,4% | 6242.71,6% | 748.8,6% | 35.0,4% |
| 1927 | 1345.15,4% | 5990.69% | 1271.14,8% | 75.0.08% |

Такім чынам, маем паменшаньне % беспасеўных, безбыдлёвых і безканёвых бедняцкіх гаспадарак, значнае павялічэньне серадняцкіх гаспадарак па гэтых групах і нязначны ўзрост заможных гаспадарак. Дзякуючы мерапрыёмствам партыі і ўлады ў адносінах дапамогі бедняцкім і серадняцкім гаспадаркам, мы маем правідловы ўзрост вёскі па лініі ўзмацненьня бедняцка-серадняцкага блоку. Мы таксама маем значны лік каапэрыраваных бедняцкіх і серадняцкіх гаспадарак за апошні год, напрыклад: За 1927 год па спажывецкай каапэрацыі маем узрост пайшчыкаў на 1161 чалавек і паёвага капіталу на 5956 рублёў. (у Шумілінскім ПО за апошнія 2 месяцы маецца ўзрост паёвага капіталу больш як на 3000 рублёў). Па сельска-гаспадарчых крэдытных таварыствах з колькасьці 3415 пайшчыкаў па 3 таварыствах, маем узрост за 1927 год на 967 пайшчыкаў і паёвага капіталу на 12865 руб.; рост за 1927 год на 4532 рублі.

Каапэрыравана гаспадарак па крэдытных сельска-гаспадарчых таварыствах 39%.

**Б. Шпітальнік**

# Практыка правядзеньня рэжыму эканоміі

*(Мазыр)*

„Толькі шляхам працяглай кампаніі, толькі шляхам моцнага ўстанаўленьня зьверху да нізу рэжыму эканоміі магчыма дабіцца таго, каб паставіць на належную нагу справу сацыялістычнага накапленьня, неабходнага для разгортваньня нашай індустрыі.

(З ліста Сталіна, Рыкава і Куйбышава 1926 г.)

Спэцыяльнай камісіяй, з удзелам АКК РСІ было абсьледавана 9 савецкіх устаноў, 5 гаспадарчых, 3 капэрацыйных і 2 банкаўскіх аб практычным выкананьні імі дырэктыў партыі па рэжыму эканоміі.

Абсьледваньнем выяўлена, што ў асноўным пералом у напрамку практычнага ажыцьцяўленьня гэтых дырэктыў маецца і ў асаблівасьці ў гаспадарчых органах, дзе да правядзеньня работы па рацыяналізацыі, скарачэньню накладных выдаткаў, эканоміі сыравіны і г. д. былі прыцягнуты рабочыя масы.

Не адзін раз склікаліся спэцыяльныя нарады кіраўнічага і тэхнічнага складу гаспадарчых органаў, прафэсыянальнага актыву як па межсаюзнай лініі, так і па асобных саюзах; прыцягненьне вытворчых камісій і нарад да прапрацоўкі шэрагу мерапрыемстваў у гэтым напрамку; адвядзеньне належнае ўвагі гэтым пытаньням у плянах працы і г. д.

Камісіяй таксама заўважана, што асаблівых выпадкаў незразуменьня ці перайначваньня партдырэктыў у практычным правядзеньні рэжыму эканоміі не назіралася, праўда ёсьць асобныя моманты няўважлівых адносін да больш рашучага правядзеньня скарачэньня розных выдаткаў.

Правяраючы ў лічбах практычна праробленую працу па эканоміі гаспадарчымі органамі (сюды ўваходзяць: аддзяленьне „Лесбел“, Камунтрэст, камгас, працкалляктывы і друкарня), бачым наступнае:

Агульныя падрахаваныя лічбы эканоміі за 26/27 год.

| №№ па чарзе | Назва ўстаноў | Эканомія | |
|---|---|---|---|
| | | Руб. | Кап. |
| 1 | Камгас . . . . | 971 | 54 |
| 2 | Камунтрэст . . . | 14988 | 12 |
| 3 | Ад. „Лесбел“ . . | 87329 | — |
| 4 | Працкалляктывы . | 8295 | 14 |
| 5 | Друкарня . . . | 406 | 12 |
| | Усяго . . | 111989 | 92 |

За лік чаго, галоўным чынам, ідзе эканомія сродкаў? Пераважная доля, як ужо бачым з паказанай табліцы, падае на аддзяленьне „Лесбел“, які мае шэраг буйных фабрык і заводаў, і эканомія, шла галоўным чынам за лік эканоміі на апал (47.132 р. 24 к), дзякуючы скарыстаньня тырсы, абрэзкаў і аполак з лесапілень і зьніжэньня накладных выдаткаў (скарачэньне лішніх адзінак, правільнае скарыстаньне сыравіны і гатовых фабрыкатаў, скарыстаньне абрэзкаў і г. д. шляхам увядзеньня новых відаў апрацовак). Па астатніх установах эканомія ідзе за лік скарачэньня камандыровачных, канцылярскіх і іншых гаспадарчых выдаткаў.

Аднак, прыдзецца завастрыць увагу на тых (што ўжо вышэй было адзначана)—асобных момантах неўважлівых адносін да больш рашучага правядзеньня скарачэньня розных выдаткаў. Так, напрыклад, у матар‘ялах камісіі адзначана: за прастой вагонаў камунтрэстам выплачана 3.402 руб. 84 к. Альбо, напрыклад, на камгасу. Зварот яго наогул невялічкі і, здаецца, зваротных сродкаў таксама можна пажадаць, каб было больш, усё-жа, дзякуючы нядбайным адносінам да своечасовага спагнаньня платы за жыльлёвыя памяшканьні, утварылася нядоімка ў 2.469 р. па гандлёвых памяшканьнях у 3.232 р. і па сенажацях у 2.264 р.

Тут, бязумоўна работнікі гэтых органаў могуць знайсьці шэраг прычын і адказаў на гэтыя хворыя моманты, але вельмі цяжка ўсё-ж знайсьці такую прычыну, якая-б змагла прыкрыць гэтыя грашкі. Трэба, выходзячы з гэтых фактаў, сказаць, што пералом некаторы зроблен, але незыстарчальны, яшчэ шмат сродкаў расходуецца нядосыць рацыянальна і наогул увага яшчэ нядосыць прыкована да сапраўднага зьберажэньня сацыялістычнай капейкі.

Якое-ж становішча ў напрамку эканоміі сродкаў маецца ў савецкіх, каапэрацыйных і банкаўскіх установах. Лічбамі гэта выяўляецца ў наступным:

Агульныя падрахаваныя лічбы эканоміі:

| №№ па чарзе | Тып установ | Эканомія | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | За лік скарач. выдаткаў у бюдж. | | Па асабіст. ініцыятыве ў рамках бюдж. | |
| | | Руб. | Кап. | Руб. | Кап. |
| 1 | Савецкія . . . | 51.754 | 72 | 19.816 | 33 |
| 2 | Каапэрацыйн. . . | 23.821 | 50 | — | — |
| 3 | Банкаўскія. . . | 1.273 | 52 | — | — |
| | Усяго . . | 76.849 | 74 | 19.816 | 33 |

Эканомія ішла па наступных галінах: па зарплаце (за лік скарачэньня штатаў), за лік скарачэньня камандыровак, выдаткаў па канцылярыях і іншых гаспадарчых выдаткаў.

Па савецкіх установах было скарочана ў 26/27 годзе 46 адзінак, адначасова скасованы шэраг формаў справаздачнасьцяй і ўпрошчаны парадак прахажджэньня папераў. Па Акрзэ, дзякуючы праведзенай рацыяналізацыі, на меліярацыйных работах было з‘эканомлена 5.596 р. 69 кап.

Вялікая эканомія атрымалася таксама дзякуючы ліквідацыі Слабодзкага раёну і ўзбуйненьня сельсаветаў перайшоўшага ад б. Рэчыцкай акругі, Юравіцкага раёну.

Па каапэрацыйных установах эканомія ішла па лініі скарачэньня штатных адзінак (скарочана па сетцы спажывецкай каапэрацыі 115 адзі-

нак, тым самым павялічылася месячная нагрузка на кожнага работніка ў сярэднім на 23%); скарачэньня сродкаў па камандыроўках (па камандыроўках скарочана супроць 25/26 году на 3308 руб.); скарачэньня выдаткаў па канцылярыях (скарочана на 2839 руб.).

Што было праароблена гэтымі ўстановамі па справе прыцягненьня мас да працы па рацыяналізацыі апаратаў, спрашчэньня справаздачнасьці і рэжыму эканоміі. Чатырма савецкімі ўстановамі праведзена 9 нарад, на якіх абгавораны шэраг практычных пытаньняў рацыяналізацыі; каапэрацыйнымі ўстановамі абгаварваліся гэтыя пытаньні на пасяджэньнях праўленьняў і на райнарадах каапэрацыйных працаўнікоў і старшынь рэвізыйных камісій.

Камісіяй усё-ж адзначана, што савецкімі, каапэрацыйнымі і банкаўскімі ўстановамі невыстарчальна прыцягнута прафсаюзная маса да гэтай справы і калі некаторыя дасягненьні маюцца ў напрамку рацыяналізацыі і эканоміі сродкаў, дык гэта праводзілася ў большасьці сваёй габінэтным парадкам і па дырэктывах зьверху, без асаблівага праяўленьня мясцовай ініцыятывы.

Эканомкамісіі (хоць у параўнаньні з мінулым маюцца некаторыя дасягненьні) мала яшчэ ўвязалі сваю працу з задачамі рацыяналізацыі апаратаў і эканоміі сродкаў. Як недахоп у працы трэба адзначыць і тое, што спэцыялістыя мала прыцягваліся да гэтай працы, калі ў вытворчых прадпрыемствах маецца зрух у гэты бок, калі там спэцыялістыя прыцягваюцца да ўдзелу ў вытворчых камісіях і нарадах, дык савецкімі і каапэрацыйнымі органамі, асабліва зямельнымі органамі спэцыялістыя зусім слаба прыцягваюцца да гэтай справы.

Тут таксама назіраюцца выпадкі няўважлівых адносін да больш рашучага правядзеньня рэжыму эканоміі, да больш рашучага скарачэньня розных выдаткаў, аб чым сьведчаць наступныя лічбы:

| №№ па чарзе | Тып устаноў | Сума перарасходу звыш бюджэтных асігнаваньняў | |
|---|---|---|---|
| | | Руб. | Кап. |
| 1 | Савецкія . . . | 9796 | 82 |
| 2 | Каапэрацыйныя . | 6098 | 52 |
| 3 | Банкаўскія . . | 5723 | 68 |
| | Усяго . . | 21.619 | 02 |

На што, галоўным чынам, падаюць гэтыя перарасходы і нерацыянальныя расходаваньні сродкаў. Па каапэрацыйных установах за адны толькі прастоі вагонаў страчана звыш 3 тысяч рублёў, за пэратрымку вэксалёў больш за тысячу руб. Тое-ж самае наглядаецца ў шэрагу савецкіх устаноў.

Гэтыя даныя і факты гавораць аб тым, што ня ўсюды гэтая справа абстаіць добра. Некаторымі кіраўнікамі яскрава яшчэ не ўяўлены дырэктывы аб суровым зьберажэньні сацыялістычнай капейкі, таксама нядосыць прысвоены дырэктывы партыі аб прыцягненьні да актыўнага ўдзелу ў гэтай працы шырокіх прафсаюзных мас, як пастаноўкай шэрагу дакладаў кіраўнікоў устаноў аб недахопах і прадугледжаных мерапрыемствах па зьнішчэньню іх на сходах супрацоўнікаў, на эканомкамісіях і нарадах.

У лісьце т. т. Сталіна, Рыкава і Куйбышава была яскрава сформуліравана гэтая задача:—„...Устанаўленьне падрабязнай дзелавой спра-

вaздачнасьці гаспадарнікаў перад рабочай масай у сваіх прадпрыемствах, на вытворчых нарадах і інш. З мэтаю ўскрыцьця прычын безгаспадарчых зьявішч, абгаварэньня мерапрыемстваў па магчымаму зьніжэньню накладных выдаткаў і г. д.“.

Здаецца, задача ясная, але ня ўсе яе ўявілі. Галоўная бяда яшчэ ў тым, што некаторыя работнікі замест таго, каб ускрыць і выявіць недахопы, імкнуцца да замацаваньня іх, гоняцца за капейкай, губячы дзесяткі рублёў. Так, напрыклад: праўленьне ЦРК у мерапрыемствах па рэжыму эканоміі на далейшае лічыць сваёй першачарговай задачай:— упарадкаваць водпуск крамамі пакавальнай паперы, зусім нічога не гаворачы аб зьніжэньні цэн, накладных выдаткаў, рацыяналізацыі апарату і г. д.

Гэтыя факты прымушаюць нас яшчэ раз падкрэсьліць перад кіраўнікамі ўстаноў і прадпрыёмстваў—важнасьць задачы партыі па рэжыму эканоміі, бо „толькі шляхам моцнага ўстанаўленьня зьверху і да нізу рэжыму эканоміі можна дабіцца таго, каб паставіць на належную нагу справу сацыялістычнага накапленьня“.

---

# У ЦК КП(б)Б

## Рэзалюцыя Сакратарыяту ЦК КП(б)Б ад 25 лютага 1928 г. па дакладу аб папярэдніх выніках разгортваньня партсеці ў 1927—1928 годзе

1. Навізна форм вучобы і мэтадаў камплектаваньня, наяўнасьць вялікіх палітычных кампаньняў і зьвязаныя з імі перабудоўка праграм, праведзеная ў момант разгортваньня сеці, затрыманьне ў выхадзе з друку падручнікаў і высокая цана на іх, затруднілі і ўскладнілі разгортваньне сеці партасьветы ў 1927—28 годзе.

2. Ня гледзячы на гэта, дырэктывы ЦК Усе КП(б) і КПБ аб паляпшэньні пастаноўкі палітадукацыі адносна камплектаваньня сеці наогул выканана здавальняюча, прынцып дабраахвотнасьці ў большасьці выпадкаў ажыцьцяўлен, маецца агульная перасоўка сеці ў бок больш высокіх ступеняў партасьветы, значна разгарнулася гуртковая праца і як новая форма работы прывіліся васкрэсныя Комвузы, ахапіўшы значную частку кіруючага актыву.

3. Задача ахопу сецьцю партасьветы Кастрычнікавага набору ў асноўным вырашана своечасова.

4. Мэтадычнае кіраўніцтва прапагандыстымі гарадзкой сеці праз АПА габінеты палепшылася.

5. Увязка праграм усіх тыпаў сеткі з вострымі пытаньнямі сучаснасьці праведзена ў вогуле правільна і своечасова.

6. Абхоп сеткаю партасьветы беспартыйнага актыву ў параўнаньні з мінулым годам павялічыўся.

Разам з тым Сакратарыят ЦК адзначае наступныя недахопы ў разгортваньні сеткі партасьветы:

а) невыстарчальная разнастайнасьць форм;

б) нездавальняючая праца па арганізацыі і абслугоўваньню індывідуальнай самаадукацыі;

в) фармалізм, які яшчэ меў месца пры камплектаваньні сеткі ў бягучым годзе, што часткова сьцьвярджаецца адсевам і невыстарчальным наведваньнем;

г) адсутнасьць вывучэньня працы новых форм;

д) нездавальняючы вучот працы сеткі;

е) невыстарчальная беларусізацыя гарадзкой сеткі;

ж) невыстарчальнае кіраўніцтва вясковай сеткай з боку раённых і акруговых АПА і слабое скарыстаньне партыйнага друку ў мэтах кіраўніцтва партасьветай;

з) невыстарчальная кваліфікацыя значнай часткі прапагандыстых у галіне мэтодыкі, а таксама невыстарчальны ўзровень і тэорытычнай падрыхтоўкі;

і) слабое вылучэньне прапагандыстых з рабочых.

1. У далейшай працы па партасьвеце Агітпропу скарыстаць час да сканчэньня навучальнага году для зьнішчэньня адзначаных недахопаў і замацаваньня дасягненьняў, увязаўшы ўсю партвучобу з прапрацоўкай чарговых задач партыі ў прыватнасьці з пастановамі лютаўскага Пленуму ЦК і трымаючы няўхільна курс на падвышэньне яе тэорытычнага ўзроўню.

2. Вывучыць практыку працы свабодных форм партвучобы з пункту гледжаньня магчымасьці больш шырокага іх разгортваньня ў будучым навучальным годзе.

3. Дабіцца да канца навучальнага году правільнага колькаснага і якаснага вучоту сеткі партаасьветы і гадавых вынікаў гэтай працы.

4. Мясцовым партарганізацыям узмацніць жывое кіраўніцтва партасьветай, асабліва ў вёсцы, а таксама кіраўніцтва самаадукацыяй.

5. Ужыць меры да радыкальнага паляпшэньня працы па перападрыхтоўцы гарадзкіх і вясковых прапагандыстых, асабліва рабочых ад варштату, на аснове вывучэньня іх складу максымальна запоўніўшы зьмест гэтай працы, чарговымі задачамі КПБ. АПА ЦК КПБ забясьпечыць працу вылучэнцаў рабочых прапагандыстых належным кіраўніцтвам зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на рабочыя раёны.

6. Даручыць камітэту па справах Друку і БДВ распрацаваць пытаньне аб цане на палітпадручнікі, з тым, каб цана на палітпадручнікі на беларускай мове, паступова зблізалася з цаной на расейскія палітпадручнікі.

Даручыць АПА ЦК пры вырашэньні пытаньня аб выданьні падручнікаў, на будучы год, выходзіць з неабходнасьці скарыстаньня тых падручнікаў якія выданы ў гэтым годзе.

7. Дабіцца абавязкова ўвязкі вучобы з практычнымі пытаньнямі працы партыі на мясцох.

## Пастанова Сакратарыяту ЦК КП(б)Б ад 25 лютага 1928 г.

I. Заслухаўшы даклад Нар. Кам. Асьветы аб выніках прыёму ў профэсыйныя ўстановы ў 1927—28 нав. годзе, Сакратарыят ЦК КП(б)Б канстатуе:

а) ня гледзячы на некаторае павялічэньне % рабочых усё яшчэ нездавальняючы процант рабочых у ВНУ, а таксама значнае паніжэньне процанту сялян у параўнаньні з мінулым годам;

б) адсутнасьць спэц. статыстыкі аб сацыяльных групах сялянства, паступіўшых у Вышэйшыя навучальныя ўстановы;

в) зьмяншэньне процанту беларусоў да 61,7 проц. супроць 68,3 проц. у мінулым годзе;

г) адсутнічаньне росту ў прыёме жанчын за выключэньнем індустрыйных тэхнікумаў з 4,1 проц. да 8,6 проц. і па сельска-гаспадарчых школах з 12,5 проц. да 28,8 пры нездавальняючым сацыяльным становішчы прынятых.

II. У далейшым Сакратарыят ЦК КПБ прапануе НКА:

1) Забясьпечыць далейшае павялічэньне процанту рабочых; павялічыць процант сялян, а таксама павялічыць процант беларусоў у прыёме 1928—29 навучальнага году ня ніжэй да процанту прыёму 1926—27 нав. году.

2) Вясьці спэцыяльную статыстыку сацыяльных груп сялянства, паступаючых і прынятых у профэсыянальныя вучэбныя ўстановы.

3) Для сацыяльнага рэгуліраваньня паступаючых увесьці з 1928—29 нав. году курыальную сыстэму залічэньня ў профэсыянальныя вучэбныя ўстановы. Даручыць НК Асьветы ўстанавіць процант рабочых і сялян і інш. па асобных установах.

4) Як часовае мерапрыемства, покуль разгорнецца ў сялянскіх мясцовасьцях дастаткова сетка нармальных навучальных установаў, падрыхтоўваючых у ВНУ, лічыць неабходным, пачынаючы з 1928—29 нав. году адчыніць 2-х гадовы Рабфак для дзяцей батракоў і сялянскай беднаты, скончыўшых сямігадовыя працоўныя школы, а таксама захоўваючы і на далей вопыт арганізацыі каротка-тэрміновых курсаў для падрыхтоўкі ў ВНУ ў гарадох, распаўсюдзіўшы гэты вопыт і на вёску.

5) У мэтах больш уважлівага, дасканалага і падрабязнага вывучэньня паступаючых у ВНУ, увесьці ў БДУ і Бел. Сель. Гасп. Акадэмію замест агульнай Прыёмнай камісіі—факультэтныя Прыймовыя камісіі, НКА скласьці камісіі такім чынам, каб забясьпечыць поўнае правядзеньне клясавае лініі.

6) Лічыць мэтазгодным далейшы перавод на базу 7-годкі найбольш моцных профшкол у тых мясцовасьцях, дзе разьмер выпускаў з 7-годак дае магчымасьць зрабіць гэты перавод без пагоршаньня сацыяльнага складу паступаючых у прафшколы.

7) Зьвярнуць увагу НКА і фракцыі ВНУ на зжываньне ненармальнасьці значнага прыёму пасьля сканчэньня працы Прыймовых камісій; прапанаваць НКА і фракцыі ВНУ гэта спыніць. НКА карыстацца правам накіраваньня пасьля прыёму толькі ў самых выключных выпадках.

8) Прапанаваць мясцовым партыйным арганізацыям, пры пасылцы ў Рабфакі і Вышэйшыя навучальныя ўстановы цьвёрда сачыць за сацыяльным адборам пасылаемых і асабліва за характарыстыкамі аб сацыяльным стане, якія выдаюцца мясцовымі органамі.

## Пастанова Сакратарыяту ЦК КП (б)Б, аб пастаноўцы агітацыі і прапаганды вуснай і ў друку ў сувязі з пастановамі XV зьезду ЎсеКП (б), аб працы на вёсцы ад 27 лютага 1928 г.

### (Каапэраваньне і калектывізацыя вёскі)

Для выпаўненьня пастаноў XI-га зьезду КП(б)Б і XV зьезду ЎсеКП(б) „аб'яднаньня і ператварэньня дробных і індывідуальных сялянскіх гаспадарак у буйныя калектывы", як галоўнай задачы работы ў вёсцы, Бюро ЦК КП(б)Б пастанаўляе:

1. Прапанаваць Агітпропу ЦК і АК КП(б)Б шырока разгарнуць сыстэматычную агітацыю і прапаганду за каапэраваньне і калектывізацыю дробных сялянскіх гаспадарак, увязваючы працу ўсіх сыстэм каапэрацыі органам Наркамасьветы, Наркамземляробства, прафсаюзаў і грамадзкіх арганізацый пад агульным кіраўніцтвам партыі.

2. Агітацыю і прапаганду па пытаньнях каапэраваньня і калектывізацыі разгортваць у адпаведнасьці з гаспадарчымі асаблівасьцямі раёну і з тым аб'ёмам і характарам агранамічных і каапэрацыйных мерапрыемстваў, якія рэальна вызначаюцца для данага раёну.

Дзеля лепшай падрыхтоўкі вясковага партактыву да вядзеньня агітацыйнай работы і правядзеньня адпаведных практычных мер у галіне каапэраваньня і калектывізацыі, неабходна на сходах актыву, у гуртках агітатара, у сэмінарыях прапагандыстых, ставіць на абгаварэньне пытаньне каапэраваньня і калектывізацыі вёскі, а таксама ўключыць гэтыя пытаньні ў адпаведныя разьдзелы праграм партасьветы. Гэтакія-ж меры правесьці і ў адносінах работы камсамольскай арганізацыі.

3. На пасяджэньнях сельсаветаў ставіць пытаньне каапэрацыі і калектывізацыі сельскай гаспадаркі, на прыкладах добра працуючых калектываў дабіцца пад'ёму ў перадавікоў сялян з боку калектывізацыі і арганізацыі калектыўных гаспадарак. Каапэрацыйна-гаспадарчыя і культурна-асьветныя сэкцыі сельсаветаў павінны шырока скарыстаць актыў сялян для каапэрацыйнай агітацыі і калектывізацыі сельскай гаспадаркі.

4. У мэтах агітацыі і прапаганды за каапэраваньне і калектывізацыю цалкам выкарыстаць усе існуючыя на вёсцы палітасьветныя ўстановы (хаты-чытальні, дамы селяніна, бібліатэкі, школы і г. д.), шэфтаварыства гарадзкіх рабочых над вёскай, а таксама студэнтаў партшколы, камвузаў, сельска-гаспадарчых і каапэрацыйных тэхнікумаў, сельска-гаспадарчай акадэміі і Белдзяржунівэрсытэту пад час вакацый.

Нардамы, хаты-чытальні, чырвоныя куткі ў бліжэйшыя месяцы павінны правесьці гутаркі і даклады:

а) Пастановы XI зьезду КПБ і XV зьезду ЎсеКП(б) аб каапэрацыі і калектывізацыі сельскай гаспадаркі;

б) Шляхі разьвіцьця сельскай гаспадаркі ва ўмовах дыктатуры пралетарыяту і роля індустрыі ва ўздыме сельскай гаспадаркі;

в) Каапэрацыя, як сродак барацьбы з прыватным капіталам у тым ліку з кулаком;

г) Каапэрацыя, як сродак паляпшэньня быту сялянства і абароны інтарэсаў беднаты і серадняка і ўзмацненьня іх саюзу з рабочай клясай;

д) Вынікі каапэраваньня вёскі ў раёне, абслугоўваемым палітасьветнай установай;

е) Становішча сельскай гаспадаркі ў абслугоўваньні хатаў-чытальняў раёну і задачы ў сувязі з надыходзячай пасяўной кампаніяй;

ж) Становішча калектываў маючыхся ў раёне працы хаты-чытальні (іх праца, дасягненьні, выгады ў параўнаньні з дробнай сялянскай гаспадаркай);

з) Якія спэцыяльныя віды сельска-гаспадарчай каапэрацыі маюць пэрспектывы разьвіцьця ў раёне і як арганізаваць іх.

Даручыць АПА, Наркамасьветы, НКЗемляробства і Белсельсаюзу распрацаваць належныя матэрыялы.

Побач з дакладамі, гутаркамі, вечарамі пытаньняў і адказаў у хатах чытальнях шырока выкарыстоўваць мастацкую літаратуру, плякат, інсцэніроўкі, лекцыі з валшэбнымі фанарамі, індывідуальную і групавую агітацыю, галосную чытку і г. д.

АПА, НКАсьветы, Межкоопсавету распрацаваць матэрыял і паказаньні аб наладжваньні гэтай працы.

Хаты чытальні разам з каапэратывамі, каапэрацыйнымі сэкцыямі с/с, павінны наладжваць каапэрацыйную экскурсію сялян у паказальныя калгасы, арцелі і іншыя каапэратывы.

Дасягненьні існуючых буйных калектыўных гаспадарак і саўгасаў неабходна выкарыстаць, як прыклад у мэтах агітацыі за пераход да буйнай калектыўнай гаспадаркі.

5. Прапанаваць АК і РК КПБ зьвярнуць асаблівую ўвагу на ўцягненьне і рацыянальнае скарыстаньне ў агітацыйна-прапагандысцкай дзейнасьці кадраў мясцовых працаўнікоў: каапэратараў, аграномаў, дэмабілізаваных чырвонаармейцаў і перадавікоў сялян, настаўнікаў, каморнікаў і інш. і ажыцьцяўленьня канкрэтнага партыйнага кіраўніцтва і інструктаваньня гэтых працаўнікоў.

6. Ва ўсёй сыстэме масавай агітацыі і прапаганды за каапэраваньне і калектывізацыю, неабходна забясьпечыць максымальны абхоп жанчын-сялянак, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на пастаноўку работы каапэрацыйных сэкцый, дэлегацкіх сходаў і работу з каапэрацыйным жаночым актывам, а таксама выкарыстоўваць конфэрэнцыі, нарады, гутаркі і сходы са значным удзелам жанчын-сялянак, выклікаючы ў іх ініцыятыву па арганізацыі новых калектыўных форм гаспадаркі, выходзячы з мясцовых умоў і магчымасьці.

7. Сярод сялянскай моладзі праводзіць:

а) Каапэрацыйна-асьветную і агранамічную работу ўнутры камсамольскіх ячэек, шляхам высьвятленьня пытаньняў калектывізацыі сельскай гаспадаркі і каапэрацыйнага будаўніцтва ў камсамольскіх гуртках і агульных сходах ячэек;

б) Уцягненьне камсамолу ў масавыя формы каапэрацыйнай і агранамічнай прапаганды (гурткі, насьценгазэты, гутаркі, вечары запытаньняў і адказаў і г. д.);

в) Масавую агітацыйную работу сярод шырокіх колаў беспартыйнай сялянскай моладзі з мэтай уцягненьня яе ў каапэрацыю і пераходу на калектыўныя формы вядзеньня гаспадаркі.

8. Перад вясковымі партыйнымі і камсамольскімі ячэйкамі паставіць задачу, каб яны арганізуючы пад сваім кіраўніцтвам батракоў, беднякоў і серадняков, асабістым прыкладам і паказам выклікалі шырокую ініцыятыву ў шырокіх групах сялянства ў напрамку найбольш хуткага пераходу да калектыўных форм сельскае гаспадаркі.

9. Прапанаваць Белдзяржкіно арганізаваць засьнёмку і выпуск фільм сельска-гаспадарчага і каапэрацыйнага значэньня і адпаведнай кіно-хронікі з працы калектываў, каапэратываў і калектыўнай працы, для забясьпячэньня імі кіно-перасовак на вёсцы.

Шырэй скарыстаць радыё-вяшчаньне ў справе агітацыі за калектывізацыю сельскай гаспадаркі, арганізаваўшы спэцыяльны каапэрацыйны аддзел радыё-газэты, чытку дакладаў, лекцый, а таксама арганізаваць курсы перападрыхтоўкі каапэрацыйных працаўнікоў.

10. Прапанаваць НКАсьветы распрацаваць да наступнага навучальнага году пытаньні:

а) Увядзеньня ў праграмы вясковых школ элемэнтаў каапэрацыйнай прапаганды і калектывізацыі сельскай гаспадаркі;

б) Увядзеньня ў навучальныя пляны пэдагогічных тэхнікумаў і Вэтэрынарнага інстытуту курса па каапэрацыйнаму будаўніцтву.

в) Удасканаленьня мэтавай установкі каапэрацыйнага тэхнікуму ў Віцебску, паставіўшы перад ім задачу падрыхтоўкі спэцыялістых сярэдняй кваліфікацыі для нізавой сеткі сельскай гаспадарчай каапэрацыі;

г) Пабудовы навучальных плянаў і праграм сельска-гаспадарчых тэхнікумаў і сельска-гаспадарчай акадэміі ў такім напрамку, каб гэтыя ўстановы выпускалі працаўнікоў ня толькі спэцыялістых, але і арганізатараў калектыўных форм сельскай гаспадаркі.

11. Даручыць Агітпропу, разам з Наркамасьветы, Наркамземам, каапэрацыйным цэнтрам распрацаваць пытаньне аб уключэньні ў праграму курсаў па падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы вясковых працаўнікоў (настаўнікаў, хатнікаў, аграномаў і інш.) як асобнай дысцыпліны—пытаньняў каапэрацыйнага будаўніцтва і калектывізацыі сельскай гаспадаркі, а таксама распрацаваць плян і сыстэму падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі працаўнікоў, як па лініі каапэрацыі, так і па лініі сельскай гаспадаркі, не пазьней 15 сакавіка г. г.

12. Цэнтральныя газэты, як „Зьвязда", „Акцябр", „Чырвоная Зьмена", павінны больш зьвяртаць увагі на асьвятленьне дасягненьняў і недахопаў у правядзеньні практычных мерапрыемстваў па каапэраваньню і калектывізацыі вёскі і шляхоў разьвіцьця сельскай гаспадаркі, вызначаных XI-м зьездам КПБ і XV зьездам УсеКП(б). „Савецкай Беларусі" больш удзяляць увагі пытаньням арганізацыі сельскай гаспадаркі, асабліва калектывізацыі і каапэраваньню яе і важнейшым агрыкультурным мерапрыемствам, разьлічаным на ўвесь актыў вёскі.

Газэты „Беларуская Вёска", „Орка", „Раудонасис Артояс" і акруговыя сялянскія газэты ўвесь асноўны матэрыял будуюць вакол пытаньняў калектывізацыі, каапэраваньні і рацыяналізацыі сельскай гаспадаркі.

13. Вакол газэт павінен быць утворан больш шырокі актыў на вёсцы. Адгэтуль, разам з паляпшэньнем якасьці селькораўскага актыву, і паляпшэньня кіраўніцтва селькорамі, неабходна выкарыстаць у максымальнай меры вопыт паасобных газэт: а) па скліканьню нарад сялян-вылучэнцаў, перадавікоў; б) па правядзеньню ў раёнах шырокіх канфэрэнцый чытачоў газэт; в) па арганізацыі дыскусіі па найбольш важных для вёскі пытаньнях; г) па высьвятленьню ў газэтах працы сельсаветаў, калгасаў, саўгасаў, каапэратываў і г. д.; д) па арганізацыі праз газэту сувязі чытачоў з вопытнымі станцыям і лепшымі каапэратывамі.

14. Насьценныя газэты павінны ўвесьці каапэрацыйныя аддзелы. Насьценгазэты павінны заняць выключнае месца ў справе барацьбы з недахопамі і балячкамі каапэрацыйнай сеткі.

Жывыя газэты павінны ўключыць агітацыйны матэрыял, увязаны з пытаньнямі мясцовай каапэрацыі.

15. Прапанаваць БДВ, НКАсьветы і іх мясцовым органам зьвярнуць асаблівую ўвагу на забясьпячэньне вясковых бібліатэк, хат-чытален і чырвоных куткоў літаратурай каапэрацыйнага, сельска-гаспадарчага і справачнага характару па пытаньнях каапэраваньня вёскі, а таксама забясьпечыць усе пачатковыя вясковыя школы неабходнай каапэрацыйнай і сельска-гаспадарчай літаратурай.

16. Прапанаваць Аддзелу Друку ЦК і Белдзяржвыдавецтву на працягу бягучага году павялічыць выданьне таннай вясковай літаратуры: а) каапэрацыйнай, сельска-гаспадарчай, і па саматужных промыслах; б) справачнікаў для вёскі па савецкаму законадаўству (законы аб зямлі, земляўпарадкаваньню, каапэрацыйных статутаў і законаў аб каапэрацыі); в) навукова-папулярнай літаратуры па пытаньнях сельскай гаспадаркі, электрыфікацыі.

## Рэзалюцыя Сакратарыяту ЦК КП(б)Б ад 5 сакавіка 1928 г. аб абслугоўваньні працоўных гораду і вёскі кіно і радыё

Адзначаючы аграмаднае імкненьне рабоча-сялянскіх мас да такога віда масавага культурнага абслугоўваньня іх, як кіно і радыё, а таксама цэлы шэраг буйнейшых недахопаў, якія тармазяць разьвіцьцё кінофікацыі і радыёфікацыі ў горадзе і на вёсцы, Бюро ЦК КПБ пастанаўляе:

### А. У галіне кіноабслугоўваньня

1. Паставіць перад Белдзяржкіно задачу выпускаць карціны на нацыянальныя тэмы якія-б адбівалі рэволюцыйную барацьбу рабочых і сялян Беларусі ў мінулым жыцьці, быт і супрацоўніцтва працоўных розных нацыянальнасьцяў БССР і іх удзел у сацыялістычным будаўніцтве ў бягучым пэрыодзе, і эпоху культурнай рэволюцыі ў агульнай сувязі з нацыянальнай палітыкай партыі, а таксама дзіцячых і навуковых карцін і кінохроніка.

Аднак, вытворчая дзейнасьць Белдзяржкіно не павінна абмяжоўвацца выпускам карцін на нацыянальныя тэмы, а павінна таксама мець на ўвазе і агульна-савецкія тэмы.

2. Прапанаваць Белдзяржкіно: а) распрацаваць тэматычны плян вытворчасьці, з папярэднім абгаварэньнем яго савецкай грамадзкасьцю; б) пашырыць сцэнарную групу з беларускіх пісьменьнікаў, заказваючы сцэнарыі па тэматычнаму пляну; в) арганізаваць конкурс на лепшае лебрэтто з беларускага быту, прыцягваючы да гэтага арганізацыі пісьменьнікаў Беларусі; г) праводзіць папярэднюю чытку сцэнарыяў, якія прымаюцца ў рабоча-сялянскіх аўдыторыях.

3. Канстатуючы значныя паляпшэньні ў галіне клюбнага прокату (забясьпячэньне карцінамі савецкай вытворчасьці на 62,5%, паніжэньне цэн прокату на 18% за год). Прапанаваць Белдзяржкіно палепшыць у далейшым клюбны прокат, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на прасоўваньне на клюбны экран культурных, хронікальных і мульціплікацыйных фільм, далейшае зьніжэньне цэн на клюбны пракат і энэргічны-працяг барацьбы супроць ператварэньня клюбаў у камерцыйныя тэатры, прымяняючы да іх камерцыйны тарыф.

4. У бліжэйшыя гады значную ўвагу зьвярнуць на арганізацыю кінотэатраў у буйных раёнах, цэнтрах, мястэчках і заштатных гарадох як па лініі Белдзяржкіно, так і па лініі скарыстаньня мясцовай ініцыятывы выходзячы з патрэбнасьцяў ня менш аднэй стацыянаркі на кожны раён у бліжэйшыя гады. Уноў арганізуемым кіно-тэатрам, павінны быць прадстаўлены максымальныя ільготы ў адносінах пракатнага тарыф падаткаў і камунальных услуг.

5. Прапанаваць Белдзяржкіно павялічыць фонд культфільм і ўвесьці ў практыку ў Менску і Віцебску, а потым і ў іншых гарадох дэманстрацыю культфільм у камерцыйных тэатрах па асабліва ільготным цэнам. Дзеля большага пасьпяховага прасоўваньня культфільм на клюбных і палукамерцыйных экранах, устанавіць дзеля іх асабліва ільготны тарыф, абавязаўшы Белдзяржкіно набываць лепшыя культфільмы, якія выходзяць як у СССР, так і за межамі.

6. НКА і Белдзяржкіно арганізаваць з існуючых у Менску адно кіно для дзяцей вакол якога павесьці пэдагагічную працу.

7. Абавязаць Белдзяржкіно пушчаць карціны ў горадзе з надпісамі на беларускай і расейскай мовах, зьвярнуўшы ўвагу на якасьць беларускай мовы; карціны, якія ідуць у вёску павінны мець надпісы выключна на беларускай мове.

8. У галіне кінофікацыі вёскі, прапанаваць Белдзяржкіно: а) павялічыць фонд карцін вясковага пракату, як з ліку маючыхся ў СССР карцін, гэтак і замежных карцін, якія падыходзяць для вёскі, у прыватнасьці навукова-папулярнага характару; б) распрацаваць разам з Наркамасьветы пытаньне і прыняць меры да паніжэньня пракатных цэн на карціны для вёскі, устанавіўшы апошнія з разьліку сабекошту без начысьленьня камэрцыйнага ліцэнза; в) прыняць меры да павялічэньня колькасьці карцін для вёскі, як пастаноўкай новых карцін адпаведнага зьместу, гэтак і большым друкаваньнем адбіткаў ранейшай вытворчасьці.

9. Белдзяржкіно прыступіць да выкананьня пастановы ЦК ад 27/II 1928 г. аб выпуску фільмаў і асабліва кіно-хронікі сельска-гаспадарчага і каапэрацыйнага значэньня.

10. Улічваючы вопыт работы кіно-перасовак даручыць Белдзяржкіно падняць перад адпаведнымі дзяржаўнымі органамі пытаньне аб палепшаньні і патаненьні кіно-апаратуры, прыстасаванай для работы ў вясковых умовах.

11. Кіно-абслугоўваньне вёскі паступова пераводзіць на самаакупаемасьць і перадаваць РВК, пры чым неабходна беднату і батракоў абслугоўваць зусім дарэмна. Бюджэтныя асыгнаваньні да поўнага пераводу на самаакупаемасьць не павінны быць паніжаны. У справе пашырэньня вясковай кіно-сеткі скарыстаць ініцыятыву і дапамогу шэфтаварыства, каапэрацыі, Саюза сельска-гасп. і лясных рабочых і іншых арганізацый, трымаючы курс на ўстаноўку ў бліжэйшыя гады ня менш двух кіно-перасовак у раёне.

12. Работу кіно-перасовак у вёсцы арганічна ўвязаць з усёй сыстэмай палітасьветработы на раёне, шляхам узгадненьня праз Райпалітпрасьветкомы пляна работы кіноперасоўкі з плянам работы хаты-чытальні і чырвонага кутка.

Даручыць Агітпропу ЦК і НКАсьветы ў месячны тэрмін распрацаваць практычныя ўказаньні мясцовым арганізацыям аб мэтадах і зьмесьце палітасьветработы навокал кінокарцін у вёсцы.

13. Даручыць НКАсьветы арганізаваць курсы дзеля падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі кіно-мэханікаў для гораду і вёскі.

14. Дзеля ажыцьцяўленьня арганічнай сувязі кіно-вытворчасьці з шырокімі масамі прафэсыянальна-арганізаванага рабочага глядача, неабходна шырэй практыкаваць грамадзкія прагляды, дыспуты і гутаркі навокал пытаньняў ідэолёгічнага зьместу савецкіх карцін і калектыўныя наведаньні рабочымі кіно-тэатраў з арганізацыяй абгаварэньня прагледжаных фільм.

15. Прызнаць мэтазгоднай арганізацыю ў БССР таварыства прыхільнікаў савецкага кіно. Арганізацыя ячэек ОДСК павінна ісьці па лініі клюбаў, нардамоў, хат-чытален і іншых палітыка-асьветных устаноў.

16. Па лініі фракцыі ЦП Саюза працаўнікоў Мастацтва ажывіць масавую грамадзкую работу сярод кіно-працаўнікоў, прыцягваючы іх праз вытворчыя нарады да абгаварэньня дзейнасьці Белдзяржкіно, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на ўвязку гэтае работы з усёй кіно-грамадзкасьцю.

### Б. У галіне радыёфікацыі і радыёвяшчаньня

1. Прапанаваць НКАсьветы, упаўнаважанаму НКП і Т і радыёстанцыі побач з узмацненьнем тэмпу разгортваньня сеткі гучнагаварыцеляў і ўзмацненьнем калектыўных форм карыстаньня радыё, паставіць сталае абслугоўваньне існуючых гучнагаварыцельных установак, як праз узмацненьне інструкцыйнай дзейнасьці мясцовых ОДР, органаў НКП і Т і гандлюючых радыёапаратурай, так і праз спэцыяльную падрыхтоўку ў Чырвонай Арміі чырвонаармейцаў-адпускнікоў, арганізацыі курсаў па падрыхтоўцы радыё-тэхнікаў і ўзмацненьня распаўсюджваньня часопісу „Радио-всем".

2. Даручыць упаўнаважанаму НКП і Т па БССР паставіць перад адпаведнымі органамі пытаньне аб пашырэньні гандлёвай сеткі і значным патаненьні радыё-апаратуры.

3. Адзначаючы зусім нязначную ролю радыё-грамадзкасьці ў радыёфікацыі ў горадзе і асабліва на вёсцы і адсутнічаньне сталай дапамогі мясцовым ОДР з боку цэнтра, прапанаваць фракцыі Прэзыдыума ОДР БССР: а) арганізацыйна афарміць і ўзяць пад сваё кіраўніцтва стыхійна ўзьнікаючыя гурткі радыё-любіцеляў; б) падрыхтаваць правесьці перавыбары кіраўнічых органаў ОДР па ўсёй сетцы, дапамагаць у працы гэтых гурткоў, увязаўшы работу ОДР з прафсаюзам.

4. Канстатаваць невыкананьне з боку ўпаўнаважанага НКП і Т пастановы ЦК КПБ ад 17/I-27 г. па пытаньню аб арганізацыі вучоту радыё-ўстановак па БССР і катэгарычна прапанаваць у двухмесячны тэрмін выканаць гэту пастанову.

5. Прапанаваць НКАсьветы, Упаўнаважанаму НКП і Т і Радыё-Савету арганізаваць праверку аўдыторыі і чуткасьці на мясцох, паправіць гучнагаварыцелі, якія сапсаваны і арганізаваць сталае назіраньне за іх абслугоўваньнем.

6. Прызнаць мэтазгодным па вопыту мінулага году правесьці ўлетку „дзень прапаганды радыё", дзеля чаго прапанаваць НКАсьветы, Радыё-Савету і ОДР, распрацаваць плян правядзеньня гэтага дню прыняўшы пад увагу неабходнасьць масавых выездаў, радыё-любіцеляў гораду з прыёмнікамі ў вёску, дзеля арганізацыі ў гэты дзень слуханьня радыё ў тых мясцох, дзе аб ім яшчэ нічога не вядома.

7. Канстатаваць зусім нездавальняючы зьмест радыё-перадач і прапанаваць Агітпропу і Аддзелу Друку ЦК і НКАсьветы: а) забясьпечыць якасны бок радыё газэт (беларуская радыё-газэта „Беларуская Вёска" па радыё, „Чырвоная Зьмена" па радыё і „Беларускі Піанэр" па радыё); б) увясьці цыкль папулярных гутарак навукова-тэхнічнага характару, прыстасоўваючы да рабочых і сялян, радыё-слухачоў, выкарыстоўваючы праз сэкцыю навуковых працаўнікоў навуковыя сілы навучальных установаў БССР; в) паставіць кансультацыйна-даведачную работу па радыё; г) забясьпечыць лепш падбор праграм мастацкіх перадач, з пункту погляду іх ідэолёгічнай вытрыманасьці мастацкай каштоўнасьці і даступнасьці разуменьню масавага рабоча-сялянскага радыё-слухача; д) прыстасаваць радыё-перадачы да абслугоўваньня працоўных нацменшасьцяў на іх родных мовах; е) арганізаваць цыкль перадач па папулярызацыі пастаноў XV Зьезду ЎсеКП(б) і XI зьезду КП(б)Б.

Радыё-перадачы праводзіць па напісаных і папярэдня прагледжаных матар'ялах.

8. Лічыць мэтазгодным арганізацыю дняўных перадач праз трансляцыйныя радыёвузлы ў акруговых цэнтрах БССР па радыёфікацыі прадпрыемстваў, клюбаў і агульных памяшканьняў. Агітпропу ЦК, НКАсьветы і Радыёсавету распрацаваць формы і зьмест дзенных перадач.

## У АПА ЦК КП(б)Б

### Рэзалюцыя Калегіі АПА ЦК КП(б)Б

#### па дакладу АПА Магілеўскага Акруткому КП(б)Б

Заслухаўшы даклад аб працы АПА Магілеўскага Акруткому, Калегія АПА ЦК КП(б)Б лічыць працу АПА Акруткому наогул здавальняючай. АПА-калегія адзначае, што за справаздачны пэрыяд маецца некаторае ажыўленьне і паляпшэньне масавай работы на прадпрыемствах у горадзе (агульныя сходы, вытворчыя нарады) і ў вёсцы (дні селянiна і сялянкі), некаторае паляпшэньне працы дабраахвотных таварыстваў, праводзіцца значная ўнутры-партыйна-выхаваўчая работа (у партвучобу ўцягнута 65% партарганізацыі і значная частка гарадзкога партактыву), здавальняюча прапрацованы рашэньні XV-га зьезду Ўсе КП(б) і XI-га зьезду КП(б Б, палепшыўся зьмест мясцовай газэты і значна ўзрос яе тыраж.

Разам з гэтым калегія АПА адзначае наступныя недахопы:

1. Побач з здавальняючым правядзеньнем палітычных і гаспадарчых кампаніяў, адбіцьцём у іх чарговых задач і мерапрыемств партыі, апошнія зусім невыстарчальна адбіваюцца ў штодзённай агітпрапрацы і асабліва ў працы палітасьветнай сеткі.

2. Пры частковым ажыўленьні і паляпшэньні масавай работы на прадпрыемствах у горадзе, зусім не наладжана масавая работа на больш буйных прадпрыемствах акругі

(„Спартак", Ільліч"), клюбная праца пакуль што ўсюды нездавальняюча, (адсутнасьць клюбнага актыву, слаба працуюць праўленьні, клюбы слаба наведваюцца дарослымі рабочымі).

3. Аграпрапаганда, з прычыны слабага кіраўніцтва з боку АПА пастаўлена нездавальняюча (адсутнасьць увязкі з дырэктывамі партыі па рабоце на вёсцы ужываньне культурных спосабаў, адстае ад тэмпу землеўпарадкаваньня).

4. Ня гледзячы на наліччa ў акрузе значнай колькасьці сэктантаў і ўзмацненьня за апошнія часы дзейнасьці клерыкальных элементаў, з боку АПА Акругкому не звярачвалася досыць увагі на антырэлігійную прапаганду, дзейнасьць таварыства бязбожнікаў, амаль што не разгорнута.

5. Праца сярод інтэлігенцыі вялася толькі часткова з настаўніцтвам, сярод іншых катэгорый інтэлігенцыі, асабліва вёскі (аграномы, урачы) амаль што ніякай працы ня было, не вядзецца, таксама, ніякай сыстэматычнай работы па вырашчэньню і выхоўваньню беспартыйнага актыву навакол савецкіх, прафсаюзных і грамадзкіх арганізацый.

6. Побач з здавальняючай работай і дасягненьнямі нацыянальна-культурнага будаўніцтва па акрузе, тэмп беларусізацыі ўсё яшчэ нявыстарчальны. Работа ў гэтым напрамку сеці партыйнай і камсамольскай асьветы ў значнай часьцы палітасьветустаноў слабая.

7. Партыйная асьвета на вёсцы, з прычыны адсутнасьці належнага жывога кіраўніцтва з боку АПА Акругкому і РК, слабасьці значнай часткі прапагандыстых, у шмат раёнах праводзіцца слаба. Тыпічным недахопам большасьці вясковых школ палітграматы і гурткоў зьяўляецца: адсутнасьць увязкі праграмы з мясцовым жыцьцём і з бягучымі канкрэтнымі задачамі мясцовай партарганізацыі. Побач з гэтым заўважаецца адсутнасьць прапагандыстых рабочых з вытворчасьці, а таксама работы па вырашчываньню і высоўваньню гэтакіх.

8. Якасны вучот усёй агітпрапрацы (вывучэньне вынікаў форм і мэтадаў працы), пастаўлен вельмі слаба, з прычыны чаго зьнішчэньне недахопаў, а таксама і распаўсюджваньне лепшых форм і мэтадаў работы ўжываецца зусім рэдка і з вялікім спазьненьнем.

Выходзячы з гэтага, Калегія АПА ЦК у далейшай працы АПА Акругкому прапануе:

1. Дабіцца таго, каб у штодзённа-агітацыйна-прапагандысцкай і палітыка асьветнай працы ў належнай меры адбіваліся чарговыя задачы і мерапрыемствы партыі і савецкае ўлады (рэжым эканоміі, рацыяналізацыя, абарона краіны, калектывізацыя, каапэраваньне). Мабілізаваць навакол гэтых задач і мерапрыемств грамадзкую думку і належную зацікаўленасьць рабочых і сялянскіх мас замацоўваючы дасягнутыя вынікі арганізацыйна і практычна.

2. Узьняць масавую работу на больш буйных прадпрыемствах у акрузе—(„Ільліч", „Спартак") шляхам пастаноўкі на агульных рабочых сходах больш цікавячых і хвалюючых рабочых пытаньняў, ажыўленьня работы масавых арганізацый і паляпшэньня зьместу работы вытворчых нарад. Наладзіць працу клюбаў прыцягнуўшы да гэтай працы саюзныя масы, узмацніць кіраўніцтва культаддзеламі саюзаў, стварыць клюбны актыў ажывіць работу праўленьняў клюбаў.

3. У значна большай меры зьвярнуць увагу на пастаноўку аграпрапаганды ўвязаўшы яе з калектывізацыяй і каапэраваньнем вёскі, а таксама з практычнымі мерапрыемствамі ў даным раёне. Асаблівую ўвагу зьвярнуць на агранамічнае абслугоўваньне беднаты.

4. Разгарнуць антырэлігійную прапаганду, дзеля чаго ў першую чаргу ажывіць работу Т-ва „Бязбожнікаў", прыцягнуўшы да гэтай работы інтэлігенцыю, стварыць вакол т-ва „Бязбожнікаў" і яго ячэек шырокі беспартыйны актыў, вызначыць належнае месца антырэлігійнай прапагандзе ў мясцовай газэце.

5. Узмацніць работу па ліквідацыі няпісьменнасьці, стварыць вакол гэтай работы грамадзкую думку, скарыстаць для гэтай мэты грамадзкую ініцыятыву праз ажыўленьне дзейнасьці таварыства „П. Н.".

6. Наладзіць сыстэматычную работу па стварэньню шырокага беспартыйнага актыву і па падняцьцю яго палітычнага і агульна-культурнага ўзроўню.

7. Наладзіць працу сярод інтэлігенцыі, асабліва сярод вясковай (настаўніцтва, аграномаў, урачоў) кіруючысь пастановамі Сакавіковага Пленуму ЦК ад 1926 году і XI-га зьезду КП(б)Б, а таксама апошнімі пастановамі Сакратарыяту і бюро ЦК КП(б)Б.

8. Паскорыць работу па вывучэньню беларускае мовы партыйцамі, прыняць усе меры да канчатковага пераводу к будучаму году на беларускую мову партыйнай і камсамольскай сеткі, зьвярнуць асаблівую ўвагу на беларусізацыю палітасьветных установ (клюбаў—у горадзе і хат-чытален—на вёсцы) і на ўжываньне беларускай мовы ва ўсёй масавай працы ў горадзе.

9. Узмацніць працу сярод працоўных нацменшасьцяй, у прыватнасьці сярод палякаў—рабочых, на буйных прадпрыемствах і сярод вясковай беднаты з нацменшасьцяй.

10. Узмацніць жывое кіраўніцтва агітпрапработай у раёнах, у прыватнасьці работай прапагандыстых, зьвярнуўшы ўвагу на ўздым якасьці партвучобы на вёсцы і на ўвязку яе з канкрэтнымі задачамі партработы на мясцох. Распачаць падрыхтоўку рабочых-прапагандыстых на буйных прадпрыемствах з вытворчасьці. Большую ўвагу зьвярнуць на кіраўніцтва палітасьветай камсамолу і жанчын.

11. Дабіцца поўнага ахопу партыйнай вучобай Кастрычнікавага закліку вырашыць пытаньне аб разьмеркаваньні яго па сканчэньні скарочанай школы, па маючымся формам партвучобы і аб дапасаваньні новых форм вучобы да запатрабаваньняў набору.

12. Даручыць Агітпропу АК КПБ на падставе пастановы ЦК КП(б) ад 12 і 17 кастрычніка, наладзіць арганізацыю і кіраўніцтва агітацыяй і работай з агітатарамі (групавая агітацыя, гурткі агітатараў і інш.).

13. Паставіць на належную вышыню вучот вынікаў агітпроп-работы, асабліва вынікаў правядзеньня важнейшых кампаніі, новых форм агітпропработы, сваечасова выпраўляючы недахопы і распаўсюджваючы на ўсю арганізацыю дасягнутыя посьпехі.

# РЭЗАЛЮЦЫЯ

## па дакладу АПА Віцебскага Акругкому КП(б)Б, заслуханаму на пасяджэньні калегіі АПА ЦК КП(б)Б, ад 3 сакавіка 1928 г.

1. Заслухаўшы справаздачу Агітпропу Віцебскага Акругкому, Калегія АПА ЦК адзначае:

а) Здавальняючае разгортваньне сеткі партасьветы і здавальняючы ахоп ёю партыйцаў (73% у горадзе і 62% у вёсцы);

б) Лепшае, у параўнаньні з мінулым годам, прыстасаваньне ўсіх відаў палітвучобы да розных, па сваім у палітузроўню, колаў партыйцаў;

в) Некаторае паляпшэньне масавай работы і працы асобных грамадзкіх таварыстваў.

2. Побач з гэтым Калегія адзначае:

а) слабае праламленьне ў масавай рабоце і ў прапагандзе чарговых задач партыі і ўлады (рацыяналізацыя вытворчасьці, змаганьне з бюрократызмам і інш.);

б) невыстарчальнае кіраўніцтва агітатарамі—групавікамі і індывідуаламі, слабы тэмп у вылучэньні і выхаваньні новых кадраў агітатараў і шаблон, які ўстанавіўся адносна падрыхтоўкі і правядзеньня агіткампаній;

в) адсутнасьць выстарчальнай праверкі і слабае кіраўніцтва палітасьветнай працай у напрамку ўдзельнічаньня ворганаў палітасьветы (хата-чытальня, нардом, Райпалітпрасьветком) у правядзеньні намечаных партыяй задач па рабоце сярод беднаты і ў выбарчых палітычных кампаніях;

г) невыстарчаючае кіраўніцтва і скарыстаньне ячэйкамі грамадзкай ініцыятывы інтэлігенцыі (слабае ўцягненьне ў грамадзкую работу тэхнічнай інтэлігенцыі, інжэнэры, дактары, аграномы і г. д.);

д) агульнае паслабленьне работы таварыства „П. Н", слабы тэмп разгортваньня работы таварыства „Прыхільнікаў Радые";

е) нездавальняючую мову і тэхнічную пастановку газэты „Заря Запада", слабы тэмп яе беларусізацыі, невыстарчальнае кіраўніцтва Рабселькорамі і амаль што поўная адсутнасьць кіраўніцтва насьценнымі газэтамі;

ж) нездавальняючую работу па антырэлігійнай прапагандзе;

з) шэраг недахопаў у прапагандысцкай рабоце, якія ў асноўным выявіліся: у нездавальняючым падборы слухачоў рухомых школ; вялікім проценце адсеву слухачоў з школ партсеткі; зусім недастатковы лік рабочых-прапагандыстых; адсутнасьці вывучэньня вопыту работы новых форм партвучобы і адсутнасьці сыстэматычнага вывучэньня работы прапагандысцкіх кадраў, паслабленьні работы па самаадукацыі, і, усё яшчэ нездавальняючым мэтадычным кіраўніцтвам сецьцю;

і) невыстарчальнае кіраўніцтва ў адносінах да работы польскага і латыскага нацбюро;

3. На падставе ўсяго, вышэй пералічанага, Калегія АПА ЦК пастанаўляе:

1. Працягваць далейшую папулярызацыю пытаньняў XV і XI-га зьездаў партыі сярод беспартыйных мас, увязваючы з чарговай практычнай працай партыі на мясцох.

2. На падставе пастановы ЦК КПБ ад 12 і 17 кастрычніка 1927 году як адну з першачарговых задач паставіць—арганізацыю і кіраўніцтва агітацыяй, дамагаючыся, каб у ёй у поўнай меры адбіваліся чарговыя задачы партыі і ўлады, узмацніць кіраўніцтва і дапамогу агітатарам-групавікам і індывідуалам.

3. Дабіцца поўнага правядзеньня ў жыцьцё пастаноў Пленуму ЦК КПБ аб масавай рабоце (сакавік 1927 году).

4. У мэтах праверкі, як рэалізуюцца на мясцох дырэктывы АПА ЦК і АК КПБ, а таксама і ў мэтах скарыстаньня вопыту нізавой работы, узяць пад непасрэднае і сыстэматычнае нагляданьне АПА АК, работу 1—2 завадзкіх парт'ячэек.

5. Узмацніць кіраўніцтва Райпалітасьветнай работай і наглядаць за яе ідэолёгічным зьместам, дамагаючыся, каб уся работа адбівала ў сабе чарговыя задачы партыі і ўлады, палепшыць склад палітасьветпрацаўнікоў і работу па іх выхаваньню і перападрыхтоўцы.

6. Рашуча дабіцца ажыўленьня анты-рэлігійнае прапаганды, шляхам сыстэматычнага кіраўніцтва працай таварыства „Бязбожнік" на падставе рашэньняў Агітпропнарады ЦК (жнівень 1927 году).

7. Павялічыць тэмп ліквідацыі няпісьменнасьці, разгарнуўшы вакол яе грамадзкую ініцыятыву і прыняць усе меры да ажыўленьня дзейнасьці таварыства „П. Н“.

8. Дабіцца паляпшэньня зьместу акруговай газэты „З. З.“, узмацніць кіраўніцтва рабселькорамі і ажыцьцявіць кіраўніцтва насьценнымі газэтамі.

9. Рашуча дабівацца на падставе пастаноў ЦК УсеКП і ЦК КП(б)Б прыстасаваньня ўсёй сыстэмы партасьветы да запатрабаваньняў асобных, па свайму палітузроўню, колаў партыйцаў ужываючы максымум дабраахвотнасьці пры выбары форм палітвучобы і вывучыўшы новыя разгарнуўшыяся тыпы вучобы.

10. Узяць рашучы напрамак на вылучэньне выхаваньня і падрыхтоўкі новых кадраў прапагандыстых-рабочых ад варштату, ажыцьцявіўшы з боку АПА АК сыстэматычнае кіраўніцтва і праверку гэтай работы.

11. Дабіцца на наступны навучальны год поўнага пераводу ўсёй сыстэмы партасьветы ў горадзе і ў вёсцы на белмову, забясьпечыўшы поўнае абслугоўваньне на роднай мове і іншых нацыянальных груп арганізацыі.

12. Дабіцца на бліжэйшы час поўнага ахопу партвыхаваньнем кастрычнікаўскага закліку, прапрацаваць пытаньне аб разьмеркаваньні прайшоўшага скарочаную школу кастрычнікаўскага закліку, па маючымся формам партвучобы і аб арганізацыі новых форм прыстасаваных да запатрабаваньняў закліку.

13. Узмацніць удзельнічаньне габінэту АПА ў рабоце па прапрацоўцы пытаньняў бягучых кампаній і ў выпрацоўцы і падрыхтоўцы мэтадычных указаньняў і вучэбных прыладаў для ўвязкі з пытаньнямі бягучай работы партыі праграмных пытаньняў правадзімых у сеці партасьветы.

14. Палепшыць кіраўніцтва самаадукацыяй, дабіцца больш увагі да гэтае працы з боку ячэек, наладзіць сталую консультацыю і рэцэнзаваньне, вылучыць і падрыхтаваць працаўнікоў па самаадукацыі.

15. Вывучыць вопыт свабодных форм партасьветы з пункту погляду адхіленьня адмоўных бакоў і стварэньня ўмоў для іх больш шырокага разгартваньня.

16. Узмацніць партасьветработу ў мясцовасьцях нацменшасьцяй (палякаў, латышоў, літоўцаў), праводзячы рашучую барацьбу з буржуазнымі нацыянал-дэмакратычнымі ўплывамі. Адначасова зварочваць сур'ёзную ўвагу на ажыцьцяўленьне мерапрыемстваў палітычнага і эканамічнага характару, у першую чаргу шляхам правядзеньня ў мясцох жыхарства нацменшасьцяй пастаноў XV зьезду УсеКП(б) і XI-га зьезду КП(б)Б, аб коопэраваньні, калектывізацыі, і рабоце з беднатой і батрацтвам.

17. АПА АК у сваёй працы паставіць першачарговай задачай забясьпячэньне з боку агітацыйна-прапагандысцкай працы пасяўной кампаніі.

---

# У ЦКК КП(б)Б

## Што рашыў Пленум ЦКК КП(б)Б

2-гі Пленум ЦКК КП(б)Б скліку XI Зьезду КП(б)Б, які адбыўся 2—4 сакавіка г. г. абгаварыў і прыняў рашэньні па наступных пытаньнях:

1. Аб працы ЦКК—РСІ ў сувязі з пастановамі XV Зьезду Усе КП(б).
2. Аб скарачэньні 20% адм.-кіраўнічых выдаткаў.
3. Даклад аб працы Менскай АКК—РСІ.
4. Шляхі паляпшэньня пастаноўкі ведамственай рацыяналізацыі.

Па першаму дакладу (т. Калніна) Пленум адзначыў, што асноўнымі важнейшымі практычнымі задачамі для ажыцьцяўленьня рашэньняў XI Зьезду КПБ і XV Зьезду УсеКП(б) зьяўляецца працяг і паглыбленьне работы ЦКК—НКРСІ ў напрамку:

а) барацьбы з бюракратызмам і цяганінай і бязьлітаснай крытыкі гэтых скажэньняў як у друку, так і на сходах рабочых;

б) кантролю і праверкі ажыцьцяўленьня дырэктыў партыі і ураду;

в) рацыяналізацыі і спрашчэньня кіраўніцтва дзяржаўнага і гаспадарчага апарату і рацыяналізацыі вытворчасьці;

г) шырокага разгортваньня рабочай, савецкай і партыйнай дэмакратыі і ўзмацненьня вылучэнства рабочых на савецкую і гаспадарчую работу;

д) „ідэёвага ўзьдзейнічаньня на радавых членаў трацкісцкай апазыцыі з мэтай пераканаваньня іх пры адначасовым ачышчэньні партыі ад усіх яўна неспраўімых элемэнтаў трацкісцкай апазыцыі“;

е) узмацненьня праверкі выкананьня дырэктыў партыі камуністымі, працуючымі ў дзяржапараце і грамадзкіх арганізацыях, у прыватнасьці выкананьня дырэктыў па нацпалітыцы.

Гэтыя асноўныя задачы, якія стаяць перад ЦКК—НКРСІ могуць быць выкананы і практычна ажыцьцяўлены толькі пры ўмове шырокага непасрэднага ўдзелу мас у рабоце органаў ЦКК—НКРСІ, якія з гэтага часу павінны ў сваёй рабоце стаць перш за ўсё арганізатарамі рабочых мас, утвараючы кадр актывістых вакол работы ЦКК—НКРСІ.

Адным з асноўных мерапрыемстваў барацьбы з бюракратызмам і валакітай зьяўляецца арганізацыя шырокага ўдзелу рабочых мас у барацьбе з бюракратызмам і праверцы работ дзяржаўнага і гаспадарчага апарату праз і сумесна з існуючымі арганізацыямі рабочых і сялян як-та: прафэсыйнымі арганізацыямі, вытворчымі нарадамі, кантрольнымі камісіямі прадпрыемстваў, фабкомамі, мясцкомамі, эканомкамісіямі, сэкцыямі саветаў, дэлегацкімі сходамі работніц і сялянак і г. д. Рабкрын павінен уцягваць рабочых ва ўсе стадыі сваёй работы выносячы вынікі сваёй работы на абгаварэньне агульназаводзкіх сходаў, адчыненых сходаў ячэек, клюбных сходаў і г. д.

Неабходна ўстанавіць за правіла, каб не абмяжоўваючыся інфармацыяй аб паасобных работах РСІ, да прапрацоўкі паасобных пытаньняў праграмы абсьледваньня РСІ, прыцягваліся групы работнікаў данага прадпрыемства і ўстановы, актыўна ўдзельнічаючы і дапамагаючы органам РСІ.

Пленум прызнаў, як адну з асноўных работ ЦКК—РСІ працяг спрашчэньня гаспадарчага, дзяржаўнагаа парату і спрашчэньне, патаненьне і ўдасканаленьне яго кіраўніцтва праз праверку вынікаў рацыяналізацыі дзяржаўнага і гаспадарчага апарату, дапамагаючы арганізацыі самімі ўстановамі рацыяналізатарскай работы, так як толькі гэта работа дасьць больш станоўчыя вынікі, калі яна будзе праводзіцца самімі ўстановамі;

Актуальнай задачай органаў ЦКК—РСІ па праверцы ходу рацыяналізацыі прамысловасьці зьяўляецца—прыцягненьне і ўдзел у гэтай рабоце вытворчага актыву прадпрыемстваў і рабочых мас.

Усяляк заахвочваючы лепшыя ўзоры рацыяналізатарскай работы, неабходна пераносіць іх на другія прадпрыемствы і ўстановы і ў той-жа час арганізаваць заахвочваньне грамадзкай крытыкі, выкрыцьцё ўсяго адмоўнага ў гэтай рабоце.

У мэтах узмацненьня барацьбы з бюракратызмам, паскарэньня расьсьледваньня і разгляду скаргаў на зьявішчы бюракратызму і валакіты ў дзяржаўным, гаспадарчым апараце і грамадзкіх арганізацыях і на няўважлівыя і нядбайныя адносіны службовых асоб да запытаньняў працоўных, а таксама ў мэтах арганізацыі ўдзелу ў расьсьледваньні і разборы скаргаў рабочых, Пленум прыняў рашэньне аб арганізацыі Бюро скаргаў НКРСІ.

Кантроль і праверка выкананьня дырэктыў партыі і ураду павінны быць узмоцнены, як адна з важнейшых мер, дапамагаючая своечасоваму іх выкананьню. РС павінна ўзяць ініцыятыву і садзейнічаць арганізацыі ў установах і прадпрыемствах самакантролю і праверкі.

Лічыць неабходным прыступіць безадкладна да сыстэматычнай праверкі выкананьня савецкімі арганізацыямі дырэктыў партыі і ўраду „сіламі рабочых, абіраемых заводзкімі сходамі і ліш вазглаўляемых і інструктыруемых работнікамі Рабкрына“ (рэз. XV Зьезду).

Пленум даручыў Прэзыдыуму распрацаваць і аформіць праз кіруючыя савецкія органы пытаньне аб забесьпячэньні магчымасьці прыцягненьня рабочых да гэтай работы прыкладна, дапасоўваючы гэта да ўмоў работы членаў Гарсаветаў.

Выходзячы з таго, што посьпех у барацьбе з бюракратычнымі скажэньнямі дзяржаўнага і гаспадарчага апарату будзе залежыць ад актыўнага ўдзелу рабочых і сялянскіх мас у справе савецкага будаўніцтва,—Пленум ЦКК КП(б)Б аднэй з важнейшых мер да ажыцьцяўленьня гэтай задачы лічыць правядзеньне і пашырэньне рабочай, савецкай і партыйнай дэмакратыі. ЦКК—НКРСІ павінен паставіць сваёй задачай сыстэматычную праверку яе ажыцьцяўленьня, барацьбу з усімі перашкодамі, якія парушаюць дэмакратыю і бязьлітаснае выкрыцьцё арганізацый і асоб парушаючых яе; у прыватнасьці неабходна весьці рашучую барацьбу з праявамі расьсьледваньня яе за крытыку дзеяньняў службовых асоб і работнікаў,

Пры практычных абсьледавацельскіх работах павінны ўлічвацца тыя рабочыя і сяляне, якія праяўляюць актыўнасьць і здольнасьць, у мэтах іх вылучэньня, на пастаянную работу ў грамадзкім і савецкім апараце, а таксама весьці бязьлітасную барацьбу і прасьледваньне няўважлівых і бюракратычных адносін да вылучэнцаў, усімі мерамі дабіваючыся далейшых пасьпехаў сапраўднага арабачэньня савецкага і гаспадарчага апарату.

Пленум ухваліў перагляд Прэзыдыумам пляну працы ЦКК—НКРСІ БССР у напрамку суадпаведнасьці з пастановамі XI Партзьезду і заданьнямі ЦКК—РСІ СССР, у прыватнасьці—прынятыя мерапрыемствы па зьніжэньню сабекошту будаўніцтва, пытаньняў капітальнага будаўніцтва і інш.

Пленум абавязаў АКК і мясцовыя парт. камітэты ўзмацніць работу па ідэёваму ўзьдзеяньню і перавыхаваньню радавых членаў партыі, уцягнутых у трацкісцкую апазыцыю і толькі несправімых элемэнтаў з іх выключаць з партыі.

* * *

Па дакладу т. Мундаў аб дзейнасьці і выніках абсьледваньня Менскай АКК (за гадавы пэрыяд), Пленум ЦКК адзначыў, што ў яе працы—у параўнаньні з мінулым пэрыядам,—маюцца значныя пасьпехі ў сэнсе разгортваньня працы як па партыйнай, так і па савецкай галінам, на падставе пастаноў апошніх Зьездаў УсеКП(б), КП(б)Б і акруговай партыйнай Канфэрэнцыі.

Выходзячы з таго, што ў гэты пэрыяд пад уплывам дзейнасьці трацкісцкай апазыцыі і ў Менскай арганізацыіназіраліся прыхільнікі гэтае апазыцыі, АКК вяла рашучую барацьбу з імі, шляхам выключэньня з партыі актыўных апазыцыянэраў і шляхам выхаваўчага ўзьдзейнічаньня на тых рабочых-партыйцаў, якія мелі некаторыя хістаньні па паасобным пытаньням, і наогул вывучала ў гэтым напрамку становішча акруговай арганізацыі і своечасова ставіла інфармацыю на Бюро АК КП(б)Б.

Актыўны ўдзел АКК у рацыяналізацыі акруговага савецкага апарату, назіраньне за выкананьнем раней дадзеных дырэктыў па гэтаму пытаньню з боку ЦКК РСІ, падагуленьне і вывучэньне вынікаў ранейшай рацыяналізацыі і спрашчэньня апарату, праводзячы таксама працу па зьніжэньню 20% адміністрацыйна-гаспадарчых выдаткаў.

Побач з гэтым АКК штодзённа вяла змаганьне з паасобнымі зьявішчамі бюрократызму, пратэкцыянізму і безгаспадарчасьці (па ліку разгледжаных гэткіх пытаньняў на Прэзыдыуме АКК, Менская АКК займае першае мейца і 27% у адносінах да ўсіх АКК), прыцягваючы да адказнасьці паасобных адміністрацыйных асоб і кіраўнікоў.

Паглыбленьне сувязі з масамі, масавымі і партыйнымі арганізацыямі.

Правільны падыход пры разглядзе партсправаў у напрамку садзейнічаньня рэгуляваньню сац. складу арганізацыі (агульны адсеў служачых—2,1%, рабочых—0,7% і сялян—0,2%); выпраўленьня лініі райкомаў (38% адмены); вывучэньне і барацьба з такімі балючымі зьявішчамі, як растраты, запазычанасьць і рэлігійныя абрады.

На падставе папулярызацыі работы АКК павялічылася колькасьць скаргаў, пададзеных у АКК за абсьледуемы пэрыяд (усяго 315 скаргаў), хаця, галоўным чынам, паступаюць скаргі ад служачых (39%), сялян (19,5%), рабочых (9,5%) і 134 газэтныя заметкі, прысланыя для расьсьледваньня рэдакцыямі газэт.

Дастатковая ўвязка працы з Сэкцыяй РСІ Гарсавету, выкарыстоўваньне яе матар'ялаў, прыцягненьне членаў Сэкцыі да працы АКК і пераношваньне абсьледвацельскіх мэтадаў АКК на працу Сэкцыі РСІ.

Побач з гэтым, Пленум ЦКК адзначае шэраг наступных недахопаў у дзейнасьці Менскай АКК: недастатковае асьвятленьне дзейнасьці АКК на шырокіх сходах рабочых і служачых тых установаў, у якіх праводзіцца абсьледваньне; недастатковая сувязь з рэвізыйнымі Камісіямі і рабселькораўскімі арганізацыямі; недастатковая пастаноўка пытаньняў савецкага характару ў Прэзыдыуме АВК, як плянавых, так і пазаплянавых, з мэтай дачы належных дырэктыў па пытаньням, якія прапрацавала АКК, савецкім установам акругі, хаця ў апошні час гэтае становішча паляпшаецца; АКК недастаткова займалася вывучэньнем прычын, параджаючых такія балючыя зьявішчы, як парушэньне партдысцыпліны

і п'янства ў партарганізацыі, якія па матар'ялам і ведам у АКК займаюць галоўнае мейсца ў Менскай арганізацыі (парушэньне партдысцыпліны—33% усіх балючых зьявішч, п'янства—25%); недастатковая астаноўка работы па праверцы выкананьня і рэалізацыі сваіх пастаноў, дадзеных, як па савецкай, так і партыйнай лініі.

На падставе адзначаных недахопаў і задач, якія стаяць перад ворганамі КК РСІ,—Пленум ЦКК КП(б)Б дstation Менскай АКК прыняць да кіраваньня наступнае:

Для ажыцьцяўленьня пастаноў XV Зьезду УсеКП(б) па пытаньню дзейнасьці органаў КК РСІ,—неабходна, каб у рабоце АКК у будучым значнае мейсца займала прыцягненьне шырокіх мас рабочых і сялян да праверкі работы савецкага апарату.

Праца па палепшаньню акруговага савецкага апарату, побач з праверкай выкананьня раней дадзеных дырэктыў, павінна пайсьці ў напрамку, галоўным чынам, пастаноўкі самарацыяналізатарскай работы ведамства, каб апошнія не супакойваліся на дасягнутых выніках, а на падставе іх паглыблялі спрашчэньне сваіго апарату.

Для большай хуткасьці праходжаньня і рэалізацыі пастаноў КК РСІ савецкага характару, неабходна ў большай меры ставіць гэтыя пытаньні на Пленумах і Прэзыдыуме АВК.

У галіне партыйнай работы АКК неабходна зьвярнуць увагу на наступнае:

а) вывучэньне, на падставе маючыхся ў АКК матар'ялаў па разгляду партспраў, становішча партдысцыпліны ў Менскай арганізацыі і п'янства сярод партыйцаў, у мэтах папярэджаньня гэтых зьявішч;

б) практыкаваць у большай колькасьці выезды парттроек у вытворчыя ячэйкі і мясцовыя партарганізацыі для разгляду партспраў;

в) усялякімі мерамі (напамінкі, пасылка асабістых лістоў, вуснае тлумачэньне) дабівацца павялічэньня прысутнічаньня партыйцаў пры разглядзе іх спраў у АКК;

г) больш роўнамерна ўцягваць членаў і кандыдатаў АКК на пасяджэньні парттроек даручаць ім азнаямленьне з справамі і быць дакладчыкамі па ім на пасяджэньні парттроек;

д) зьвярнуць увагу на хутчэйшае праходжаньне, зацьверджаньне на Прэзыдыуме АКК пратаколаў парттроек і наогул хутчэйшы разгляд партспраў на парттройках (меліся залежы 101 справы, што складае да разгледжаных 70%).

Практыкаваць уцягненьне партзаседацеляў ў агульную працу АКК, у прыватнасьці ў якасьці дакладчыкаў па партсправам, якія разглядаюцца на пасяджэньнях парттроек.

Усебакова вывучаць матар'ялы па справаздачам партзаседацеляў на сваіх ячэйках, з мэтай высьвятленьня ці сапраўдна ажыцьцяўляецца сувязь АКК з вытворчымі ячэйкамі праз партзаседацеляў.

АКК, на падставе пастаноў Прэзыдыуму ЦКК аб задачах Бюро Скаргаў ЦКК РСІ, распрацаваць дзеля сябе мерапрыемствы, якія будуць паляпшаць разгляд скаргаў, паступаючых на акруговыя ўстановы.

Узяць у рабоце такі напрамак, каб на падставе скаргаў ставіць паасобныя пытаньні перад партыйнымі і савецкімі ворганамі аб зьмене ў сыстэме работы ведамстваў і ворганаў, на якія падае большасьць скаргаў з мэтай папярэджаньня бюракратычных зьявішч у гэтых ворганах.

Зьвярнуць увагу ў далейшай працы АКК на ўзмацненьне праверкі выконваньня дырэктыў АКК і ЦКК, як у галіне рацыяналізацыі савецкага апарату, так і па другім пытаньням савецкага і партыйнага характару.

АКК зьвярнуць увагу на працу па праверцы правядзеньня дырэктыў нацпалітыкі ў акрузе, у прыватнасьці—паглыбленьне беларусізацыі ў самім апараце АКК, падвышаючы ўжываньне беларускай мовы ў штодзённай працы АКК.

Зьвярнуць увагу Менскай АКК, каб упаўнаважаны АКК па Барысаўскаму раёну ў большай меры прыцягваў да сваёй працы, асабліва па разгляду скаргаў і рабселькораўскіх заметак, членаў Сэкцыі РСІ пры Гарсавеце, членаў масава-грамадзкіх арганізацыяў (рэв. каміс., рабселькораў, эканом і вытворчых камісіяў).

Асобным пунктам па гэтаму дакладу Пленум ЦКК вызначыў перад АКК задачу далейшага замацаваньня адзінства партыі ў шэрагах Менскай Арганізацыі.

* * *

Акрамя вышэйпаказаных рашэньняў Пленум ЦКК зацьвердзіў рэзалюцыю па дакладу т. Элькінда аб выніках скарачэньня адм.-кіраўнічых выдаткаў па каштарысу на 27-28 год і тэзісы т. Ракава аб паляпшэньні пастаноўкі ведамственнай рацыяналізацыі.

# ПАРТЫЙНАЯ ХРОНІКА

## У ЦК КП(б)Б

28 і 29 лютага г.г. пры АПА ЦК КПБ адбылася Нарада Савпартшкол, на якой абгаварваліся наступныя пытаньні:

1. Аб працы Савпартшкол (даклады з мейсц);

2. Аб рэарганізацыі Магілеўскай Савпартшколы ў Палітасьветны Тэхнікум;

3. Аб вучоце працы савпартшкол пры Дальтон-пляну;

4. Разгледжаны і ўхвалены ўмовы прыёму: а) у савпартшколы II ступені і б) у палітасьветны тэхнікум.

У прынятай рэзалюцыі па першаму пытаньню нарада адзначае нездавальняючае наогул укаплектаваньне Савпартшкол II ступені, а таксама пагоршаньне сацыяльнага складу і малы процант жанчын залічаных у школу ў гэтым годзе, што тлумачыцца няўважлівымі адносінамі некаторых акруг да падбору дасылаемых кандыдатаў.

Як станоўчыя бакі ўкамплектаваньня Савпартшкол II ступені адзначаецца павялічэньне проценту і паляпшэньня нацыянальнага складу слухачоў. У цэлым шэрагу прапаноў для далейшай працы, Нарада зьвяртае ўвагу на наступныя моманты: а) лепшы адбор кандыдатур з боку агульна-адукацыйнай падрыхтоўкі; б) сваечасовае выданьне падручнікаў на беларускай мове; в) арганізацыю вучэбных калегій пад кіраўніцтвам Загадчыкаў Навучальнай часткі ў мэтах палепшаньня кіраўніцтва прадметнымі камісіямі; г) перапрацоўку належным чынам праграмы курсу; д) зьнішчэньне такога недахопу, як перагрузка студэнтаў вучэбнай працай; е) сыстэматычнае практыкаваньне пісьмовай працы па асобным дысцыплінам.

Галоўнае, на чым спынілася нарада і вынесла сваю пастанову гэта тое, што ў зьвязку з задачамі КПБ у вёсцы (калектывізацыя і належны ўздым сёльскае гаспадаркі) неабходна палепшыць у школах працу па агранамічнай грамаце, вылучыўшы яе ў асобную дысцыпліну, а таксама ўключыць у навучальны плян новы прадмэт—каапэрацыю.

Па другому пытаньню нарада пастанавіла ў выкананьне пастановы Бюро ЦК КПБ ад 11 лістападу 1927 году з 1928-29 навучальнага году рэарганізаваць Магілеўскую Савпартшколу ў палітасьвет-тэхнікум, мэтавай установкай для якога зьяўляецца падрыхтоўка партыйца работніка масавіка (загадчык Нардому, хаты-чытальні, клюбу, дома селяніна, бібліятэкі), а таксама для працы ў якасьці настаўніка школ дарослых паніжанага тыпу (загадчык апорнага лікпункту і школы малапісьменных).

Тэрмін навучаньня ў палітасьветным тэхнікуме ўстанаўляецца чатыры гады.

Па трэцяму пытаньню прынята рэзалюцыя аб арганізацыі вучоту працы пры дальтон пляне ў Савпартшколе, мэтай якога зьяўляецца выяўленьне ступені ўсваеньня курсантам асноўных пытаньняў прапрацованага матэрыялу, растлумачэньня яму ня зусім правільна зразумелых момантаў заданьня і рэгуляваньня на падставе вучоту пабудаваньня далейшых заданьняў, падбору адпаведнай літаратуры і прыстасаваньня к індывідуальнаму разьвіцьцю курсантаў.

Згодна ўхваленых правілаў прыёму:

а) У Магілеўскі палітасьветны тэхнікум на 1928-29 навучальны год адбор і праверка ведаў асоб, якія жадаюць паступіць у Тэхнікум будзе праводзіцца ў вылучаных для гэтага камісіях пры Акругкомах КПБ з 15 мая па 15 чэрвеня.

б) Адбор курсантаў у Савпартшколы таксама будзе праводзіцца камісіямі пры Акругкомах з 15 мая.

## У ЦКК КП(б)Б

### Аб новых мэтадах працы Бюро Скаргаў РСІ

Згодна дырэктыў апошняга Пленуму ЦКК распрацавана новае палажэньне аб працы Бюро Скаргаў РСІ

*Разгледжаньне скаргаў па пытаньням злоснага бюракратызму і валакіты службовых асоб праводзіць Бюро Скаргаў у складзе членаў ЦКК, якія працуюць у Б. С. і ня менш 2-х выбарных рабочых заседацеляў*, выклікаемых па чарзе пад старшынством члена ЦКК — Загадчыка Б. С. альбо іншага члена ЦКК.

*Найбольш паказальныя і характарныя справы разглядаюцца на адчыненных пасяджэньнях Бюро Скаргаў на прадпрыемствах, у клюбах і на шырокіх сходах рабочых.*

Рабочыя заседацелі абіраюцца тэрмінам на 1 год на агульных фабрычна-завадзкіх сходах найбольш буйных прадпрыемстваў,

Перад выбарамі агульныя сходы інфармуюцца аб задачах рабочых заседацеляў і аб дзейнасьці Бюро Скаргаў.

*Да ўдзелу ў працы Бюро Скаргаў прыцягваюцца прадстаўнікі* суадпаведных *прафворганаў, парт. ячэек, камсамольскіх ячэек, дэлэгаткі Жан. аддзелу і іншых масавых арганізацый.*

У мэтах шырокага асьвятленьня пастаноў Бюро Скаргаў у друку, на пасяджэньнях, якія разглядаюць справы, зьвязаныя з расьследваньнем па газэтным заметкам, павінны прысутнічаць прадстаўнікі рэдакцыйі суадпаведных газэт. Аб выніках разгляду па рабселькораўскім заметкам Б. С. робяцца даклады на рабселькораўскіх нарадах.

*Для расьследваньня скаргаў, якія паступаюць на імя Б. С. прыцягваюцца паасобныя рабочыя заседацелі і масавыя арганізацыі.* Па дагаворанасьці з адпаведнымі арганізацыямі для дапамогі ў рабоце Б. С. *выдзяляецца сталы актыў сяброў масава-грамадзкіх арганізацый* (КСМ, дэлегатак ЖА, рабкоры і інш.).

*Па справам, якія маюць найбольш грамадзкую значнасьць, патрабуючых разгляду на мясцох—арганізуюцца адчыненыя выязныя пасяджэньні Бюро Скаргаў* з прыцягненьнем 3-х рабочых заседацеляў, альбо 3-х прадстаўнікоў масавых арганізацый.

У мэтах шырокага асьвятленьня працы Б. С. і папулярызацыі яго работы праводзяцца *даклады аб дзейнасьці Бюро Скаргаў на шырокіх рабочых і сялянскіх сходах.* Аб працы Б. С. і сваёй дзейнасьці рабочыя заседацелі адчытваюцца перад рабочымі і інш. сходамі, якія абралі іх.

Бюро Скаргаў на падставе вывучэньня разглядаемых скаргаў павінна пэрыядычна ставіць перад Калегіяй РСІ паасобныя пытаньні зьвязаныя з сыстэмаю працы тэй ці іншай савецкай і гаспадарчай установы з мэтаю палепшаньня працы гэтых установ і папярэджаньня бюрократычных зьявішч у іх. Матар'ялы скаргаў і іх вывучэньні павінны скарыстоўвацца пры абсьследваньні тых ці іншых пытаньняў з боку работнікаў ЦКК—РСІ.

Адпаведна агульным прынцыпам гэтага палажэньня распрацована палажэньне аб працы Бюро Скаргаў пры акруговых КК—РСІ і *„аб ўпаўнаважаным Бюро Скаргаў АКК—РСІ па раёнам"*.

## З працы мясцовых партарганізацый

### Праца дэлегатак у сэкцыях гарсавету

Менскі Акругком заслухаў даклад аб выніках працы дэлегатак скліку 26-27 году ў сэкцыях Гарсавету. Акругком адзначыў правільнае разгортваньне працы прымацаваных да Гарсавету дэлегатак. У параўнаньні з мінулым годам праца дэлегатак у сэкцыях Гарсавету палепшылася, дэлегаткі былі прыцягнуты да практычнай працы, як то: 17 дэлегатак прымалі ўдзел у праверцы дробных цэн, да 30% з агульнага ліку 123 прымацаваных да Гарсавету дэлегаткі прымалі ўдзел у абсьследваньнях лекавых устаноў, школ, жактаў, камунальных будынкаў і інш. Палепшылася таксама праца па вучоту наведваньня дэлегаткамі пасяджэньняў пленумаў і сэкцый Гарсавету, і вучоту выкананьня даручаемай ім працы. Асабліва дэлегаткі цікавяцца работай гандлёва-коопэрацыйнай сэкцыі, процант наведваньня якой дасягае 60. Недастаткова дэлегаткі праявілі сябе на працы ў сэкцыях: Адміністрацыйнай-прававаой, Працы і Нарасьветы. Поруч з гэтым адзначаецца недастатковая ўвага з боку кіраўнікоў некаторых сэкцый (Аховы здароўя, нарасьветы) да працы дэлегатак. За час працы дэлегатак было праведзена два сходы жанчын сяброў Гарсавету разам з прымацаванымі дэлегаткамі, дзе акрамя інструктыраваньня заслухоўваліся і справаздачы асобных дэлегатак, Акругком даручыў фракцыі Гарсавету падрыхтаваць сьпісы найбольш апраўдаўшых сябе на працы дэлегатак з мэтай вылучэньня іх на грамадзкую працу.

### Работа сярод сялянак

Абгляд работ сярод сялянак у Любаньскім раёне (Бабруйскай акругі) выявіў шэраг дасягненьняў. Значна палепшылася кіраўніцтва з боку РК КПБ; павялічылася колькасьць дэлегацкіх пунктаў і лік дэлегатак і палепшыўся склад апошніх (лік сямейных дэлегатак павялічыўся—345 да 67%); палепшыўся ўдзел жанчын у добраахвотных організацыях; праводзіліся некаторыя мерапрыемствы па аказаньню экономічнай дапамогі бяднячкам, як каапэраваньне, крэдытаваньне. Але разам з гэтымі дасягненьнямі маюцца і значныя недахопы; праца дэлегацкіх сходаў ня досыць разгорнута, ня выканана дырэктыва аб прымацаваньні дэлегатак да практычнай працы; асоба праводзіцца палітасьветная і масавая праца сярод сялянак і вельмі дрэннае становішча ў галіне ліквідацыі няпісьменнасьці сярод дэлегатак. Колькасьць жаночага актыву—нязначная, і амаль што няма цягі з боку жанчын у партыю. Слаба ўцягваюцца бядначкі і батрачкі ў сходы беднаты.

### Абгляд працы дэлегацкіх сходаў

Бабруйскі АК прыступіў да абгляду працы дэлегацкіх сходаў шляхам праверкі выкананьня раней дадзеных дырэктыў АК. Абглядам будуць абхоплены 6 раёнаў.

# Пытаньні працы на вёсцы

### Абгляд становішча гаспадарак сялян-комуністых

Віцебскі Акругком КПБ правеў шырокае абсьледваньне становішча гаспадарак комуністых па акрузе. Абгляд выявіў некаторы пад'ём за апошнія гады ў гэтых гаспадарках.

Галоўныя адмоўныя бакі ў становішчы гаспадарак комуністых гэта малыя вынікі па калектывізацыі інтэнсіфікацыі і прымяненьне ў іх агрыкультурных мерапрыемстваў. Большасьць гаспадарак нічым не адрозьніваюцца ад агульнай масы сялянскіх гаспадарак, вядуцца адсталымі мэтадамі і не зьяўляюцца паказальным прыкладам. Прычынай гэтага зьявішча ў значнай ступені зьяўляецца няпоўнае кіраўніцтва і дапамога гаспадаркам комуністых з боку райкомаў і ячэек.

Таксама прыкмячаецца з боку часткі сялян комуністых незацікаўленасьць у пастаноўцы сваёй гаспадаркі на належную вышыню, што выклікаецца: 1) няправільнай думкай, што пад'ём і інтэнсіфікацыя гаспадаркі несумяшчальна з прабываньнем у партыі, і незразуменьня ў чым заключаюцца адмоўныя бакі гаспадарчага „абрастаньня“, 2) нездаровым імкненьнем пакінуць вядзеньне сельскай гаспадаркі і ісьці з вёскі ў горад.

На аснове матар'ялаў абгляду Акругком намеціў шэраг мерапрыемстваў па зьнішчэньню выяўленых недахопаў на шляху ажыцьцяўленьня апошніх дырэктыў XI партзьезду. Таксама даручана Акругкому КСМ падрыхтаваць пытаньне аб становішчы гаспадарак сялян-камсамольцаў.

### Праца сярод беднаты

Ветрынскі Райком адзначыў некаторыя дасягненьні ў працы груп беднаты. Апошнія прыймалі актыўны ўдзел у разьмеркаваньні скідачнага фонду на сельгаспадарку і страхоўцы, у разьмеркаваньні лесаматар'ялаў, а таксама ў перавыбарчай кампаніі спажывецкай і с.-г. коопэрацыі. Вялікім недахопам у працы груп беднаты да гэтага часу—гэта бясплянавасьць і адсутнічаньне вучоту працы; пратакольных запісаў на пасяджэньнях груп не вялося. З боку ячэйкі КПБ ня зьвернута досыць увагі на растлумачэньне і абгаварэньне на групах беднаты партыйных пастаноў аб рабоце сярод беднаты; практычная работа груп праводзілася па дырэктывам РК, уласнай-жа ініцыятывы ў гэтым напрамку ячэйкі амаль не праяўлялі. У шэрагу месц групы беднаты яшчэ не аформлены. Выходзячы з гэтага РК даў ячэйкам шэраг растлумачэньняў. Ячэйкам прапанована ня менш як адзін раз у два месяцы заслухоўваць справаздачы кіраўнікоў груп. На 19-га лютага РК намеціў склік раённай конфэрэнцыі бядняцкіх груп.

### Райконфэрэнцыі груп беднаты

Гомельскі АК пастанавіў склікаць па ўсіх раёнах у канцы лютага і пачатку сакавіка раённыя нарады-конфэрэнцыі груп беднаты з наступнай абвесткай дню:

а) Пастановы XV зьезду ЎсеКП(б) і XI зьезду КП(б)Б аб рабоце на вёсцы і задачы груп беднаты, б) аб практычных задачах работы сярод беднаты на раёне ў зьвязку з вясновай с.-г. кампаніяй і ўдзелу груп беднаты ў гэтых мерапрыемствах. Склад конфэрэнцыі АК лічыць неабходным абмежаваць 40—50 асобамі. На конфэрэнцыі будуць запрошаны прадстаўнікі ад усіх груп беднаты, а таксама прадстаўнікі ад беднякоў з тых выбарных органаў, дзе групы яшчэ дагэтуль не з'організаваны. Акругком таксама прызнаў неабходным абслужыць сваімі працаўнікамі ўсе конфэрэнцыі. Першая конфэрэнцыя была намечана да правядзеньня на 12-га лютага, дзеля таго, каб на вопыце яе, даць практычныя ўказаньні РК аб падрыхтоўцы конфэрэнцыі па іншых раёнах.

Адказны рэдактар *В. Кнорын*

Члены рэдколегіі { *А. Сянкевіч*, *Абрамчук* }

# ЗЬМЕСТ

Стар.

**Прышчэпаў.** Задачы рэканструкцыі сельскай гаспадаркі ў сёлетнюю пасеўкампанію . . . 3
**Я. Раманчук.** XV зьезд УсеКП(б) і задачы шэфтаварыстваў . . . 15
**М. Кардашенко.** К вопросам налоговой политики в деревне . . . 18
**У. Стракоўскі.** Прамысловасьць ВСНГ на I квартал 1927—1928 г. . . . 31
**Н. Коноплин.** Фашизм, как новейшая форма буржуазной диктатуры . . . 36
**А. Кіржніц.** У няволі буржуазнага нацыяналізму . . . 50
**А. Вінаградаў, Я. Ракаў.** Аб рацыяналізацыі партыйнага апарату . . . 63
**М. З-кі.** Аб выхадах з партыі . . . 72

## У ДАПАМОГУ ДАКЛАДЧЫКУ, АГІТАТАРУ

**Я. Р.** Вясеньняя пасяўная кампанія і задачы масавай работы на вёсцы . . . 76

## НАША ТРЫБУНА

**Н. Разумоў.** Трэба пакласьці пачын . . . 81
**Мазур.** За актывізацыю партыйных мас . . . 83
**Г. Самусевич.** Больные стороны машинных товариществ . . . 85

## НА МЯСЦОХ

**В. Стасевіч.** Аб выніках Аршанскага сакавіковага пленуму АК . . . 88
**Янка Мялешка.** Як жыве і працуе Гарадоцкая партарганізацыя . . . 91
**Х-н.** Гаспадарчая дапамога беднаце і пытаньне дыфэрэнцыяцыі вёскі . . . 94
**Б. Шпітальнік.** Практыка правядзеньня рэжыму эканоміі . . . 96

## У ЦК КП(б)Б.

Рэзалюцыі Сакратарыяту ЦК . . . 100
Рэзалюцыі АПА ЦК КП(б)Б . . . 105

## У ЦКК КП(б)Б

Што рашыў пленум ЦКК КП(б)Б . . . 109

## ПАРТЫЙНАЯ ХРОНІКА

У ЦК КП(б)Б . . . 112
У ЦКК КП(б)Б . . . 112
З працы мясцовых партарганізацый . . . 113

